


Фота
Віктара
ГАНЧАРЭНКІ.

Знаёмцеся: брыгада ардэнаносца, дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, шліфоўшчыка станкабудаўнічага аб'яднання імя С. М. Кірава Анатоля Мікалаевіча Макейчыка.
Наш расказ пра яго на 6—7-й старонках.

АКТУАЛЬНЫ ПОГЛЯД

# ПРАВА І АБАВЯЗАК

Праўда гісторыі лепш за ўсё выхоўвае людзей. Як і ўсякая праўда.

Узіраючыся ў мінулае, бачыш усю складанасць нашага агульнага лёсу — гадоў ваенных і гадоў напружанай стваральнай працы, пражытых народам і краінай. І гэта не выклікае нічога, апроч гордасці. Гордасці за суайчыннікаў, якія столькім ахвяравалі — і столькае змаглі, столькае сцвердзілі. Гордасці, якую сілкуе разуменне, што толькі жывое жыццё здольнае пераўтварыць імгненні нястрымнага часу, толькі ў людзях, у іх працы і натхненні час матэрыялізуецца ў ствараемы імі свет, толькі чалавек здольны ўзвысіць, сцвердзіць і перадаць свайму наступніку новыя духоўныя і культурныя каштоўнасці.

Азіраючыся на пройдзены шлях, бачыш: мінулыя гады, няпростыя гады, прымушалі сталець хутчэй. І герояў яны вылучалі — герояў дзеяння, людзей вялікай, цудоўнай душы, здольных на не менш цудоўныя ўчынкі. Але роздуму жыццё вымагала ад іх часам менш, чым вымагае яно сёння ад нас, бо шмат што з таго, што сёння патрабуе новых рашэнняў, было на той час натуральным і арганічным, а таму ясным. Трэба было дзейнічаць, увасабляючы ў жыццё жывыя ленінскія запаветы; сёння нас чакае якасна новы этап у развіцці грамадства — пераход ад колькасных да якасных паказчыкаў ва ўсіх сферах жыцця, і прыйшоў час паразважаць. Паразважаць грунтоўна і сур'ёзна, каб не здрадзіць тым самым ленінскім запаветам, не здрадзіць ім на патрэбу дня і абывацеля. Гэтага вымагае само жыццё. На гэта накіроўваюць нас новыя партыйныя дакументы напярэдадні чарговага XXVII з'езда КПСС.

У нас добрая стартавая пляцоўка, стабільны матэрыяльны грунт. Толькі ў ходзе ўдарных вахт у гонар 50-годдзя стаханаўскага руху 780 прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі выканалі заданні адзінаццатай пяцігодкі, 307 тысяч рабочых і калгаснікаў, звыш пятнаццаці тысяч брыгад, участкаў, ферм і цэхаў завяршылі асабістыя пяцігадовыя планы. А за гэтымі лічбамі — жывыя людзі, нашы сучаснікі, нашы землякі, і імёны іх ведае сёння не толькі Беларусь.

Дзесяткі, сотні, тысячы імён можна называць! З удзячнасцю называць. І з гордасцю. Менавіта па іх, па іхніх справах і іхным жыцці мяркуе свет аб савецкім чалавеку, аб савецкім характары.

Імкліва расце і духоўны патэнцыял рэспублікі. Дасягненні беларускіх вучоных у галінах фізікі, генетыкі, хіміі, энергетыкі вядомы шырока за межамі нашай краіны. Узбагачаецца культурная спадчына народа, вялікі атрад дзеячаў літаратуры і мастацтва, сярод якіх шмат слынных майстроў, працуе на тое, каб выхаваць чалавека духоўна багатага, чалавека дапытлівага, творчага.

Канечне, працэс выхавання — працэс складаны. Не ўсё і не заўсёды ў чалавечым характары можна лёгка вытлумачыць, а тым больш змяніць або выкараніць. Відаць, не ўсе праблемы намі тут вырашаны. Не сакрэт, што ў псіхалогіі сённяшняга актыўнага спажыўца адбыўся зрух: раней такія прыстасоўваліся да рэчаіснасці самі, зараз жа яны імкнуцца прыстасаваць да сябе само жыццё, так перайначыць яго, каб можна было ўладкавацца ў свеце з усімі выгодамі. Больш таго, ім важней ужо не маскіроўка ўласнай бездухоўнасці, а стварэнне куды больш небяспечнай бачнасці: быццам бы не яны, а жыццё, сам час — бездухоўныя. Бо калі так, дык і яны ўжо ніякія не абывацелі, а звычайная чалавечая норма і нават, як і іншыя, рухаюць прагрэс. Не! — гучыць сёння ўпэўнена на партыйных сходах і канферэнцыях, на сустрэчах перадавікоў вытворчасці і кіраўнікоў гаспадарак ці міністэрстваў. Не! Прагрэс рухаюць тыя, хто працай сваёй, усім жыццём сваім сцвярджаюць новыя рысы, новыя чалавечыя якасці: адданасць справе, ініцыятыўнасць, творчы падыход да вырашэння ўсіх праблем.

Права на працу — адно з найасноўных правоў чалавека, такім і ўпісана яно ў нашу Канстытуцыю. Але праца, самаадданая праца і асноўны абавязак наш, наш святы абавязак перад краінай, перад народам. Толькі працай будавалася наша дзяржава, толькі аддаючы ўсе сілы, уменне, майстэрства, можна было падняць краіну з разрухі,ператварыць сялянскую дзяржаву ў моцную індустрыяльную.

Што ж, мы яшчэ доўга будзем чэрпаць з нашага гераічнага мінулага і стваральную энергію і нязгасныя ідэі — вядома, з папраўкамі на патрабаванні НТР, на сённяшнія планы і задачы. А планы і задачы гэтыя сапраўды грандыёзныя і патрабуюць ад кожнага з нас поўнай аддачы, мабілізацыі ўсіх творчых сіл. Але яны нам па плячы.

У чым сіла? У дружбе і згуртаванасці нашых народаў, у інтэрнацыяналізме нашага погляду, у гуманізме нашай канечнай мэты.

**Таіса БОНДАР.**


Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# БЕЛАРУСЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1930 годзе.

**№1 (565) СТУДЗЕНЬ 1986г.**

**Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.**




НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: **вячэрні Мінск. Фота Уладзіміра АНЦАВА.**




Журнал «Беларусь» на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.11.85. Падпісана да друку 17.12.85. АТ 12361. Фармат 70×108¹/₈. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 13 000 экз. Зак. 595.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

НТР І ШКОЛА

# ЦІ ТОЕ ЯШЧЭ БУДЗЕ...

Ваш сын прыйшоў са школы і паведаміў, што знайшоў агульную мову з ЭВМ. Малайчына! І не падумайце, што ён выхваляецца! Бачыце на здымку дзевяцікласнікаў Мінскай СШ № 19? Яны хаця і на ты з навейшай вылічальна-рашаючай машынай, але вундэркіндамі сябе не лічаць. Фатаграфія зроблена ў першым у рэспубліцы дысплейным класе. Тут устаноўлены электронны — вельмі разумны! — комплекс «Ізот».

Навучыла ж братоў-блізнят Аляксандра і Льва Барысавых (як і шмат іншых хлопчыкаў і дзяўчынак) «размаўляць» з дзіўнай машынай інжынер Мінскага навукова-даследчага прыборабудаўнічага інстытута Марына Анатольеўна Іванова. Справа ў тым, што інстытут узяў шэфства над дзевятнаццатай школай, і цяпер у старшакласнікаў, па сутнасці, няма ніякіх праблем з камп'ютэрамі пры вывучэнні новага школьнага курса «Асновы інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі».



ЮБІЛЕІ

# «КАРУСЕЛЬ» І ВЕЖАВЫЯ КРАНЫ

Пра гэты юбілей вы не даведаецеся з адрыўных календароў. Аднак рабочыя станкабудаўнічых заводаў рэспублікі аб ім не забыліся. Шэсцьдзесят гадоў назад у Мінску, на заводзе імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, быў зроблены першы ў Беларусі станок для апрацоўкі металаў — такарны.

У параўнанні з сучаснымі ён, вядома, выглядае вельмі сціпла. Але па тым часе гэта была перамога! Таму што да дваццаць шостага года толькі рыдлёўкі, цвікі, дрот ды посуд выраблялі мінскія, аршанскія, магілёўскія майстры па метале.

Дэталь, якую вы бачыце на здымку, таксама нагадвае талерку, але вельмі вялікую — да трох метраў у дыяметры. На «каруселі» — так між сабой называюць такарна-карусельны станок рабочыя вытворчага аб'яднання «Будмаш» — нараджаюцца дэталі для магутных вежавых кранаў і экскаватараў. Дарэчы, у цэхах гэтага прадпрыемства працуе нямала станкоў, зробленых на заводзе імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. І ацэнку яны атрымалі высокую, таму што вызначаюцца надзейнасцю, дакладнасцю, дазваляюць нарошчваць прадукцыйнасць працы.

Вось ужо некалькі месяцаў аб'яднанне «Будмаш» выпускае прадукцыю ў лік XII пяцігодкі. З заданнем XI калектыў прадпрыемства справіўся яшчэ ў лістападзе мінулага года.



ВЫНАХОДНІЦТВА

# НЕ ДЛЯ ВЕТРАЗЯЎ

Як вы думаеце, колькі можа пацягнуць на вагах адрэз тканіны плошчай у... два квадратныя кіламетры? Пуд? Цэнтнер?

— Усяго адзін грам,— паведамілі нам у Інстытуце агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР. Менавіта там створана гэта тканіна. Аднак модніцам і краўцам пляскаць у далоні рана.

Справа ў тым, што якраз іх яна і не зацікавіць. Тканіна гэта распрацавана вучонымі для... фільтраў, якія ўлоўліваюць розныя прымесі з хімічных раствораў.

Навінка ўжо замяніла актываваны вугаль у гальванічнай вытворчасці Мінскага ВА вылічальнай тэхнікі. Новыя фільтры ачышчаюць каштоўныя электраліты, якія прымяняюцца пры вытворчасці мікрасхем.

Эканамічны эфект ад укаранення распрацоўкі на іншых прадпрыемствах абяцае скласці многія мільёны рублёў. Масавая вытворчасць цудоўнай тканіны для патрэб прамысловасці пачнецца ў XII пяцігодцы.

— Вядома, што гальванічныя ванны маюць уласцівасць хутка абрастаць брудам,— тлумачыць адзін з аўтараў вынаходніцтва, кандыдат хімічных навук І. П. Люблінер.— І наступае такі момант, калі трэба альбо чысціць ванны, альбо — замяняць электраліт, які, як вядома, складаецца з мноства кампанентаў і каштуе вельмі дорага. Калі чысціць, дык актываванага вугалю не набярэшся — на кожную ванну яго трэба 30 кілаграмаў. Рабочыя, якія выконваюць гэту аперацыю ўручную, у канцы змены нагадваюць камінараў, да таго ж вугальны пыл адмоўна ўплывае на работу дакладных прыбораў, што знаходзяцца ў цэху. Новы фільтр дазволіць скараціць расход вугалю ў сто разоў, а час для чысткі адной ванны з 10 гадзін да 60 хвілін. Пераканаўчая арыфметыка!

# ХАДА Хада Хада ХАДА Хада

НАШ ВОЛЬНЫ ЧАС

## ЗІМОЙ У ПАРЫЖЫ

Дзесяці хвілін хапіла мне, каб на вараным каньку, запрэжаным у шыкоўны вазок, аб'ехаць па першым сняжку ўвесь Парыж.

Вёска гэта старая... У Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці вам абавязкова растлумачаць: першапачатковая назва паселішча невядома. Але тое, што Парыжам яно стала называцца з 1812 года,— факт. Цяпер вёсачка зліласяз ускраінамі Навадруцка. Нейкая частка парыжан пераехала працаваць у мясцовую ПМК-49, а астатнія вяскоўцы па-ранейшаму заняты ў сельскай гаспадарцы.

Вядома, зімой у хлебаробаў больш вольнага часу, чым летам. І яны яго не марнуюць. Сумаваць у Парыжы няма калі.

У тутэйшым клубе мінулым летам правялі капітальны рамонт. Цяпер ён — адзін з самых утульных на Пастаўшчыне. Кіраўніцтва ПМК выдзеліла 5 тысяч рублёў на набыццё музычных інструментаў. А ўжо за стварэннем ансамбля справа не стала.

Ёсць тут агітбрыгада, хор, разнастайныя гурткі.

Ну, а для прыхільнікаў зімовых відаў спорту пракладзена лыжня, заліты каток. У выхадны дзень пры жаданні можна пакатацца на рускай тройцы. Словам, ёсць дзе з карысцю для здароўя, цікава і весела адпачыць.

ХВІЛІНА НА ІНТЭРВ'Ю

## ДЗЕ ЖЫВУЦЬ ДОЎГАЖЫХАРЫ?

Звычайна лічыцца, што толькі на Каўказе, куды ні пайдзі, абавязкова сустрэнеш чалавека, які «размяняў» другую сотню гадоў. Але статыстыка — навука дакладная і бярэ ў разлік толькі факты, а не ўяўленні, хаця і трывалыя.

Дык вось, на сённяшні дзень наша рэспубліка выйшла на чацвёртае месца па колькасці доўгажыхароў сярод 15 брацкіх рэспублік краіны. Аб гэтым нам паведамілі ў Міністэрстве аховы здароўя БССР. Толькі ў адной Віцебскай вобласці каля дзвюх з паловай тысяч чалавек рыхтуецца адсвяткаваць свой 100-гадовы юбілей.

— Амаль 200 нашых землякоў ужо адзначылі гэту знамянальную дату ў сваім жыцці,— сказаў старшыня Віцебскага абласнога камітэта «Чырвонага Крыжа» У. Г. Адаменка ў кароткім інтэрв'ю карэспандэнту часопіса.— Нашы ўрачы-герантолагі шмат робяць, каб дапамагчы людзям захаваць бадзёрасць нават у самым старэчым узросце.

ТЭЛЕГРАФНЫМ РАДКОМ

## ШАКАЛАДНЫЯ БЕРАГІ

У гэтым годзе на мінскай кандытарскай фабрыцы «Камунарка» будзе выраблена каля 40600 тон салодкай прадукцыі — калі не мора,

ПАДЗЕЙ
падзей
падзей
ПАДЗЕЙ
Хада падзей

дык, па меншай меры, добрае шакаладнае возера з арэхавымі берагамі.

У апошні час тут распрацавана і асвоена вытворчасцю каля 25 новых ласункаў. Гэта цукеркі «Пастушка», «Мара», «Рабінка» і іншыя.

...Майстар змены цукерачна-шакаладнага цэха Г. В. Хазеева дэманструе гэтыя кандытарскія вырабы.



ПА ЗАПАВЕТАХ МАЙСТРОЎ

## З СІНЯГА ЛЁНУ

Лягчэй, бадай, да найноўшага прамысловага робата падступіцца, чым да гэтага (не такога ўжо складанага на першы погляд) станка. Спрактыкаваныя ў хіміі, сёння мы добра ўяўляем, як дыметылтэрэфталат ператвараецца ў лаўсан, і намнога горш — як лён становіцца прыгожым ручніком.

А вось пяцікласніца Алена Якубцэвіч (на здымку), яшчэ не ведаючы складаных хімічных формул, сёння ўпэўнена вырабляе накідкі, пакрывалы, абрусы і сурвэткі, зграбнасць і вытанчанасць якіх высока ацанілі спецыялісты ў Маскве. Дзяўчынцы прысвоена званне лаўрэата ВДНГ СССР.

Алену і яе равесніц навучае сакрэтам рамяства ў Падольскай сельскай школе Астравецкага раёна майстрыха Камелія Браніславаўна Лось. Дарэчы, дырэктар гэтай жа школы Лідзія Іванаўна Рубан — лаўрэат ВДНГ краіны за метадычныя распрацоўкі «Выхаванне на традыцыях народнага мастацтва».

З УСМЕШКАЙ АБ СУР'ЁЗНЫМ

## ПІВА СУПРАЦЬ... ХМЕЛЮ

Гэта піва смела могуць піць і непітушчыя. Назвалі яго «Сталовым». І ні ўрачы, ні супрацоўнікі ДАІ нічога супраць гэтага напітку не маюць. Наадварот, навінка вытворчага аб'яднання «Мінскпіўпрам» сустрэла ў іх, як і ва ўсіх прыхільнікаў цвярозага ладу жыцця, шчырае адабрэнне. Бо гэты каларыйны напітак, якім, дарэчы, надзвычай лёгка прагнаць смагу, хоць і называецца півам, аднак толькі на смак і па колеру напамінае «Жыгулёўскае». «Градусаў» жа ў ім — як у хлебным квасе. Зразумела, «Сталовае» і каштуе значна менш, чым гатункі піва, якія ўтрымліваюць алкаголь.

Выпуск новага безалкагольнага напітку, як паведамілі нам у аб'яднанні «Мінскпіўпрам», будзе ў гэтым годзе пастаянна нарошчвацца, да канца яго складзе 3.000.000 літраў.



ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## «ЦУДАЎ БЕЗ РЭШАТА НЕ БЫВАЕ»

Бачыце: загаловак у двукоссе ўзяты. Быццам цытата або вытрымка з навуковай працы. Але гэта — не тое і не другое. А словы начальніка вытворчага аддзела Дзяржаўнага камітэта БССР па рыбнай гаспадарцы А. А. Гнаянога. Размова ў нас з ім ішла пра крэветкі. Не тыя, што з Атлантыкі або Ціхага акіяна,— пра беларускія крэветкі гаварылі. І — пра вугроў.

— Яшчэ ў пяцідзесятых гадах,— расказвае Аляксей Аляксандравіч,— вучоныя вырашылі пасяліць вугроў у вадаёмах Мінскай, Віцебскай і Гродзенскай абласцей. Усяго за перыяд з пяцьдзесят шостага па мінулы год было ажыццёўлена 26 пасадак шклопадобнага вугра, дастаўленага самалётамі з вадаёмаў Францыі і Англіі. Звыш пяцідзесяці мільёнаў штук малявак каштоўнай рыбы прыжыліся і цяпер адчуваюць сябе, як дома, у групе азёр з агульным сцёкам у рэкі Заходняя Дзвіна і Нёман. Дарэчы, вугрaгадоўля ў Беларусі развіваецца ў азёрных сістэмах. Такіх сістэм у рэспубліцы ўжо чатыры, а плошча іх — трыццаць тысяч гектараў.

Раней «начныя паляўнічыя» — як яшчэ называюць малявак вугра — лятаў да нас самалётамі. А нядаўна ім давялося змяніць гэты від транспарту на... аўтамабіль. Справа ў тым, што якім бы зручным і хуткім ні быў паветраны транспарт, а ўсё ж меў і свае мінусы, якія і прымусілі вучоных, канструктараў, спецыялістаў «прапанаваць» жывой далікатэснай рыбе замест рэактыўных лайнераў спецыяльна абсталяваныя грузавікі, знешне вельмі падобныя на рэфрыжэратары. Для камфартабельнага падарожжа малявак створана спецыяльная сістэма жыццезабеспячэння. Цяпер у пенапластавых кантэйнерах ім лягчэй пераносіць дарогу.

Рыба гэта расце не хутка. І ўсё ж, на думку спецыялістаў, праз 3—4 гады ў вадаёмах Беларусі можна будзе вылоўліваць у сезон не менш як 100 тон таварнага вугра. У далейшым уловы яго будуць яшчэ багацейшымі.

Але вернемся да крэветак. І ўявім: тэрмометр паказвае мінус 20 градусаў, дрэвы — у шэрані. Словам, студзеньскі мароз. А вось гэты вадаём скаваць лёдам яму не пад сілу. Таму што побач — Бярозаўская ДРЭС.

Гадамі цёплыя воды станцыі грэлі берагі. Але мясцовая фауна — не трапічная, афрыканскую спёку пераносіць дрэнна. Карацей, не сяліліся тут ёршыкі-акунькі.

Амаль 500 гектараў воднай роўнядзі могуць даць багаты ўраджай — вырашылі вучоныя з Інстытута заалогіі Акадэміі навук БССР. Пры ўмове, што ў іх пасяляцца жыхары паўднёвых мораў і рэк. Напрыклад, крэветкі. Калі цяпер падысці да берага возера і «працэдзіць» ваду звычайным рэшатам, то... у ім абавязкова застанецца дзесятак-другі вёртлявых рачкоў. Быццам мы не ў Брэсцкай вобласці, а на Японскіх астравах...

— Так, з тых мясцін і «прыплылі» нашы крэветкі,— расказвае супрацоўнік Інстытута заалогіі кандыдат біялагічных навук Юрый Рыгоравіч Гігіняк.— Лічынкі іх абавязкова павінны пакупацца ў салёных водах акіяна. Дык вось, самай цяжкай справай было прымусіць рачкоў «забыцца» пра гэтую звычку.

— І што, сапраўды «забыліся»? — пытаюся.

— Як бачыце. Прычым даволі хутка. Дарэчы, не толькі ў Брэсцкай вобласці з'явіліся незвыклыя для мясцовых рыбакоў насельнікі вадаёмаў. Па нашых рэкамендацыях крэветкі ўжо гадуюцца і паблізу Новамічурынскай ДРЭС.

Эксперымент працягваецца. Хутка ўжо з'явяцца на прылаўках магазінаў, якія гандлююць рыбай, беларускія крэветкі. Далікатэсны, багаты на бялкі, кальцый, фосфар прадукт... Агульная колькасць крэветак у вадаёме Бярозаўскай станцыі, па падліках навуковага кіраўніка групы вучоных Інстытута заалогіі АН БССР Ніны Мікалаеўны Хмялёвай і яе калег, перавышае тры мільёны.

Выпуск падрыхтавалі Валерый ЛАПІН і Алесь ШАБЛЮК (фота).

Насустрач XXVII з'езду КПСС

# АБНАЎЛЕННЕ

Пімен ПАНЧАНКА,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР,
народны паэт Беларусі

Першы год новай дванаццатай пяцігодкі! Яшчэ не ўсталявалася зіма, панурае неба, дзьме сцюдзёны вецер. Але ў людзей — вясновы настрой. Наша Камуністычная партыя, усе савецкія людзі рыхтуюцца да XXVII з'езда КПСС. Чытаецца і перачытваецца, паўсюдна абмяркоўваецца праект новай рэдакцыі Праграмы Камуністычнай партыі. Гордая радасць напаўняе нашыя сэрцы: гэта праграма нашай працы і жыцця.

У памяці жывуць мудрыя рашэнні мінулагодніх пленумаў ЦК, даклады, выступленні, інтэрв'ю Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, яго паездкі ў Ленінград, Цюменскі край, на Украіну, у Беларусь і Казахстан. Усе мы адчулі, што наступае новая эпоха ў нашым жыцці.

Адно засталося нязменным: ленінская палітыка міру. Нашы прапановы аб скарачэнні ўзбраенняў, увесь комплекс мірных прапаноў, якія дапамогуць зберагчы свет ад ядзернай катастрофы.

Мы і далей будзем цвёрда і мэтанакіравана змагацца за мір. Будзем упарта і творча будаваць сваё сацыялістычнае грамадства.

Параўнальна нядаўна на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР слухалі справаздачу старшыні калгаса імя Куйбышава Кіраўскага раёна Віктара Васільевіча Крэса.

Было прыемна слухаць і маладога старшыню калгаса, і выступіўшага ў спрэчках кіраўніка славутага калгаса «Рассвет» двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Старавойтава. Васіль Канстанцінавіч хваліў калгас і яго старшыню і разам з тым зрабіў некалькі дзелавых заўваг і асабліва радаваўся, што ў куйбышаўцаў многа добрай працавітай моладзі. Аднаго не сказаў Васіль Канстанцінавіч: што калгас імя Куйбышава — сусед «Рассвета». І ўзыходжанне на першыя вышыні — вынік добрых парад і дапамогі калгаса «Рассвет» і самога Старавойтава. Гэта новыя з'явы ў нашым жыцці. А ў Брэсцкай вобласці, дзе ёсць такія выдатныя калгасы, якімі кіруюць Ралько, Дубко і іншыя, пастанавілі, каб кожны калгас і саўгас вывеў на новыя рубяжы гаспадарку, якая яшчэ адстае.

Наш народ горача і зацікаўлена, галоўнае — канкрэтна і дзелавіта абмяркоўвае на сваіх сходах Асноўныя напрамкі эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гады і на перыяд да 2000 года.

І ўсюды гучаць (і пачынаюць здзяйсняцца) словы і думкі, якія сталі блізкімі для савецкіх людзей: інтэнсіфікацыя, паскарэнне, здабыткі навукі — у вытворчасць, рабіць усё высакаякасна, для народа, для Радзімы. І яшчэ: даволі пустаслоўя, пустазвонства, ашуканства; даволі забіваць склады нізкаякаснымі таварамі, якія не патрэбны людзям; даволі цярпець п'яніц, зладзеяў, несуноў, раскрадальнікаў дзяржаўнага багацця, майстроў прыпіскі і падману, аматараў раздутых штатаў — на ўсё адмоўнае ў нашым жыцці мы вядзём усенародны наступ, рашучы і непрымірымы.

Дарэчы, пра раздутыя штаты. Акадэмік Т. І. Заслаўская 1 чэрвеня 1985 года ў газеце «Известия» выступіла супраць «папяровага» кіраўніцтва, безыніцыятыўнасці некаторых гаспадарнікаў, супраць тых, хто баіцца страціць сваё наседжанае месца. Яна піша: «Наспелую задачу інтэнсіфікацыі эканомікі партыя звязвае з прыходам да пераважна эканамічных метадаў упраўлення. Гэта істотна больш складаная справа, чым кіраўніцтва з дапамогай дырэктыў і загадаў. Разам з тым пры новых метадах наўрад ці спатрэбіцца настолькі груваcткі апарат кіраўніцтва, які ёсць зараз».

Але ёсць і іншыя прыклады. Па штату таму ж калгасу «Рассвет» (дзе старшынёю Старавойтаў) патрабуецца апарат кіраўніцтва з 78 чалавек. Пастановай сходу ўпаўнаважаных ён скарочаны да 28. Прычына: менш будзе прамежкавых звенняў у кіраўніцтве — больш канкрэтнай будзе адказнасць за даручаную справу. Эканомія ад скарачэння штатаў штогод — 150000 рублёў. І гэта ў адным калгасе!

У праекце новай рэдакцыі Праграмы яскрава пастаўлены задачы перад работнікамі літаратуры і мастацтва: «Галоўная лінія ў развіцці літаратуры і мастацтва — умацаванне сувязі з жыццём народа, праўдзівае і высокамастацкае адлюстраванне сацыялістычнай рэчаіснасці, натхнёнае і яркае раскрыццё новага, перадавога і страснае выкрыванне ўсяго, што перашкаджае руху грамадства наперад».

І тут мы, беларускія пісьменнікі, сумленна і горка павінны прызнаць: адстаём ад жыцця. Па творах М. Шолахава і М. Астроўскага, У. Маякоўскага і А. Твардоўскага, Я. Купалы і Я. Коласа і іншых лепшых савецкіх пісьменнікаў можна вывучаць жыццё нашай краіны і ўласнае жыццё пісьменнікаў.

У нашай сённяшняй беларускай літаратуры пра наша жыццё знойдзеш тры-чатыры таленавітых аповесці, адну-дзве п'есы, некалькі вершаў, апавяданняў і нарысаў. А большасць твораў невысокай якасці часта шэрая і нецікавая. Прачытаеш некаторых аўтараў і не зразумееш, калі гэта напісана: да вайны, пасля вайны ці, наогул, у невыразных і ўмоўных прасторы і часе. І для чаго напісана? Многія топчуцца на даўно пратаптаных сцежках.

Чытач засумаваў па добрай кнізе, па станоўчым героі нашага часу. Сёння мы, як і ўвесь савецкі народ, павінны з вялікай адказнасцю і надзеяй сказаць самім сабе: «За працу!»

ЗМЕНЫ Ў ЖЫЦЦІ —
ЗМЕНЫ Ў ЛІТАРАТУРЫ

# ЖЫВАЯ СУВЯЗЬ

Аляксей ДУДАРАЎ,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР

Ніколі за ўсю гісторыю свайго існавання чалавецтву не даводзілася вырашаць такіх складаных праблем, якія ўзніклі ў другой палове XX стагоддзя. Ніколі не паўставала такога простага да жаху выбару: альбо-альбо. Гамлетаўскае пытанне касмічнага маштабу. Зніклі другасныя, эпізадычныя ролі, знікла выгоднае становішча нейтралітэту. Усе і ўсё стала галоўным. Няма ўжо «нічыёй» зямлі. І кожны свядомы чалавек, дзе б ён ні жыў і кім бы ні быў, замест бездапаможнага «што я магу?» павінен акрэслена і дакладна паставіць перад сабой мэту — што я зраблю! Каб не было вайны паміж народамі! Каб не было вайны паміж чалавекам і прыродай! Каб дзеці нашыя маглі спакойнымі вачамі глядзець на неба, не думаючы пра тое, што праклятае ўсімі часамі і народамі слова «вайна» пачварна дапасавана і да светлых зорак.

Няма патрэбы казаць пра ўплыў літаратуры на жыццё чалавека і грамадства, пра яе ролю. Літаратура — гэта тонкаадчувальны прыбор аховы псіхалагічнага здароўя і кожнага чалавека паасобку, і асобнага грамадства, і ўсяго свету ў цэлым. Якім жа дасканалым павінен быць гэты прыбор! Якая адказнасць ляжыць на чалавеку, якога прырода надзяліла талентам, а родны народ — даверам!

Наша грамадства імкліва ідзе наперад. У ім адбываюцца вялікія змены і зрухі ва ўсіх сферах жыцця. Ці не абганяюць іншым разам гэтыя змены, гэты рух літаратуру? Ці не губляемся мы сярод пытанняў: што зараз падтрымліваць? Што асвятляць? Якога героя «ствараць» за сваім пісьмовым сталом? У святле якіх пастаноў ці патрабаванняў? Народнасць і партыйнасць — гэта перш за ўсё адказнасць літаратара за свой народ і за справу партыі, што чакае і патрабуе ад літаратуры гістарычнага і сучаснага слова праўды, характару праўды, абставін праўды, якімі б яны ні былі... Літаратура не люстэрка, літаратура — павелічальнае шкло! Як часта мы паўтараем гэта геніяльнае выказванне! Як рэдка мы ім правільна карыстаемся! Сапраўдны мастацкі твор аб'ектыўна павялічвае ўсё: недахопы і вартасці, дасягненні і памылкі, бездухоўнасць і пачуццё высокага ідэалу, свята і цені. Чытачу прыкра чытаць творы, дзе адны аўтары заліваюцца салодкімі салоўкамі (што больш тыпова), а другія кугічуць злосным начным сычом (што менш тыпова, але сустракаецца). Тады можа сярэдзінка, якая заўсёды лічылася пазалочанай? Не сярэдзінка! А жывыя людзі, жывое грамадства, жывое жыццё... І жывая з ім сувязь. Нездарма ў праекце новай рэдакцыі Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза галоўнай лініяй у развіцці літаратуры і мастацтва вызначана — «умацаванне сувязі з жыццём народа»... Праўда можа быць выказана толькі высокім мастацтвам. Як жыццёвая, так і мастацкая праўда. Шэрасць, пасрэднасць, рамесніцтва, датыкаючыся да любых тэм, да любых праблем, пяючы дыфірамбы ці бэсцячы, нараджаюць толькі адно: безыдэйную пошласць. У чытача ж ці гледача адбіваюць ахвоту і імкненне да лепшага ў жыцці і выклікаюць нездаровае смакаванне таго, што не варта самога чалавека і з чым сам чалавек у першую чаргу павінен весці барацьбу.

Ніхто не сумняваецца, што ўсе мы любім свой край, свой народ. І ўсё ж мала верыцца ў любоў да родных палёў, лугоў і рэчак, калі гэтыя родныя лугі, палі і рэчанькі пакутуюць ад экалагічных хвароб. І ці не занадта часта мы прызнаёмся свайму народу ў любові і замілаванні? Ці не надакучыла слухаць яму, як яго любяць паэты, празаікі і драматургі, які ён вялікі, які ён... і гэтак далей. Ён варты гэтага? Бясспрэчна. Але ён варты яшчэ большага. Варты мець літаратуру, дзе зможа знайсці ясныя і недвухсэнсоўныя адказы на пытанні, што хвалююць яго дзяцей, падлеткаў, юнакоў і людзей сталых. Варты пачуць праўду пра свой лёс, пра свае ратныя і працоўныя подзвігі. Думаецца, што гэта праўда яму больш патрэбна, чым слязлівыя панегірыкі.

Тая праўда, якую ў сваіх творах неслі Купала, Колас, Мележ, Куляшоў, Караткевіч... Спыняю пералік, каб сказаць, якую багатую скарбніцу мае наша родная беларуская літаратура. Якія здабыткі яна мела ва ўсе часы. Як у цёмных, так і ў светлых. Наўмысна не называю тых, хто папаўняе гэтую скарбніцу сёння. Тых, для каго сувязь з жыццём народным і праўда рэчаіснасці была і ёсць не патрэбай часу, а патрэбай жыцця мастака, патрэбай творчасці.

# НА КРУТЫМ ПАВАРОЦЕ

Ехаць у калгас імя Дзеншчыкова мне, прызнаюся, не вельмі «свяціла». І вось чаму. Па задуме меркавалася пазнаёміцца з вопытнымі арганізатарамі з вялікім стажам сумеснай работы, паглядзець, як будуюцца адносіны паміж старшынёй і сакратаром парткома. Але і вопыту, і стажу ў цяперашняга старшыні Васіля Афанасьевіча Свірыда і сакратара парткома Уладзіміра Сяргеевіча Козырава пакуль мала: першы на гэтай пасадзе — пяць гадоў, другі — два гады. Далей. Калгас гэты асаблівы, традыцыі склаліся даўно. Ранейшы «Авангард» і яго былога старшыню Пятра Іосіфавіча Дзеншчыкова я ведаў добра. Ведаў і людзей — яны моцна верылі свайму кіраўніку і ішлі за ім. Дзеншчыкоў і Свірыд — людзі розныя і па характару, і па дзелавой хватцы, і па адукацыі. Зразумела, што новы старшыня стараўся сцвердзіць сябе як кіраўніка, знайсці свой стыль, які не супярэчыў бы традыцыям. Ці ўдалося гэта Васілю Афанасьевічу? Ці не атрымалася, як гаворыцца, са сваім статутам у чужы манастыр? Ці не пахіснулася перадавая гаспадарка пры новым кіраўніцтве?

Цяперашні сакратар парткома перш настаўнічаў у мясцовай Луцкаўлянскай школе. І сапраўды: у гаворцы, меркаваннях, ва ўсім выглядзе Уладзіміра Сяргеевіча адчуваўся педагагічны пачатак, адчувалася тое няўлоўнае, што накладвае школа на былых настаўнікаў і якое застаецца ў іх, дзе б яны потым ні працавалі.

Выбралі Козырава сакратаром калгаснай партарганізацыі нечакана для яго, але не выпадкова. Вопыт арганізатарскай і партыйнай работы ў яго быў: пасля педінстытута і арміі кіраваў лектарскай групай абкома камсамола, выкладаў у Свіслацкай школе-інтэрнаце, быў дырэктарам Польнабагатырскай васьмігодкі. Камуністы Луцкаўлянскай дзесяцігодкі раней уваходзілі ў састаў калгаснай партарганізацыі, і Уладзіміра Сяргеевіча выбралі намеснікам сакратара парткома. Пазней быў ён і сакратаром школьнай партарганізацыі. А наогул трэба сказаць, што калгас і школа жывуць адным жыццём, у іх агульныя інтарэсы, агульныя клопаты. З часоў Дзеншчыкова так павялося, што школе ўдзяляецца самая вялікая ўвага. У сваю чаргу педагогі і вучні не застаюцца ў даўгу перад калгасам. Так было і тым разам. Уладзімір Сяргеевіч зайшоў да старшыні па справе: пад яго кіраўніцтвам напісана гісторыя калгаса і партарганізацыі, трэба было прадоўжыць гэту работу і стварыць музей.

— Пачакайце з музеем,— адказаў Свірыд,— мае быць другая размова...

І размова адбылася. У калгасе і ў райкоме партыі. У прысутнасці Козырава і без яго. Справа ў тым, што былы сакратар парткома, на думку камуністаў, за шырокай спінай Дзеншчыкова паступова страціў актыўнасць, самастойнасць у рашэнні пытанняў. Тады з гэтым мірыліся: Дзеншчыкоў сам мог пацягнуць воз і за дваіх, і за траіх. Але абставіны змяніліся. Гаспадарка адчувала пэўныя цяжкасці, і калгасным камуністам спатрэбіўся сапраўдны важак, а Свірыду — ініцыятыўны партыйны работнік, надзейны памочнік і саратнік.

Зразумела, што кандыдатуру новага сакратара ў калгасе абмяркоўвалі ўсебакова. Думкі былі супярэчлівыя. Спецыялісты гаварылі, што хоць Козыраў — хлопец вясковы, але многа гадоў у школе, не ведае да тонкасцей спецыфікі сельскай гаспадаркі. Сам жа Свірыд разважыў так: «Па характару я таксама трохі такі. А веды — справа нажыўная. Будзем працаваць...»

У лістападзе 1982 года камуністы калгаса выбралі Козырава сакратаром парткома. Ведаў Уладзімір Сяргеевіч, што пасада гэта вельмі цяжкая. Калі быў сакратаром школьнай партарганізацыі, часам «цягнуў» за ўсіх: таму не даручыш, той не справіцца — рабі сам. Не заўсёды складваюцца і адносіны з людзьмі, і не па сваёй віне. Не кожны вытрымае. На бюро райкома сакратарамі партарганізацый зацвярджалі восем чалавек, і яго, Козырава. На сённяшні дзень на гэтых пасадах засталіся нямногія.

Козыраў застаўся. Знайшоў сваё месца ў сям'і калгасных камуністаў, сцвердзіў сябе як кіраўнік. Хоць напачатку не грэх было і разгубіцца. Першы ж партыйны сход... не адбыўся. Рыхтавалі яго як звычайна: вывесілі аб'явы ў майстэрнях, у іншых месцах, дзе працавалі члены партыі. Але большасць камуністаў не з'явілася. Прыйшлося адмяняць сход, пераносіць на больш позні тэрмін. Усе разышліся, у кабінеце засталіся Свірыд і Козыраў. Сядзелі моўчкі, думалі кожны пра сваё. Уладзімір Сяргеевіч пакутліва шукаў прычыну, чаму ўсё ж камуністы не сабраліся на чарговы сход. Магчыма, давалі зразумець, што як сакратара яго не прызнаюць сур'ёзна? Быццам адгадаўшы яго думкі, Свірыд сказаў:

— Не засмучайся. Тут найперш недапрацоўка парткома. Улічым на будучае...

Назаўтра, пагартаўшы пратаколы ранейшых сходаў, Козыраў пераканаўся, што старшыня слушна гаварыў: наведвальнасць і раней была нізкая. Прааналізаваў — быццам бы і прэтэнзій прад'яўляць няма да каго: той заняты на працы, той у ад'ездзе. Але ж аб'яву вывесілі за некалькі дзён да сходу. Можна было і камандзіроўкі сплanаваць па-іншаму, і на рабочых месцах падмяніцца. З другога боку, што ён, сакратар парткома, ведае пра камуністаў, калгаснікаў? Ведае ў твар, хто дзе працуе, але далёка не пра кожнага — што за чалавек, якія ў яго клопаты, цяжкасці, карацей, што ў яго за душой. Так, нядобра атрымалася. Хоць сакратаром ён усяго месяц, але ж жыве сярод гэтых людзей амаль пятнаццаць гадоў.

Сход адбыўся праз тыдзень. А напярэдадні Козыраў і члены парткома сустрэліся і пагутарылі з кожным камуністам. Перад пачаткам сходу ўзгаднілі з камуністамі, на які дзень і час больш зручна прызначаць сход. Дамовіліся — на канец месяца.

На адной з раённых нарад партактыву першы сакратар райкома партыі Герой Сацыялістычнай Працы Антаніна Іванаўна Белякова выказала такую думку: дырэктар саўгаса ці старшыня калгаса — першая асоба ў гаспадарцы, ён адказвае і за эканоміку, і за выхаванне людзей. Свірыд запомніў гэтыя словы: сапраўды нельга дзяліць работу на гаспадарчую і партыйную. Таму ён імкнуўся з першых крокаў новага сакратара парткома ўвесці яго ў курс гаспадарчых спраў, зблізіць з людзьмі, знайсці ў сумеснай працы агульнае. Падказваў, што трэба рабіць, як павінна быць, знаёміў з тэхналогіяй, каб Козыраў выпадкова, па няведанні, не трапіў у няёмкае становішча. Мясцовыя жартаўнікі Свірыду вядомы: бацьку, сына не пашкадуюць, каб падкалоць, папікнуць. Сучаснаму кіраўніку, мякка кажучы, некампетэнтнаму, сакратар ён парткома ці спецыяліст, рабіць няма чаго — не прымуць яго людзі, не прызнаюць.

Ні тады, ні пасля Свірыд не абцяжарваў сакратара парткома залішняй апекай. Верыў: Козыраў абавязкова знойдзе свой стыль, свой падыход да людзей. Ведаў: толькі самастойнасць у працы параджае ініцыятыву, умацоўвае адказнасць за даручаны ўчастак. За новую для яго справу Козыраў узяўся горача, з душой: бываў на палетках, фермах, будаўнічых аб'ектах, гутарыў з людзьмі, уніклівa распытваў спецыялістаў пра тонкасці тэхналогіі жывёлагадоўлі, паляводства. І ўжо месяцы праз тры, калі Козыраў выступіў на сходзе і агітаваў за брыгадны падрад, да таго ж агітаваў, як кажуць, узброены канкрэтнымі фактамі, Свірыд ажно рукамі развёў: «Ну, Уладзімір Сяргеевіч, ну і ну — не горш спецыяліста разабраўся ў сутнасці справы. І прапановы слушныя, талковыя ўнёс. А галоўнае — людзей зацікавіў...»

Свірыд пераконваўся: такіх людзей, як Козыраў, першыя няўдачы не размагнічваюць, не выбіваюць з каляіны. Наадварот, прымушаюць сабрацца, больш выразна аналізаваць сітуацыю, шукаць выйсце з цяжкіх становішчаў. Калісьці гэтак і з ім было. У калгас ён трапіў у 1976 годзе пасля сканчэння Гродзенскага сельгасінстытута. Ішоў на пасаду аграномa-насеннявода, а давялося адразу ж замяніць галоўнага агранома Уладзіміра Фядосавіча Жданца (яго абралі старшынёй суседняга калгаса «Гвардыя»). Шчыра кажучы, крыху спужаўся тады Свірыд: гаспадарка перадавая, Жданец — славутасць, а ён — са студэнцкай лавы. А тут яшчэ адразу ж непрыемнасць. Не меншая, чым у Козырава. Папрацаваў чатыры дні — выклікалі разам з бухгалтарам у раённы камітэт народнага кантролю і закацілі па вымове «за хібы ва ўліку тарфакрошкі». Старшыня калгаса П. І. Дзеншчыкоў па-свойму «супакоіў» маладога спецыяліста:

— Што, уляцела за чужыя грахі? Ці гэта яшчэ будзе. Ты не бянтэжся — працуй. Ёсць прымаўка такая: «За аднаго бітага двух нябітых даюць. Ды і тых не бяруць...» Чуў, напэўна?..

І хоць Свірыд шмат што пераняў у Дзеншчыкова як кіраўніка гаспадаркі, цяжка давялося яму пасля смерці Пятра Іосіфавіча. Вельмі цяжка. І вось чаму. Свірыд — аграном па адукацыі, асноўную ўвагу ў калгасе ўдзяляў земляробству, як і патрабавала пасада. Стаў старшынёй... і спатыкнуўся на жывёлагадоўлі — цяжка было з ходу ўвайсці ва ўсе тонкасці. І ён настойліва вывучаў новыя праблемы, шмат чытаў, раіўся са спецыялістамі з суседніх, эканамічна больш моцных гаспадарак. Гэта дало свае вынікі. Пасля.

А тады... Перадавая гаспадарка мяса-малочнага накірунку з развітым буракасеяннем, спецгас па адкормліванні бычкоў, у 1981 годзе атрымаў 490 тысяч чыстага прыбытку, і толькі 90 тысяч прыпадала на жывёлагадоўлю. На ўмоўную галаву буйной рагатай жывёлы калгас меў усяго толькі 14,6 цэнтнера кармавых адзінак. Надой на карову склаў толькі 2870 кілаграмаў.

Было з-за чаго пачухаць патыліцу. Сталі аналізаваць, рабіць прыкідкі, шукаць выйсце. Прычын знайшлі шмат, а выйсце — адно: перабудоўваць структуру земляробства, прыстасоўваць яго да патрэб жывёлагадоўлі.

Патрэбны былі кармы, кармы і яшчэ раз кармы. Дый не пустыя, абы толькі для вагі, а паўнацэнныя, пажыўныя, багатыя бялком. Пашырылі плошчы пад зернебабовыя сумесі, кукурузу — яна дае тут да 500 цэнтнераў зялёнай масы з гектара. На фуражныя мэты замест жыта пачалі сеяць ячмень — павысіўся збор зерня. Наладзілі зялёны канвеер. Страціць перадавыя пазіцыі, вядома ж, лёгка, навярстаць — цяжка. Толькі ў 1983 годзе калгас выйшаў на паўтара мільёны чыстага прыбытку, з якіх 1,1 мільёна даў жывёлагадоўчы цэх. Летась гаспадарка ўжо мела 19,9 цэнтнера кармавых адзінак на ўмоўную галаву, надой ад каровы склаў 3.500 кілаграмаў, чысты прыбытак — 1,6 мільёна, большая частка гэтай сумы — ад жывёлагадоўлі.

Было б няправільна вінаваціць толькі Свірыда як кіраўніка за часовы спад эканомікі калгаса, дыспрапорцыю ў развіцці галін. На нейкім этапе ў гаспадарцы дапусцілі пралік, аслабілі ўвагу да жывёлагадоўлі, і гэта выявілася. Не трэба залішне перабольшваць і ролю Васіля Афанасьевіча ў тым, што калгас вярнуў страчаныя пазіцыі. Заслуга тут усяго калектыву, і ў першую чаргу камуністаў. Больш дакладна будзе сказаць, што поспех гэты стаў магчымы менавіта таму, што праўленне калгаса, яго старшыня, партыйная арганізацыя ў цяжкі момант выступілі адзіным фронтам, працавалі зладжана, узгоднена, поплеч.

Не менш цяжкай, чым вытворчая, была для Свірыда, для парткома і «кадравая палітыка». Дзеншчыкоў не любіў мяняць кадры. Падбіраў людзей асцярожна, удумліва і не спяшаўся рабіць вывады. Выхоўваў, вучыў. Са старымі работнікамі расставаўся неахвотна, асабліва з тымі, з кім разам «падымалі калгас». Яго часта папракалі, што ў сярэднім звяне ў яго ў асноўным практыкі без спецыяльнай адукацыі. Здаралася, сёй-той з іх па дробязі злоўжываў яго даверам. Пётр Іосіфавіч бачыў гэта. Але ён бачыў у чалавеку і тое, што з'яўляецца галоўнай яго сутнасцю. У першую чаргу цаніў ён гаспадарлівасць, працавітасць, бездакорнасць, адданасць справе.

Прыняўшы старшынскую пасаду, Свірыд стараўся захаваць гэту традыцыю. Але жыццё ідзе, людзі старэюць. Да таго ж на тым віражы, у які трапіў калгас пасля Дзеншчыкова, калі запатрабаваліся максімум напружання, самастойнасць у рашэнні пытанняў, ініцыятыва, некаторыя спецыялісты не затрымаліся на сваіх месцах — не здолелі прыстасавацца да новых, больш жорсткіх умоў працы. Прыйшлося расстацца з галоўным заатэхнікам. Яго замяніў Вацлаў Міхайлавіч Хіхол, выпускнік Гродзенскага сельгасінстытута, які раней працаваў загадчыкам фермы ў калгасе «Прагрэс». Выбар аказаўся ўдалым. Справы ў жывёлагадоўлі пачалі наладжвацца больш шпарка. За мінулую зімоўку калгас імя Дзеншчыкова ўзнагароджан Ганаровай граматай ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ, грашовай прэміяй і аўтамабілем «Масквіч».

Поспеху садзейнічала ўзмацненне партыйна-выхаваўчай работы ў цэхавых партарганізацыях — іх у калгасе пяць. Справаздачна-выбарчы партыйны сход 1983 года быў амаль цалкам прысвечаны жывёлагадоўлі, яе праблемам. У рэзалюцыі так і запісалі: «лічыць пытанні адкорму задачай нумар адзін». Умацавалі кадры, прынялі ў члены партыі чатырох жывёлаводаў. Цяпер у жывёлагадоўлі працуе 29 камуністаў — атрад працаздольны, баявы.

Умацавалі «сярэдняе звяно». Першы ўчастак узначаліла малады спецыяліст Рэгіна Лазовік, другі — былы трактарыст Мікалай Васілевіч, трэці — таксама малады спецыяліст Мечыслаў Кібілда. Мечыслаў скончыў сельгастэхнікум, пасля службы ў арміі вярнуўся ў калгас на пасаду памочніка загадчыка ўчастка. Прыставілі хлопца да вопытнага практыка Мікалая Васільевіча Кібіка, і той дапамог учарашняму салдату знайсці сваё прызванне. Старому Кібіку ўжо цяжка было ўходжвацца з участкам, і іх памянялі ролямі. Мечыслаў Кібілда вучыцца завочна ў сельгасінстытуце, летась яго прынялі ў партыю.

Маладыя спецыялісты — людзі ініцыятыўныя, яны змаглі арганізаваць людзей, і да іх цягнецца моладзь. На вытворчых участках умацавалася працоўная дысцыпліна, узнялася адказнасць за даручаную справу.

Як жа складваюцца адносіны між старшынёй і сакратаром парткома? На маё пытанне Свірыд так адказаў:

— Ведаеце, функцыі мы не дзелім — у роўнай меры нясём адказнасць за справы ў гаспадарцы. Клопату хапае абодвум, і па вытворчых пытаннях, і ў выхаваўчай рабоце. Каб лёгка было — не скажу. Галоўнае — прынцыповых разыходжанняў у нас няма. У час гаворкі на парткоме ў нас, здараецца, думкі разыходзяцца, асабліва ў ацэнцы работы камуністаў. Як старшыня іншы раз прад'яўляю да людзей больш жорсткія патрабаванні. Козыраў стараецца змякчыць гаворку, увесці яе ў спакойнае, дзелавое рэчышча. Мне падабаюцца яго ашчадныя адносіны да людзей, уменне знаходзіць з імі кантакт, без лішніх эмоцый разабрацца ў любых абставінах.

А якія якасці цэніць Козыраў у старшыні калгаса? Таксама — увагу да людзей. Двойчы з просьбамі да яго звяртацца не трэба — помніць і старaецца дапамагчы чалавеку. Нягледзячы на сваю занятасць, многа дапамагае сакратару парткома. Ад яго не пачуеш: «Разбірайся сам — гэта твая парафія».

Зараз у калгасе 140 камуністаў, партком — працаздольны, творчы, усе члены КПСС маюць партыйныя даручэнні. Свірыд як старшыня таксама не робіць для сябе скідак, як бы ні быў заняты па гаспадарцы. Да прыкладу, з дакладам на партсходзе па меліярацыі мог бы выступіць і галоўны аграном Іван Яўгенавіч Сліжэўскі. Свірыд аднак разважыў па-свойму: «Пытанне вельмі важнае, даручыце даклад мне». У калгасе дзесяць ферм. Па рашэнню парткома за кожнай замацаван адказны партарганізатар. Мэта: пастаянна мець там гаспадарскае вока, не падмяняючы загадчыка, агульнымі намаганнямі весці арганізатарскую і выхаваўчую работу з людзьмі. Па абавязку службы Свірыд кожны дзень бывае на фермах. Але і за ім замацавана адна з іх — у вёсцы Ляхнова.

У заключэнне прыгадаю словы Васіля Афанасьевіча:

— Талковы сакратар парткома — гэта правая рука старшыні. І мы з ім не дзелім абавязкі, а наадварот, аб'ядноўваем намаганні. Справа ж у нас агульная: калектыўная гаспадарка, яе людзі.

**Віктар ЛУКАШЭНКА.**
**Гродзенскі раён.**



Наогул, на гэтым заводзе экскурсіі нярэдкія, сюды часта прыязджаюць госці. Вельмі ўжо цікавая гісторыя старэйшага станкабудаўнічага рэспублікі, ёсць на што паглядзець у цэхах, ёсць чаму павучыцца.

Ганарыцца аб'яднанне не толькі сваёй прадукцыяй, якая экспартуецца ў 40 краін свету, але і — у першую чаргу — сваімі людзьмі.

Вось нядаўна адзін іншаземец, прыйшоўшы ў 10-ты механічны, спыніўся ля станка Анатоля Мікалаевіча Макейчыка і доўга назіраў, як упэўнена, прыгожа той працуе. Потым пайшоў. Але не прайшло і гадзіны — вярнуўся разам са сваім дваццацігадовым сынам. Таварышы, якія суправаджалі заморскага госця, пазней расказалі Макейчыку, аб чым так горача гаварыў пажылы, сівы рабочы з-за мяжы юнаку, які толькі пачынае працоўнае жыццё:

— Гэтага шліфоўшчыка выбралі ў парламент, але, як бачыш, ён застаўся ў сваім цэху. Працуе гэтак жа старанна, як усе тут. А магчыма, яшчэ лепш за многіх. Паглядзі, сынок, на яго, і ты зразумееш розніцу паміж савецкім ладам жыцця і капіталістычным.

Само сабой, пасля змены Анатоль Мікалаевіч не адмовіўся ад сустрэчы і гутаркі з іншаземцамі. А ў іх было шмат пытанняў!

І доўга прыйшлося шліфоўшчыку Макейчыку расказваць, чаму савецкія рабочыя ўпэўнены ў заўтрашнім дні, не баяцца застацца без справы. Вельмі здзівіліся гэтыя госці і такому прыведзенаму Анатолем Мікалаевічам факту: выбар прафесіі ў аб'яднанні самы шырокі — 69 спецыяльнасцей. Але ён выбраў адну і вось ужо дваццаць шэсць гадоў працуе ў цэху.

— З ліцейнага і кавальскага цэхаў паступаюць да нас у брыгаду загатоўкі. Мы прымушаем метал стanавіцца роўным і бліскучым, як люстэрка,— расказвае А. М. Макейчык.— Спецыфіка ж маёй справы такая: рэдка калі прыходзіцца шліфаваць хоць бы дзве-тры ідэнтычныя дэталі. Таму што вытворчасць у нас несерыйная. Кожны раз трэба самым уважлівым чынам вывучаць чарцяжы, падбіраць патрэбныя матэрыялы. Адным словам, работа творчая. Вось чаму, калі пытаюцца, ці не надакучыла за чвэрць стагоддзя на падобных станках працаваць,— шчыра адказваю: ніколькі!

Кожную першую сераду месяца ў 16.00 прыходзіць Анатоль Мікалаевіч у Ленінскі райвыканкам. Да выканання абавязкаў дэпутата Вярхоўнага Савета краіны прыступае. З таго часу як выбралі яго дэпутатам, акрамя ўдзелу ў пасяджэннях сесій, пастаянных камісій, розных праверак, даводзілася выканаць амаль дзвесце просьбаў і наказаў сваіх выбаршчыкаў. А кола пытанняў, з якімі людзі звяртаюцца да дэпутата,— вельмі шырокае.

Некалькі месяцаў назад камісія па прамысловасці Вярхоўнага Савета СССР даручыла А. М. Макейчыку пабываць на Мінскім заводзе халадзільнікаў, праверыць эфектыўнасць работы прадпрыемства, пагаварыць з рабочымі, словам, паглядзець на ўсё свежым вокам.

Суправаджалі Анатоля Мікалаевіча інжынеры, прадстаўнікі дырэкцыі.

— Што і гаварыць, сучасная і магутная вытворчасць! На канвеерах — сотні хатніх «фабрык холаду» некалькіх мадэлей. Уздоўж аднаго з іх я і прайшоў. Вакол — аўтаматыка і поўная механізацыя. І раптам нечаканасць: беласнежныя карпусы халадзільнікаў некалькі рабочых здымаюць з канвеера... уручную,— расказвае Анатоль Мікалаевіч.— Якая тут можа быць радасць працы? Ніякай. Я ўжо не гавару аб эканамічным баку справы. Звярнуў увагу прысутных на такі непрыемны факт. Абяцалі падумаць, выправіць становішча.

Безумоўна, не так часта выдаецца ў дэпутата вольная гадзіна. Як жа ён праводзіць іх?

— Займаюся фатаграфіяй, люблю рыбу лавіць, добрую кнігу пачытаць. У выхадныя стараюся выязджаць за горад, у лес. Летам — пахадзіць з кошыкам, зімой — прабегчыся па лыжні. Вось бачыце — ніякага незвычайнага хобі ў мяне няма. І работа, і адпачынак, і клопаты, і думкі — знаёмыя, напэўна, пераважнай большасці рабочых.

**Валерый ЛАПІН.**
**Віктар ГАНЧАРЭНКА (фота).**

# ДЗЯРЖАЎНЫ ЧАЛАВЕК





ВОСЬ ВІЗІТНАЯ КАРТКА РАБОЧАГА, ЯКОГА ВЫ БАЧЫЦЕ НА ФОТАЗДЫМКАХ:

**Анатоль Мікалаевіч МАКЕЙЧЫК, шліфоўшчык 10-га механічнага цэха станкабудаўнічага аб'яднання імя С. М. Кірава, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, ардэнаносец.**

**□ Кожную першую сераду ў шаснаццаць гадзін прыходзіць Анатоль Мікалаевіч у райвыканком, прыступае да сваіх дэпутацкіх абавязкаў.**

**□ А. М. МАКЕЙЧЫК: «Спецыфіка маёй працы такая: рэдка калі прыходзіцца шліфаваць хоць бы дзве-тры ідэнтычныя дэталі»...**

**□ На гэтым заводзе часта праводзяцца экскурсіі, сюды прыязджаюць госці...**

**□ А. М. МАКЕЙЧЫК: «У выхадны дзень стараюся выязджаць за горад, у лес — улетку па грыбы і ягады, зімою — прабегчыся па лыжні».**



Пісьменнік і жыццё

**Аляксей КАРПЮК,**
**заслужаны работнік культуры БССР**



# Наш кодэкс этычны — жыццё

З выпадку 40-годдзя ПНР ездзіў я ў складзе дэлегацыі пісьменнікаў-ветэранаў у Польшчу. Многае ўразіла і здзівіла.

У прыватнасці, нашу дэлегацыю прымала галоўны сакратар «Звёнзку літэратоурв польскіх» Галіна Аўдэрска. Пазнаёміцца раней ні з ёю, ні з яе творчасцю не давялося. Толькі ведаў з газет, што пасля роспуску пісьменніцкай арганізацыі на чале з Янам Юзэфам Шчэпанскім, ствараючы нядаўна новы «звёнзэк», выбралі яе. У маі мінулага года кабеце стукнула 80, таму я насцярожыўся, падумаўшы, што ў Польшчы аж так складаная сітуацыя і, відаць, не маглі выбраць іншага, таму паставілі бабулю, што разменяла дзевяты дзесятак. Па польскаму ТБ, якое ў Гродне «глядзіцца», праз паўмінуты перадавалі юбілей Аўдэрскай — пані Галіна наладзіла вячэру дома, дзе і адбываўся ўвесь юбілей. Толькі і ўсяго, што на вячэру завітаў на хвіліну генерал Ярузельскі, каб павіншаваць ды пацалаваць ручку юбілярцы. Я падумаў, што такая беднасць юбілею з-за крызісу ў ПНР і малавартасці Аўдэрскай як мастака. Толькі ж чаму сам Ярузельскі яе ўшанаваў?

Выяўляецца: Аўдэрска — ніякая не бабуля! У Варшаве спаткала нас рухавая жанчына з жывымі карымі вачамі.

Завяла яна нас у адзінаццаць гадзін на прывітальны абед у афіцэрскае казіно. Чакаем за сталом дзесяць мінут, дваццаць, трыццаць. Памалу даведваемся: і міжнародныя сустрэчы аніяк не абыходзяцца без гарэлкі, а ў польскіх магазінах ды рэстаранах да 13 гадзін яе не прадаюць. Пані Галіна нецярпліва загадала Жукроўскаму:

— Войцех, ідзь до буфэтовай і растлумач паненцы — дэлегацыя з Звёнзку Радзецкего.

Неўзабаве стала чуваць, як Войцех угаворвае «буфэтову». Не дапамагло. Тады ён выняў чырвонае пасведчанне ды аб'явіў, што ён «посэл на сэйм» і патрабуе на сваю адказнасць запланаваныя дэлегатам бутэлькі. Перапалоханая паненка набрала нумар тэлефона і давай дакладваць свайму генералу з інтэнданцкай службы.

— Так ест, пане гэнэрале, так ест! — нейкі час цвярдзіла яна ў слухаўку, выцягнуўшыся на смірна, а тады Жукроўскаму ўрэзала:

— Пан гэнэрал сказаў, калі пан Жукроўскі посэл пятай кадэнцыі, то тым бардзей павінен ахоўваць законы, прынятыя сэймам!

Гэтай сцэне я пазайздросціў. Неўзабаве давялося зайздросціць яшчэ не раз.

Аўдэрска падарыла мне свае кніжкі. «Птасі госцінец» і «Бабе лято» — імі яна ў Польшчы і праславілася. Кніжкі ў гасцініцы я прачытаў і ўбачыў — таленавітыя творы. Але не гэта мяне найбольш уразіла.

На апошніх старонках аповесцей стаялі даты. Выходзіла, што аўтар пісала іх тады, калі спаўнялася ёй ні многа ні мала, а — 70! У такія гады дасягнула свайго «зорнага часу» ў ПНР не адна яна, і гэта не польскі феномен, такое здараецца нярэдка і ў Францыі, Італіі, Фінляндыі. Затое, як не напружваў я памяць, беларускага аналага не ўспомніў. Мы менш таленавітыя? Не. Нагадаўшы болей чым сціплы юбілей Аўдэрскай ды іншых замежных аўтараў, пачынаю падазраваць, што я адкрыў страшную прычыну, чаму у нас такое не здараецца. Прашу ўважліва прачытаць і падумаць.

Па-мойму, калі іншы беларускі пісьменнік набліжаецца да паўсотні, у творчым плане як бы дэмабілізуецца, бо тады ў пераважнай большасці аўтараў наўме ўжо не яго "зорны час", а — наладжванне крыклівых юбілеяў.

Якая неабходнасць пераважнай большасці з нас перыядычна з нясціпла купецкай крыклівасцю спаборнічаць у наладжванні грандыёзных юбілеяў, багатых банкетаў, узнімаць вакол сябе вэрхал з прыцягненнем радыё, тэлебачання, кіно, прэсы і адрываць ад прамых абавязкаў савецка-партыйных кіраўнікоў рэспублікі, вобласці, раёна, якая прымушае юбіляра з галавой акунацца ў гэты, поўны фальшывай ліслівасці, дурман і нават арганізоўваць часамі самому сабе адрасы, тэлеграмы і шум? Гэта ж дзікае марнатраўства народнага дабра, сродак для разбэшчвання аўтараў і прычына для выбуху новых крыватолкаў, плётак, зайздрасці, і нават — азлобленасці.

Кажу пра з'яву ўпэўнена, бо мне тут ніхто не можа кінуць: пачакай, Карпюк, што ты заспяваеш, калі надыдзе юбілей твой. І я паддаўся дурной модзе і яго праводзіў! Не можа ніхто мне сказаць, што зайздрошчу, бо мала было мне «цыганскага вяселля» ў Гродне, яшчэ цэлым табарам прыпёр у Мінск. Словам, кажу ўпэўнена, бо з'яву вывучаў і з сярэдзіны і шчыра вам прызнаюся — адчуваў увесь час сябе тым пузыром, які надзімаюць, а ён баіцца праколу, ці — злодзеем, які крадзе ды баіцца, што яго вось-вось цапнуць за руку. А як пагана было на душы пасля...

На тым спектаклі, бы на памінках, усе гаварылі, які я выдатны, ды ставілі мяне на п'едэстал, пасля чаго трэба было адразу і памерці, а калі і жыць, то сядзець адно ў прэзідыумах, хадзіць, быццам праглынуўшы калок, перад тым, як што сказаць, кожнае слова сто разоў узважыць, каб, барані бог, каго не зачапіць і не пакрыўдзіць, каб патрапіць у накінуты шаблон, а мне зноў хацелася з трэцяга паверха СП з'ехаць на парэнчах, міла паразмаўляць з жанчынамі, каля плота пацягнуць кіёчкам па штыкецінах ды падражніцца з сабакамі, паслаць іншага к чорту, выйсці на трыбуну ды выдаць, што накапілася, бо такая ўжо прырода нармальнага чалавека, калі ён яшчэ не адубянелы труп.

І от фокус, на горкім вопыце тады спазнаў няўмольны закон фізіялогіі чалавека, які мяне вельмі ўразіў. Мяркуйце самі. На працягу апошніх дзесяцігоддзяў чаго толькі не даводзілася перажыць і — чорт мяне не браў, у перыяд жа юбілею на цэлых два месяцы зарабіў арытмію.

Нездаровы ажыятаж вакол юбілеяў, атрымання ўзнагарод, прэмій ды выбіванне званняў зжыраюць нас, пісьменнікаў, бы ракавыя метастазы. Выпадкова падслухаў, як адзін аўтар дрыжачым галаском канькаў перад сакратаром прэмію. Бедны сакратар — я яму не пазайздросціў. Цяпер на артыкулы таго аўтара глядзець не змагу.

Калі на IX з'ездзе партыі пачалі ўрачыста адзначаць 50-годдзе Леніна, той выслухаў два панегірыкі, а потым усхапіўся ды запатрабаваў вярнуцца да парадку дня. Не дапамагло, і Ленін пакінуў залу ды па тэлефоне загадаў старшыні з'езда Пятроўскаму неадкладна скончыць камедыю, бо не вернецца ў залу.

Каб не вырадзіцца, напэўна, і нам трэба паводзіць сябе ў гэтых адносінах па-ленінску. Крыўдна, што да такой думкі дайшоў я ў Варшаве, дзе і цяпер у абыходзе слова «пан». Вельмі карысна часамі з'ездзіць да суседзяў у госці, нават за мяжу, ды параўнаць сябе з імі.

Нашы будні зараз пісьменнікам падсоўваюць багаты, як ніколі, матэрыял, бо паводле Івана Франка: «Наш адзіны кодэкс этычны — жыццё, што яно звязала — будзе звязана, што развязала — будзе развязана». Аднак існуе вялізная колькасць друкаванай прадукцыі, якая праходзіць міма ўсяго, не скаланае людскія душы, не ўзрушвае сэрцы — аўтары ў ёй, як слушна сказаў аднойчы Васіль Зуёнак, пілікаюць сабе бясклапотна на адной струне. Пра гэта варта было б пагаварыць грунтоўна.

## *Тракай*

Я помню, што песня была. Не помню, якая.
На захадзе тлелі чырвоныя вежы Тракая.
Азёры Тракая чаўны калыхалі — такая
Знаёмая песня гучала...
Не помню, якая.

Быў жнівеньскі вечар. Азяблы ля возера,
росны.
І пахла травою і рыбаю, мокрымі вёсламі.
На вежу Тракая скацілася з воблака поўня.
Усе дэкарацыі помню. А дзеі — не помню.

Так дзіўна не помню, што нельга
на гэта забыцца.
Нібыта былое яшчэ толькі думае збыцца,
І можна ў ім нешта
змяніць, перайначыць, падправіць,
Бы ў п'есе, якую збіраюцца нанава ставіць.

Мінулага памяць, як сталь ліставая
пад прэсам:
Пружыніць — а гнецца... І вось перапісана
п'еса,
І той, хто ў старой пастаноўцы
быў проста ў масоўцы,
Стаць прагне героем у новай яе пастаноўцы.

Ды я не пра тое... А песня —
пра раці князёвы.
Мелодыя вольная, непаланёныя словы.
Саб'ецца пагоня. І вершнікі коней напояць.
Гісторыя — тое, што некаму выгадна помніць,
Што гоніць пагоню з Тракая да
Крэўскага замка...
Гісторыя з намі таргуецца, быццам цыганка.
Стамлёнаму Вітаўту не дачакацца кароны.
Законы гісторыі — гэта адчаю законы.

Я зноў не аб тым... Абрываецца думка.
Сам-насам
Я ў сённяшнім часе з мінулым
і будучым часам.
Іду па канаце. Дзве прорвы з бакоў,
дзве лавіны.
Бірута і Кейстут!.. Спяём і паплачам,
літвіны!

Спяём і паплачам, напоўніўшы келіхі брагай,
Спяём і паплачам, і вып'ем да дна за адвагу,
За продкаў адвагу, яшчэ за адвагу нашчадкаў,
Мы — кладкі між імі, над плынню
гісторыі кладкі.

Імя нам — кагорты: мільёны, мільёны, мільёны...
Каб нас не забылі, пакінем нашчадкам імёны,
Пакінем імёны! — адно на мільён дастаткова,
Каб выспела ніва,
дзе будзе пасеена слова,— а

Слова
Кладзецца на слова, як колас на колас,
Кладуцца, каб выстаяць вецер,
і голас на голас,
І вусны на вусны,
І рукі злятаюць на рукі...

Не, песню не помню.
Мелодыя...
музыка...
гукі...

## *Паэтэсы*

Суровы век. Сталёвы скрыгат спрэс.
І ўсё ж не згаслі,
Узышлі прароча
Над лёсам веку
вочы паэтэс —
І вочы Ганны, і Марыны вочы.

Пранізваючы цемру аблачын,
Яны гараць на далеглядах сцюжных.
Паэзія — занятак для мужчын.
І для жанчын. Паэзія — для мужных.

Яна не чалавечы — божы знак,
Які гартуе душы трапяткія.
Дай бог так мужна жыць,
Памерці так,
Як мужна памірала Еўдакія.

І калі гром нябёсы скалане,
Глыбінь зямных спасцігну прыцяжэнне,—
Не свечку вы пастаўце —
Келіх мне,
Каб мог падняць і ў цёмнай старане
Яго за вас,
Таіса, Рая, Жэня...

## *ЕС 987 654 320J*

**Стэнаграма аднаго эксперыменту**
— Шэф, мы гатовы.
— Паехалі.

НАД ЗЯМЛЁЮ КРУЖУ ПАДРАНКАМ
ДЗЕ АРЭХАВЫЯ КУСТЫ
ТАК ПУСТЫЯ ЯК ПАД ФІРАНКАЙ
ВОКНЫ ВЫБІТЫЯ ПУСТЫЯ

ДЗЕ ЗВЯЛІСЯ СЛЯДЫ ЛАСІНЫЯ
ДЗЕ Ў ЛАГЧЫНАХ ДАКУЛЬ ВІДАЦЬ
ПАВУКАМІ ДЫМЫ НА АСІНАХ
ЯК НА ШЫБЕНІЦАХ ВІСЯЦЬ

ДЗЕ НА ЧОРНЫ ДЫВАН СУНІЧНІКУ
ШТО Ў КУРОДЫМЕ СКАМЯНЕЎ
СЯДЗЕ ЗМОРАНАЯ СІНІЦА
І ЎЖО ЛАПКАЙ НЕ ЗВАРУХНЕ

ДЗЕ ПРАБІТЫ ЛЯСНЫЯ ШАТЫ
СКАМЯНЕЛЫМІ ВЕРШАЛІНАМІ
БЫЦЦАМ ПОМНІКАМІ ГЕРАСТРАТАМ

— Стоп, рабяты!.. З памерам нешта не тое. Праграмісты!..
Самусёў, у чым справа?
— Натхненне прапала. Паэтэса ўсё-ткі.
— Пашуткуй мне!.. Запускай, няхай хоць рыфму ў апошнім катрэне вымучае.
— Да якога слова?
— Вершалінамі.

ВЕРШЫ
ВЕРШАЦЦА
ВЕРШМАШЫНАМІ

— Стоп! Хто лексіку ўводзіў? Скуль такія адзінкі?
— Лексема ВЕРШ у заданні была: «ЭКАЛАГІЧНЫ ВЕРШ».
— А ВЕРШМАШЫНА скуль?
— Сама прыдумала.
— Гы-гы.
— Каму там смешна?
— Самусёву.
— Выбачайце, шэф. Анекдот успомніў. Расказаць?
— У аддзеле кадраў раскажаш. Запускай!

ПОЎНЫ ВЕРШАМІ І БЫЛІНАМІ
ЛЕС
ЛІСЦЁВЫ
ХВАЁВЫ
ЗМЕШАНЫ
ЛЕС
ТЫ ПОМСТАЮ БУДЗЕШ УСЦЕШАНЫ
СКРОЗЬ АРЭШНІКІ МЫ ЯК ВЕРШНІКІ
ПРАЛАМАЛІСЯ

НЕ ДА ВЕРШЫКАЎ

— Чаму спынілася? Усё ж нармальна.
— Характар паказвае. Лірычная я.
— Ты ў мяне дажартуешся!
— Думае яна, шэф.
— Яна думае! А ў цябе галава для чаго?
— Для перасадкі.
— Для лысіны ў цябе галава.
— Я не вінаваты, што лысы. Мяне ўраклі малога.
— Пайшла!..

НАС НІБЫТА ЎРАКЛІ
СУРОЧЫЛІ
І ЗЯМЛЯ
У ЗАВОДАХ І ФАБРЫКАХ
НА АРЭШЫНЕ
ЯБЛЫКАМ СТОЧАНЫМ
ЛЕДЗЬ ВІСІЦЬ



ПАСАДЗІ СВАЮ ЯБЛЫНЮ

— Ну што там, нарэшце!..
— Засаромелася. Яблык на арэшыну павесіла.
— Ёй усё адно: што арэх, што яблык. Абы круглы.
— І лысы.
— Гы...
— До выдурвацца!
— Шэф, сур'ёзна: не ідзе ў яе сёння гэты памер.
— А што хоць за памер такі? Ямб? Харэй?
— Гекзаметр.
— Гы-гы.
— Каму там зноў смешна?
— Самусёву.
— Выбачайце, шэф. Гамера ўспомніў: вяртаецца Адысей з камандзіроўкі...
— Самусёў!
— А жонка...
— Самусёў!
— Што?
— Ты ў Грэцыі ў камандзіроўцы быў?
— Не.
— І не будзеш. І жонцы тое перадай.
— Шэф... Злітуйцеся... Лепш галаву на плаху. Паспрабуем накінуць пару стоп?
— Накінь. Толькі гэта апошняе, што ты ў мяне робіш.

ПОМСТА ЛЮДСКАЯ НІШТО ПЕРАД
ПОМСТАЙ ПРЫРОДЫ
СПРАТЫ ЛЮДСКІЯ НІШТО ПЕРАД
СПРАТАМІ ВЕЧНАСЦІ
СПРАТАМІ ВЕЧНАСЦІ СПРАТАМІ
ВЕЧНАСЦІ
ЗНІКНУЦЬ У ВЕЧНАСЦІ СПРАТАХ
ЛЯСЫ І НАРОДЫ
БЕЗ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ БЕЗ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ
БЕЗ ЧАЛА
ВЕЧНАСЦІ БЕЗ ЧАЛА БЕЗ ЧАЛА БЕЗ ЧАЛА

— Самусёў! Доўга яна заікацца будзе?
— Заклініла яе на чалавечнасці. У, жа-ле-за!
— Эксперымент скончаны. Нікога не затрымліваю. Усе вольныя.
— Шэф...
— Прывітанне жонцы, Самусёў!

■ ■ ■

Гляну наперад: страта на страце.
Год застаецца?.. Дзень усяго?
Лёс! Ашчадзі маіх бацьку і маці.
Смерць! Абыдзі іх да часу майго.

Дайце не зведаць мне гэтай пакуты,
Наканаванай на доўгім вяку...
Да тэлефона, як вязень, прыкуты,
Горла сціскаю начному званку.

Неба! Калі непазбежныя страты,
Громам спярша нада мной прагрымі!..

Мама! Даруй мне...
Я слабы стаў, тата...
Неба, малітву маю не прымі!

# МЫ, НАРОДЫ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ...

**«Мы, народы аб'яднаных нацый...» — такімі, узятымі з прэамбулы Статута ААН словамі назваў Анатоль Вярцінскі свае дзённікавыя запісы, якія звязаны з яго ўдзелам у рабоце адной з апошніх сесій Генеральнай Асамблеі ААН і аснову якіх складае дакументальны матэрыял. Пачынаем у гэтым нумары публікацыю нататак пісьменніка.**

**ПАЧАТАК, ЯКІ АБНАДЗЕЙВАЕ. ПАДНІМАЮЦЦА НОВЫЯ ФЛАГІ.**

Аддаўшы належнае традыцыйнаму рытуалу (маецца на ўвазе мінута маўчання, якой звычайна адкрываецца сесія Генеральнай Асамблеі ААН — своеасаблівы эквівалент самаблагаслаўлення), Генеральная Асамблея прыступае да справы — прымае пастанову аб камітэце па праверцы паўнамоцтваў (у склад камітэта выбіраецца 9 членаў, у тым ліку і СССР), потым пераходзіць да выбараў старшыні сесіі. Старшынёй аднагалосна выбіраецца прадстаўнік СФРЮ, вядомы югаслаўскі дыпламат і палітычны дзеяч Лазар Мойсаў. Яго запрашаюць заняць адпаведнае месца ў прэзідыуме (старшыня ў цэнтры, па правую руку ад яго — генеральны сакратар ААН, па левую — намеснік генсека па палітычных пытаннях і пытаннях Генеральнай Асамблеі). Новы старшыня — яшчэ не стары, моцна складзены, чарнявы серб — выступае з заявай, гаворыць, што называецца, сваю «тронную» прамову. Адна з асноўных думак — аб неабходнасці павышаць эфектыўнасць ААН як важнага інструмента ў змаганні за мір і разрадку. Закранаецца пытанне і аб слабых баках галоўнай міжнароднай Арганізацыі, у прыватнасці аб тым, што ў ёй часам «назіраецца тэндэнцыя займацца вынікамі, а не прычынамі».

Наступны, адначасова і ўрачысты і дзелавы момант — прыняцце новых членаў у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. Старшыня нагадвае дэлегатам ранейшую працэдуру прыёму, і Генеральная Асамблея аднадушна, шляхам акламацыі (гэта значыць без галасавання, засвойваю тут новую для сябе мову: акламацыя, кансэнсус і г. д.) ухваляе праект рэзалюцыі аб прыёме ў рады ААН дзвюх краін — толькі што атрымаўшай незалежнасць Рэспублікі Джыбуці, былой французскай калоніі, і нядаўна адстаяўшай у смяротнай схватцы з імперыялістычным агрэсарам сваю нацыянальную незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам.

— Прашу начальніка пратакола адвесці дэлегацыі на іх месцы ў зале! — распараджаецца намеснік генеральнага сакратара Уільям Буфум, той самы, што сядзіць злева ад старшыні.

І вось начальнік пратакольнай службы — па-вайсковаму падцягнуты, важны (пасада абавязвае) — паважна вядзе праз залу спачатку адну, потым другую дэлегацыі і паказвае ім іх месцы. Калі з'явілася дэлегацыя В'етнама — выбухнулі воплескі і пачуліся разнамоўныя прывітальныя воклічы: з'ява ўжо зусім не прадугледжаная пратаколам, не частая, нават не прынятая ў гэтай зале. Крэслы в'етнамскіх прадстаўнікоў недалёка ад нашых, і ў мяне ёсць магчымасць назіраць іх у гэты гістарычны для іх момант, бачыць іх узрушанагордыя твары. Радасна за яшчэ адну, на гэты раз палітычную, перамогу шматпакутнага, гераічнага народа. Тым больш радасна, што ўсведамляеш — у яго вялікіх перамогах ёсць немалая доля і тваёй краіны.

Наступны, другі па ліку дзень работы сесіі прадаўжае зробленае яго папярэднікам — пачынаецца з цырымоніі падняцця дзяржаўных флагаў В'етнама і Джыбуці. Урачыстасць адбываецца перад уваходам у будынак Генеральнай Асамблеі. Вальдхайм гаворыць некалькі прывітальных слоў у адрас «імяннікаў», і два розныя, рознай расфарбоўкі і з рознымі эмблемамі на палотнішчах, сцягі паволі ўзнімаюцца па флагштоках угору. Вось яны ўжо, бачу, развяваюцца на непрывычным яшчэ для іх нью-йоркскім ветры, ці, лепей сказаць, на ўсіх чатырох, нават на ўсіх сямі вятрах свету, калі мець на ўвазе палітычны сэнс цырымоніі. Азіраю твары прысутных і бачу:ззяюць позіркі ў пасланцоў Джыбуці, на вачах аднаго з членаў в'етнамскай дэлегацыі паблісквающь слёзы. Прыходзіць думка, што калі людзям і патрэбны «свяшчэннадзействы», цырымоніі і рытуалы, дык менавіта вось такія, што ўзвышаюць чалавека ў духу праўды і справядлівасці, пацвярджаюць яго перамогу над нацыянальным і сацыяльным прыгнётам.

Пасля паднняцця флагаў пачынаецца адразу другое пленарнае пасяджэнне Генасамблеі. Новых членаў ААН вітаюць старшыня сесіі, прадстаўнікі як асобных краін, так і рэгіянальных груп. Сурынам, напрыклад, гаворыць ад імя краін Лацінскай Амерыкі, Швецыя — ад імя Скандынаўскіх краін, Габон — ад імя Арганізацыі афрыканскага адзінства. З цёплымі віншаваннямі звяртаюцца да новапрынятых, у прыватнасці да В'етнама, дэлегаты краін сацыялістычнай садружнасці.

Выступіў на пасяджэнні і кіраўнік нашай дэлегацыі А. Е. Гурыновіч. Прыём новых дзяржаў у члены ААН, зазначае ён, з'яўляецца важнай падзеяй як для новых членаў, так і для Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, паколькі ў палітычным плане замацоўваецца перамога нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў, расшыраюцца рады прыхільнікаў усталявання разрадкі, умацавання бяспекі і міжнароднага супрацоўніцтва. Прамоўца нагадаў, што Беларуская ССР нязменна выступала за прыём СРВ у члены ААН. Разам з іншымі сацыялістычнымі краінамі, гаворыць А. Е. Гурыновіч, мы дабіваліся гэтага ў Савеце Бяспекі і былі сааўтарамі рэзалюцый Генеральнай Асамблеі, якія асуджалі ўсялякія спробы перашкодзіць прыёму СРВ у члены ААН і патрабавалі справядлівага падыходу да гэтага пытання. З вялікім задавальненнем дэлегацыя Беларускай ССР стала адным са 106 сааўтараў рэзалюцыі, у адпаведнасці з якой Сацыялістычная Рэспубліка В'етнам стала членам ААН. Дэлегацыя Беларускай ССР, заявіў далей А. Е. Гурыновіч, цвёрда пераканана ў тым, што прыём СРВ у ААН — гэта не толькі чарговая перамога прынцыпу універсальнасці, але і значны ўклад у павышэнне эфектыўнасці і аўтарытэту ААН.

Міністр замежных спраў БССР пажадаў братняму в'етнамскаму народу поспехаў у аднаўленні і развіцці разбуранай вайной гаспадаркі, у ператварэнні В'етнама ў працвітаючую сацыялістычную дзяржаву. Прывітаў ён таксама і другога новага члена ААН — Рэспубліку Джыбуці.

Затым, згодна з традыцыяй, выступаюць віноўнікі ўрачыстасці. Кожны ў сваёй манеры і сваім нацыянальным духу. На трыбуне — першы прэзідэнт Джыбуці Хасан Гулед. Высокі, каларытны ў сваёй белай шапачцы, у акулярах і ў доўгім цёмным сурдуце, лідэр маленькай афрыканскай дзяржавы — яна знаходзіцца недзе ў раёне Баб-эль-Мандэбскага праліва, «праліва слёз» — нагадвае ці то свяшчэнніка, ці то настаўніка нядзельнай школы. Гэтае ўражанне падмацоўваецца яшчэ і тым, што прэзідэнт пачынае гаварыць са звароту да «бога ўсявышняга і адзінага» (гэтым жа зваротам, дарэчы, і заканчвае сваю прамову). У яго падобнай на пропаведзь прамове часта ўжываюцца словы «выхаванне», «педагогіка», «мараль», што спачатку здзецца крыху дзіўным. Але потым становіцца ясна, да чаго хіліць кіраўнік Джыбуці — гутарка ідзе аб маральным удасканаленні чалавека, аб выхаванні яго ў духу любові да блізкага, у духу міру і ўзаемазгоды паміж людзьмі і народамі.

Выступленне намесніка прэм'ер-міністра і міністра замежных спраў В'етнама Нгуен Зуй Чыня насіла крыху іншы характар, было немна-






□ Сярод паштовай прадукцыі адной са спецыялізаваных устаноў ААН — арганізацыі па пытаннях адукацыі, навукі і культуры ЮНЕСКО — паштовая марка Беларускай ССР і канверт з выявай фрагмента карціны Міхаіла Савіцкага «Куст ружаў».

гаслоўным, больш дзелавым, больш палітычным. Ён падзякаваў за прыём у ААН, выказаў надзею, што краіны свету дапамогуць СРВ у залечванні ран вайны, запэўніў у заключэнне, што сацыялістычны В'етнам будзе ў ліку актыўных змагароў за мір і прагрэс. Першае з трыбуны ААН выступленне прадстаўніка новага, адроджанага і ўз'яднанага ў адной дзяржаве В'етнама было выслухана з вялікай увагай і разуменнем — ва ўсякім выпадку пераважнай большасцю дэлегатаў. Увачавідкі знаходзілі практычнае ўвасабленне словы нянкот таго, што з прыняццем В'етнама ў ААН яе аўтарытэт і яе палітычная вага несумненна ўзрастуць...

**ЗАЦВЯРДЖАЕЦЦА ПАРАДАК ДНЯ. УСЕАБДЫМНЫ ПУНКТ— БУДУЧАЕ ЧАЛАВЕКА.**

23 верасня. Пятніца. Пятае пленарнае пасяджэнне Асамблеі. Сесія яшчэ знаходзіцца ў арганізацыйнай стадыі, і пытанне, якое разглядаецца на пасяджэнні, называецца: «Зацвярджэнне парадку дня сесіі і размеркаванне пунктаў парадку дня».

На руках у дэлегацый знаходзіцца адпаведны дакумент — выкладзеныя ў форме даклада прапановы Генеральнага камітэта. Першым ідзе раздзел, які тычыцца раскладу пасяджэнняў і агульных спрэчак. Камітэт рэкамендуе Генеральнай Асамблеі:

— пленарныя пасяджэнні і пасяджэнні камітэтаў пачынаць у 10.30 і 15.30.;

— устанавіць пяцідзённы рабочы тыдзень, маючы пры гэтым на ўвазе, што ў выпадку неабходнасці пасяджэнні могуць таксама прызначацца па суботах і ў вячэрні час;

— працягласць агульных спрэчак не павінна ў нармальных умовах перавышаць два з паловай тыдні;

— адкрыць агульныя спрэчкі ў панядзелак, 26 верасня, і закончыць у чацвер, 13 кастрычніка;

— спіс прамоўцаў, жадаючых прыняць удзел у агульных спрэчках, закрыць у сераду, 28 верасня а 18 гадзіне.

Старшыня сесіі звяртае ўвагу дэлегатаў і на яшчэ адзін, даволі цікавы, па-свойму спецыфічны пункт, які заклікае іх «устрымлівацца ад выказвання віншаванняў у адрас прамоўцаў у зале пасяджэнняў Генеральнай Асамблеі».

— Як сказаў мой выдатны папярэднік,— гаворыць Мойсаў, маючы на ўвазе старшыню мінулай сесіі Амерасінгхе,— практыка апошняга часу сведчыць пра тое, што вялікая колькасць дэлегацый, віншуючы прамоўцаў пасля іх выступлення, тым самым парушае працу Асамблеі і нават перашкаджае наступным прамоўцам. Я асабіста пацвярджаю рэкамендацыю Генеральнага камітэта і, калі яна будзе прынята Асамблеяй, буду заклікаць усіх членаў супрацоўнічаць у гэтых адносінах.

Ці магу я лічыць, звяртаецца старшыня да залы, што ўсе названыя рэкамендацыі ўхваляюцца Асамблеяй?

Пярэчанняў не ўзнікае. Рашэнне прымаецца.

Далей разглядаюцца такія рабочыя пытанні, як «Права на адказ», «Размеркаванне прадстаўнікоў у залах пасяджэнняў», «Выкарыстанне механічнага абсталявання для галасавання» і інш. Па першаму з іх Асамблея прымае да ведама рэкамендацыю, каб «дэлегацыі карысталіся правам на адказ у канцы дня ў тых выпадках, калі на гэты дзень прадугледжаны два пасяджэнні, і каб выступленні ў парадку выкарыстання права на адказ абмяжоўваліся 10 мінутамі».

Затым Генеральная Асамблея пераходзіць непасрэдна да разгляду парадку дня сесіі. Старшыня напамінае дэлегацыям адно з палажэнняў Правіл працэдуры, якое прадугледжвае: «Спрэчкі аб уключэнні любога пункта ў парадак дня, калі гэты пункт рэкамендаваны да ўключэння Генеральным камітэтам, абмяжоўваюцца выступленнямі трох прамоўцаў за ўключэнне і трох — супраць».

— Я хацеў бы яшчэ падкрэсліць,— тлумачыць далей старшыня,— што ў дадзены момант мы не абмяркоўваем сутнасць таго або іншага пытання, за выключэннем тых выпадкаў, калі такое абмеркаванне можа дапамагчы Асамблеі вырашыць, ці ўключаць даны пункт у парадак дня.

Фарміраванне парадку дня сесіі ідзе аператыўна і без якіх-небудзь асаблівых перашкод, пераважная большасць пытанняў зацвярджаецца, можна сказаць, аўтаматычна. Толькі па асобных узнікаюць нязначныя, чыста фармальнага характару, агаворкі ці заўвагі. Першая больш-менш значная замінка ўзнікае толькі тады, калі чарга даходзіць да пункта 126 пад назвай «Незаконныя меры, прынятыя ў апошні час Ізраілем на акупіраваных арабскіх тэрыторыях і накіраваныя на змяненне прававога статусу, геаграфічнага характару і дэмаграфічнага складу гэтых тэрыторый у парушэнне прынцыпаў Статута ААН, міжнародных абавязацельстваў Ізраіля ў адпаведнасці з чацвёртай Жэнеўскай канвенцыяй 1949 года і рэзалюцый ААН». У адрозненне ад многіх пунктаў, якія перайшлі з мінулай сесіі, гэты ўносіцца ўпершыню. Узяўшы слова, ізраільскі прадстаўнік Герцаг пярэчыць супраць уключэння пункта ў парадак дня. Не рашаючыся выказвацца па сутнасці і, як ён заяўляе, «не маючы ніякіх ілюзій адносна характару механічнай большасці ў даным форуме», ён расцэньвае прапанову аб новым пытанні ні больш ні менш як зламысны намер Асамблеі «ўзбуджаць апетыт да рыторыкі ворагаў Ізраіля», як «маньякальнае імкненне да прыняцця антыізраільскіх рэзалюцый».

— Члены гэтай Арганізацыі,— кідае прамоўца ў залу з выглядам абражанай наіўнасці,— збіраюцца, здаецца, у гэтым годзе сабраць рэкордны ўраджай рэзалюцый, якія асуджаюць Ізраіль.

Наступныя прамоўцы, прадстаўнікі Бангладэш, Мадагаскара і Беніна, катэгарычна падтрымліваюць уключэнне пункта 126 у парадак дня.

— Мая дэлегацыя,— гаворыць дэлегат Беніна Хунгаву,— падтрымлівае таксама просьбу Егіпта аб тым, каб гэтаму пытанню пры абмеркаванні яго на пленарных пасяджэннях была ўдзелена першаступенная ўвага. Мая краіна ніколі не пагодзіцца з тымі, хто праводзіць разбуральную палітыку анексіі і каланізацыі акупіраваных імі тэрыторый ці тэрыторый, што знаходзяцца пад іх панаваннем.

Старшыня: «Асамблея заслухала чатырох прамоўцаў па пытанню аб уключэнні ў парадак дня пункта 126. Адзін з іх выказаў агаворкі, аднак просьбы аб галасаванні не паступіла. Дазвольце мне лічыць, што Генеральная Асамблея згодна ўключыць у парадак дня даны пункт».

Рашэнне прымаецца.

Яшчэ адзін востры момант узнікае тады, калі Асамблея разглядае пытанне аб размеркаванні пунктаў (г. зн. вырашае, дзе які пункт будзе абмяркоўвацца — на пленарным пасяджэнні або ў тым ці іншым камітэце). Генеральны камітэт, гаворыць старшыня, рэкамендуе, каб пункт 28 пад назвай «Кіпрскае пытанне» разглядаўся непасрэдна на пленарных пасяджэннях з выкарыстаннем паслуг Спецыяльнага палітычнага камітэта. Турэцкі пасол Цюркмен пратэстуе супраць гэтай рэкамендацыі. «Мы рашуча выступаем супраць яе!» — заяўляе ён. Ён лічыць, што працэдура, якую прымае Генеральная Асамблея, з'яўляецца несправядлівай у дачыненні да турэцкай абшчыны Кіпра, ушчамляе яе інтарэсы. Цюркмен просіць паставіць рэкамендацыю на галасаванне з занясеннем яго вынікаў у пратакол. На трыбуну падымаецца прадстаўнік Кіпра Расідзіс.

— Мы толькі што выслухалі заяву прадстаўніка Турцыі,— гаворыць ён,— заяву, якая ўяўляе сабой скажэнне фактаў з пачатку да канца. Я шкадую аб тым, што мушу пярэчыць, але я буду сцвярджаць факты (узор дыпламатычнай мовы.— **А. В.**).

Зенон Расідзіс — немалады ў гадах, зусім сівенькі грэк, відаць, адзін са старэйшых дыпламатаў, акрэдытаваных пры ААН,— характарызуе становішча, якое склалася на Кіпры і пагражае суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці рэспублікі, тлумачыць, чаму кіпрскае пытанне павінна разглядацца менавіта на агульных пасяджэннях Генеральнай Асамблеі.

У спрэчку ўмешваецца пасол Саудаўскай Аравіі Барудзі. Вонкава ён як быццам бярэ на сябе ролю бесстаронняга пасрэдніка («Паверце мне, пан старшыня, я не кансультаваўся ні з маім добрым сябрам паслом Цюркменам, ні з маім сябрам паслом Расідзісам»), заклікае абодва бакі «прыслухацца да голасу розуму», «праявіць разважны падыход». Але меркаванні, якія Джэмаль Барудзі выказвае і называе «кампраміснымі», сведчаць, што з двух сваіх «сяброў» ён аддае ўсё ж перавагу турэцкаму, мае на ўвазе перш за ўсё яго выгаду.

Старшыня: «Прадстаўнік Саудаўскай Аравіі звярнуўся з заклікам, а прадстаўнік Турцыі папрасіў правесці па данаму пытанню галасаванне, якое заносіцца ў справаздачу. Паколькі жадаючых выступіць больш няма, я зараз стаўлю на галасаванне рэкамендацыю Генеральнага камітэта адносна перадачы на разгляд пункта 28 «Кіпрскае пытанне».

Адбываецца галасаванне.

Намеснік генеральнага сакратара: «Праверце на табло вынікі — машына пераключаецца ў рэжым падліку галасоў». Пераважная большасць членаў Асамблеі, у тым ліку савецкія дэлегацыі, дэлегацыі другіх краін сацыялістычнай садружнасці, прагаласавала «за», тры прадстаўнікі (Турцыя, Пакістан і Іарданія) — «супраць», астатнія, у прыватнасці заходнія дзяржавы, устрымаліся. Канструктыўная прапанова камітэта прымаецца.

Далей размеркаванне пунктаў ідзе ўжо без затрымак, без пярэчанняў і агаворак. «Ці магу я лічыць, што Генеральная Асамблея адабрае перадачу прапанаванага спіска пунктаў для разгляду ў Трэці камітэт? — Прапанова прымаецца... Нарэшце, мы пераходзім да спіска пытанняў парадку дня, прапанаваных для перадачы ў Шосты камітэт. Ці магу я лічыць, што Генеральная Асамблея зацвярджае прапанаванае размеркаванне? — Прапанова прымаецца...»

Старшыня з палёгкай паведамляе, што Асамблея закончыла зацвярджэнне парадку дня сесіі і размеркаванне пытанняў.

— Я хачу падзякаваць,— дадае ён,— членам Асамблеі за тое, што нам была дадзена магчымасць завяршыць нашу працу на ранішнім пасяджэнні. Я дзякую ўсім вам за ваша супрацоўніцтва. Кожны камітэт у бліжэйшы час атрымае спіс пунктаў, перададзеных на яго разгляд, з тым каб ён пачаў сваю працу як мага хутчэй, у адпаведнасці з правілам 99 Правіл працэдуры.

Парадак дня сесіі Генеральнай Асамблеі... «Гарачыя пункты» свету і пункты парадку дня. Сацыяльна-палітычны і эканамічны парадак на планеце Зямля і парадак дня сусветнага форуму. Як бачым, залежнасць тут у наяўнасці нават на семантычным узроўні. Натуральна, што першачарговае месца ў сукупнай праграме сесіі займае шырокі комплекс пытанняў, звязаных перш за ўсё з задачамі захавання міру, умацавання ўсеагульнай бяспекі, утаймавання гонкі ўзбраенняў, перш за ўсё ядзерных, ліквідацыі ваенных ачагоў і крызісных сітуацый. «Аб заключэнні Сусветнага дагавора аб непрымяненні сілы ў міжнародных адносінах», «Эканамічныя і сацыяльныя вынікі гонкі ўзбраенняў і яе выключна згубнае ўздзеянне на міжнародны мір і бяспеку», «Міжнароднае супрацоўніцтва ў выкарыстанні касмічнай прасторы ў мірных мэтах», «Ажыццяўленне Дэкларацыі аб умацаванні міжнароднай бяспекі», «Аб заключэнні дагавора аб поўнай і ўсеагульнай забароне выпрабаванняў ядзернай зброі», «Усеагульнае і поўнае раззбраенне», «Кіпрскае пытанне», «Пытанне аб Палесціне» — вось няпоўны пералік гэтых самых «пунктаў», якія перш за ўсё непакоілі Асамблею ААН, настойліва патрабавалі свайго вырашэння. Побач з гэтымі першачарговымі, ключавымі ў парадку дня сесіі значыліся і іншыя, самыя розныя па сваім маштабе і сваім характары, сацыяльныя і гуманітарныя пытанні, накшталт наступных: «Выбары членаў Савета ўпраўляючых спецыяльнага фонду ААН для стаўшых на шлях развіцця краін, якія не маюць выхаду да мора», «Вяртанне твораў мастацтва краінам — ахвярам экспрапрыяцыі», «Аб распрацоўцы міжнароднай канвенцыі аб прынцыпах выкарыстання дзяржавамі штучных спадарожнікаў Зямлі для прамога тэлевяшчання», «Праграма ААН па акаляючаму асяроддзю», «Харчовыя праблемы», «Папярэджанне злачыннасці і барацьба з ёй», «Міжнародныя пакты аб правах чалавека», «Пытанне аб пажылых і састарэлых», «Палітыка і праграмы, якія тычацца моладзі», «Свабода інфармацыі», «Фінансаванне надзвычайных узброеных сіл ААН» і г. д.

Словам, як потым скажа ў час агульных спрэчак дэлегат Індыі, «адзіны ўсеабдымны пункт нашага парадку дня — гэта будучае чалавека, і пытанне гэтае будзе стаяць у ім усе наступныя дзесяцігоддзі».

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

# ПРА ІВАНАЎ

## 1. СОРАК ХВІЛІН ЧАКАННЯ

— Які цудоўны дзень! — сказаў Рыгор Фёдаравіч Ткачэнка, мой стары знаёмы, былы разведчык партызанскай брыгады «Смерць фашызму».— Які дзень...— паўтарыў ён з сумнай радасцю.— Сустракаемся ўсе...

За бярозамі, за старым плотам сквера адліты ў бронзе салдат у шынялі і з вінтоўкай у руках. Тут брацкая магіла. На мемарыяльнай пліце высечана дзвесце прозвішчаў.

— А Дзёмін прыехаў? — спытала я ў Рыгора Фёдаравіча.

— Праз якую хвіліну з'явіцца,— адказаў Ткачэнка,— камандзіру тут блізка...

А да помніка ішлі і ішлі людзі. Строгія. Сівыя. З ордэнамі на грудзях. Ішлі з суседніх вёсак жанчыны сталага веку, маладыя хлопцы і дзяўчаты з кветкамі. Ледзь паспявала за імі дзятва.

Дзёміна не было.

Аўтобусы ўсё прыбывалі і прыбывалі. На маленькім пятачку каля сквера збіраліся людзі і перш-наперш ішлі да помніка, а потым ужо абдымаліся, рукаліся.

Рыгор Фёдаравіч, пашукаўшы кагосьці вачамі, адышоў убок і запіхнуў у кішэню пусты рукаў пінжака. Да яго ног сцякала поле. Тое самае, узгорыстае, з якога нямецкія танкі ў сорак першым разгон бралі... Таму, калі Дзёмін завітаў у Юр'ева, яго хутка не выпусцяць.

Але хлапчукі вярнуліся адны...

А ля помніка змянілася ганаровая варта. Хмурыцца высокі, сівы мужчына. У яго надзіва малады твар. Яго прозвішча — на мемарыяльнай дошцы сярод загінуўшых. Косцю Камарова фашысты ўзялі параненага. З таго ж акопа, пра які Ткачэнка гаварыў. Ён — зусім яшчэ падшыванец — патроны байцам падносіў. Кінулі яго ў канцлагер. Здолеў уцячы. Ледзь ці не паўсвету абышоў, блукаў, вандраваў, пакуль, нарэшце, пасля перамогі не вярнуўся ў родную Тулу. Дваццаць шэсць гадоў нічога не ведалі пра яго таварышы па зброі, лічылі загінуўшым. І вось аднойчы прачытаў Канстанцін у газеце пра сустрэчы ў Юр'еве. Прыехаў... З тае пары Канстанцін Сямёнавіч Камароў разам з усімі ля партызанскага вогнішча. Прывозіць з сабой гару славутых тульскіх пернікаў, раздае сябрам. І мне таксама падае:

«Для Надзечкі Калюжнай, для нашай разведчыцы прывёз. А яе няма — пахавалі Надзечку... Бярыце, бярыце»,— гаворыць таропка Камароў, а сам не, не ды і паглядзіць, ці не пыліць дарога. І каб хоць неяк заспакоіць сябе, нам гаворыць у каторы раз, глянуўшы на гадзіннік, што, маўляў, сорак хвілін — гэта яшчэ нічога не значыць. Сам размаўляў з Дзёміным учора па тэлефоне...

Але чаму так трывожна? Сорак хвілін у чаканні ідуць, вядома, марудна. Без камандзіра, як быццам, і настрой не той.

І тут, урэшце, пачулі: «Едзе! Едзе!...» На ўзгорку паказалася белая «Волга».

Дзёмін выйшаў з машыны, і ўсе, як мне здалося, з палёгкай уздыхнулі.

— Вось мамашу падвёз,— сказаў ён, адчыняючы дзверцы і дапамагаючы выйсці з машыны бабульцы са сціплым вянком з палявых кветак. «Мужу майму і сынам»,— было напісана на стужцы вянка.— Бачу, стаіць ля калодзежа. І два вядры вады побач. На адным пальцы ваду аднёс у хату, а яе ўгаварыў паехаць...

— Два вядры на адным пальцы? — засмяяўся хтосьці з натоўпу.— Гэта ты, Іван Міхайлавіч, загнуў...

...І пачаўся мітынг.

А яны — у акопчыку, і замест гранат — бутэлькі з гаручай сумессю. Вось і рваліся то сэрца, то танк. Цяпер на месцы гэтага акопа — сцяжынка, якая невядома кім прадоўжана праз поле, да сквера. Мы стаім прама на ёй, і я прыгадваю апошняе пісьмо Рыгора Фёдаравіча, напісанае незадоўга да гэтай сустрэчы са шпіталя інвалідаў вайны:

«Шмат я маю цяпер часу для розных думак... І баліць мая кукса, а я ўсё думаю: якім жа было маё жыццё? Я і немца біў, і лістоўкі ў Мінску расклейваў, а цяпер вось хлеб сею...»

— Ну што, не відаць? — былы партызанскі пекар Ягораў кінуў позірк на дарогу.— Прыедзе, не перажывай, Дзёмін чалавек акуратны.

У руках у Ягорава бохан хлеба. Ён з акружэнцаў у атрад трапіў, з адмарожанымі нагамі. Яго бліжэй да цяпла і ўладкавалі. Раскладзе, бывала, хлеб горкамі, разносіць па зямлянках. Спачатку тым, хто з задання вярнуўся. Разведчыкам па акрайцу ў кішэню запхне. І цяпер гэты свой бохан спрытна падзеліць на ўсіх — практыка даўняя.

Ля помніка змайстравалі самаробную трыбуну, з праўлення калгаса прынеслі стол, накрылі яго, як і належыць, чырвоным абрусам. Хутка мітынг.

А Дзёміна ўсё няма. Раней ён заўсёды прыязджаў першым. Або другім — пасля дзеда Васіля, які наглядае за брацкай магілай.

Хтосьці сказаў: «Не будзе мітынгу...» Потым удакладнілі: «Будзе! Без мітынгу нельга...»

Дзёміна не было...

— Бяжыце, хлопчыкі, у Юр'ева,— загадала сваім выхаванцам былая сувязная атрада, настаўніца Ганна Аляксандраўна Казак,— можа, засядзеўся ў якой хаце?

Юр'ева — вёска звычайная. Сто двароў не налічыш. І амаль на кожнай браме — чырвоная зорачка. Гэта значыць, што тут амаль з кожнага двара хтосьці быў у партызанах, а то і ўся сям'я. Зрэшты, не толькі ў Юр'еве, такія зоркі па ўсёй акрузе: Прудзішча, Сытокі, Антаполле, Бабін Лес... У будзённы дзень або ў свята сядзяць каля хат бабулі. Адны. Палова вёскі — удовы. Таму ёсць каго наведаць камандзіру, хоць Нілу Ляховіч, хоць Марыю Гоўзіч, хоць другую Нілу, што тут жа жыве, праз дом. Або да Вярцінскай Настассі пастукайся — прыме, як роднага, і не адпусціць адразу. Не Пятро Міхайлавіч у атрадзе па шавецкай справе ўладкаваў, але і на заданні, вядома, пасылалі. Мінула яго куля, а вось сэрца хворае было. Памёр Пятро Міхайлавіч, а які ж быў ахвочы да гэтых сустрэч. Як пачне, бывала, каля вогнішча расказваць, успамінаць — кожны заслухаецца.

Міхаіл Ціханавіч Пліско таксама будзе рады госцю: цяжка яму з пасцелі ўстаць, да помніка не ходзіць другі год, але малодшая ўнучка яго партызанскі медаль «За адвагу» ціхенька прынясе ды яму на грудзі пакладзе: няхай паляжыць ля дзядулевага сэрца.

У хаце тры пакаленні сабраліся, таму размоў хопіць надоўга: і пра атрад — гэта з дзедам Міхалам, і пра нарыхтоўку траў — з сынам Яўгенам, пра салдацкую службу, калі перачытаць пісьмы ўнука Сашкі...

## 2. МОЙ ЦЁРКІН

Дзень будзённы, і ўсе месцы ў электрычцы заняты. Мы з Іванам Сцяпанавічам Шмеем сядзім ля адчыненага акна і гамонім. А пагамаліць ёсць аб чым — Іван Сцяпанавіч вывучаў вайну не па падручніку гісторыі.

...Усіх разведчыкаў было дванаццаць чалавек, а ён трынаццаты, і пяты ў групе захопу. Ішлі звычайна ў сляпую, слізкую цемру. Вярталіся такой жа парой, а днём спалі, быццам совы. І былі ўсе, як браты. Пакуль група захопу працуе з «языком», напагатове група прыкрыцця, крыху наводдаль — група забеспячэння. Выручка надзейная. Таму Коля Курбатаў адной рукой валачэ аглушанага немца, а другой падае сігнал Івану: маўляў, гатова, дапамагай. Іван прыўзнімаецца і раптам адчувае, як маскхалат прашылі кулі. Прыпадае да зямлі. Забіты? Начная птушка ўскрыкнула. Жывы! Дабраўся да Колі, а той ляжыць ніцма... «Мама, мілая»... А побач немец ажывае. «Прыцішыў» фашыста яшчэ «на гадзінку», загарнуў у сетку, пацягнуў да хлопцаў. А тыя — у штаб... Другі заход — па Кольку. Па няпісанаму закону разведкі ў любое пекла трэба вярнуцца па загінуўшага таварыша. Неслі Мікалая на маскхалаце асцярожна. Не верылася...

— Паранены?.. Ці спіць?..— пытаецца з надзеяй старшына.

І не гледзячы, як учора, на «дозу», налівае з пляшкі ў конаўку, пускае па крузе баявыя сто грам...

Калі б вярнуліся ўсе, як адзін чмякнуліся б на калматыя цёплыя лапы елак, падрыхтаваныя братвой, праспалі б, поплеч, не варухнуўшыся, да новага загаду. Сёння ж не да сну... «Трымайцеся,— гаворыць Іван, а сам знаходзіць плоскі шырокі камень, бярэ з патухлага вогнішча вугаль, малюе эскіз. Дзіма Радзько на кукішках побач чыркае запалкай. Астатнія па чарзе шліфуюць камяні, якія раніцай стануць абеліскам... Не паспелі на досвітку даць залп над Колінай чырвонай зорачкай, трэба ісці да камандзіра. Выклікае ўсіх у штаб, значыць, трапіўся «тлусты лешч».

— Зарабілі, хлопцы, па ордэну,— гаворыць камандзір.

— Гэта Колька...— выціскае Іван.

Ордэны, канечне, прышпілілі да іх гімнасцёрак, а Кольку — толькі пасмяротна.

Новы загад, хлопцы невясёлыя. Разведка без настрою — пагібель. І хоць Івану не лягчэй, але рука яго сама пілотку набакір сцягвае. І вось ужо баян у руках. Для пачатку, каб увагу прыцягнуць, пальцы то ўверх кіне, то ўніз па планцы, шчакой да мяхоў прыхінецца, ды адхінецца, і... як урэжа «Кацюшу». Сэрца хоць і рвецца на часткі, а ўсё ж міжволі сілай напаўняецца. Мінае хвіліна — і можна ступаць на начную сцежку.

Сцежка вядзе ў родныя мясціны: Віцебск, Лепель, Паставы. А наперадзе палаў літоўскі горад Тыльзіт: выбівалі немцаў з крэпасці... У фортах цемра, хоць вока выкалі, але разведчыку прывычна арыентавацца па гуку. Захапіўся Іван наступам, прагледзеў ззаду фрыца. Той наваліўся ўсім целам, пачаў душыць. І пайшла рукапашная. Зусім, як у Цёркіна: «Вместо тысяч бьются двое, точно схватка все решит»...

Іван Сцяпанавіч расказвае неспакойна:

— У сорак першым я толькі выйшаў з дзесятага класа. Спрытны быў, а з дзяўчынкай танцаваць саромеўся. У Марыі каса русая з руку таўшчынёй, а вочы... Насіўся ў футбол, забіваў галы ў яе гонар. Калі ў першыя дні вайны пайшоў на фронт, у парку на клёне выразаў: «Вярнуся...» І гэтую клятву ўсю вайну паўтараў. Парку таго ўжо няма, знеслі, быў ён крыху ўбаку ад дома, дзе я жыву.

Пад Кёнігсбергам мы вызвалілі канцлагер, а ў ім адны жанчыны. Немцы планавалі ўзарваць баракі, а мы з разведчыкамі перашкодзілі. Нацярпеліся, родныя: высахлі, як галінкі, і хістаюцца. Сціснулі мы кулакі... А лагерныя пытаюцца: «Землякі, можа?..» І мы пытаемся. А я ўсё каля дзвюх цётак кручуся: падыду, адыду і зноў вяртаюся. Проста ногі нясуць назад. «Што гэта з табой?» — не разумеюць разведчыкі. Я б і сам не зразумеў, але тут песня як быццам унутры мяне, не пяю, а чую: «Платком взмахнула у ворот моя любимая»...

Пахіснулася адна з іх — я падхапіў яе, як былінку... Гэта была Марыя.

Умела ж вайна найсправядлівейшыя сустрэчы дарыць і адымаць тут жа. Назаўсёды згубіліся ў ваенным віхуры мы з Марыяй. Не ведаю, што б са мной было, каб не сустрэў я сваю Ганну. Ажаніліся. Пабудаваліся ў родным Дзяржынску. Сыны ў нас, унукі. Збяромся разам, Ганна гітару возьме. «Платком взмахнула у ворот моя любимая...» У нас вельмі любяць гэтую песню.

Іван Сцяпанавіч здзьмуў са старога баяна пыл, усміхнуўся, штосьці прыгадваючы. І...

— Ну, карэспандэнт, трымайся! — падміргнуў з-за пляча, быццам апамятаўшыся, ды такога «рускага» паласнуў пад ногі, што не заўважыла, як выйшла ў круг. Баяніст смяецца: «Я не так еще сыграл бы, жаль, что лучше не могу»...

Расказваў мне Іван Сцяпанавіч, як пайшоў аднойчы паглядзець выстаўку маладога мастака аб вайне. Цікава яму, самадзейнаму мастаку, убачыць работы тых, хто вайны не бачыў. Прабег вачамі за некалькі хвілін усе палотны. «Не спадабалася?..» — спыніў яго ў дзвярах аўтар. «Праўды мала...» — адказаў шчыра. «Вы нічога не разумееце ў жывапісе»,— абурыўся мастак. «А вы ў вайне»,— не стрымаўся Іван Сцяпанавіч.

Але сам, хоць і стаіць вайна перад вачамі, не малюе яе. Нервовая гэта справа. Ёсць, праўда, адно палатно. «Лес Гай» называецца. Калі прайсці ад яго дома па дарозе крыху далей, дзе пачынаюцца блакітныя яліны, будуць траншэі, яшчэ далей — партызанскія мясціны. Там хлапчукі збіраюць і цяпер пустыя гільзы. Цяжкія былі баі. Але і «Лес Гай» Іван Сцяпанавіч напісаў не таму, што тут калісьці стралялі. Ужо надта прыгожа навокал.

Праўду расшыфроўваць не трэба, лічыць Іван Сцяпанавіч, яна кожнаму зразумелая. Вось, напрыклад, пісаў пра вайну Канстанцін Сіманаў. Сустракаўся з ім Іван Сцяпанавіч у Маскве, калі здымаўся фільм «Ішоў салдат». Разгаварыліся пра заваруху пад Магілёвам, успомнілі абарону Масквы, Сталінграда, штурм Берліна. Адчуў Іван Сцяпанавіч, што перад ім той самы салдат, які не адны боты за вайну стаптаў. Ну і разгаварыўся. Ніколі яшчэ так многа пра сябе не расказваў. Калі Сіманаў пракруціў плёнку з гутаркай, нават няёмка стала. Але ж усё так і было. Можа, таму кнігі Сіманава сам-насам чытаць хочацца? А якая розніца — кнігі ці карціны...

Перад самым маім ад'ездам з Дзяржынска Іван Сцяпанавіч збіраўся ў школу на збор. Вось што значыць — хутка свята Перамогі! Праз дзень прыходзяць то школьнікі, то карэспандэнты. А ён, бачыце, збіраецца на сустрэчу і хвалюецца, як хлапчук.

— Складзі, Ганна, пінжак, вазьму ў рукі,— гаворыць жонцы.— Не свята яшчэ...

На карычневым, ненадзяваным пінжаку гараць тры ордэны Славы. Апошні, залаты, перад строем дывізіі ўручыў Івану Сцяпанавічу сам Ракасоўскі. «Генерал награду выдал, точно снял с груди своей...» Угаварылі яго ўсё ж надзець пінжак. Выйшлі на вуліцу, а ён усё перажывае. «Горача,— кажа,— штосьці» і расхрыствае пінжак так, што і ордэнаў не відаць. «Не свята...» І, як бы апраўдваючыся, дадае: «Парадак у нас, як быццам, на ўсім. Дом поўны, дзеці ўладкаваны, унукі гадуюцца, мяне вось усё ніяк на пенсію не адпускаюць. Але часам здаецца, што я быццам забываю нешта. Можа, і пра тых салдат, што засталіся ляжаць пад абеліскамі?..

...— І толькі ў Дзень Перамогі я, як і ў 45-м, адчуваю адно — жывыя!

**Вольга ЯГОРАВА,**
**лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.**

# ВЕТЭРАН ЗАСТАЕЦЦА Ў СТРАІ



...Да Вялікай Айчыннай вайны Жэня Шаўчэнка працавала фельчарам-акушэркай Крупскай раённай бальніцы Мінскай вобласці. Яе муж Аляксандр у першы дзень вайны пайшоў на фронт і праз тры месяцы загінуў у баях супраць фашыстаў пад Смаленскам. Жэня засталася з двухмесячным сынам на руках. А ў Крупках былі ўжо фашысты. «Што рабіць, куды падацца з малым дзіцем?» — не раз думала Жэня.

Аднойчы яна падзялілася сваімі думкамі з камуністам, фельчарам Аркадзем Філонавым.

— Будзем разам змагацца з акупантамі,— сказаў Аркадзь Сцяпанавіч.

У лясах Міншчыны пачыналі ўжо дзейнічаць невялікія партызанскія атрады. Жэня Шаўчэнка стала сувязной атрада імя Варашылава. Яна перадавала ў атрад медыкаменты, бінты, зброю.

— Аднаго разу,— успамінае Яўгенія Максімаўна,— мне даручылі даставіць народным мсціўцам пяць пісталетаў, апошнюю зводку Саўінфармбюро. Усё гэта я схавала пад адзенне, узяла на рукі свайго хлопчыка і накіравалася да дзвярэй.

— Пачакай,— сказаў Філонаў,— пакінь малога, калі што якое, то...

— Калі загіну, дык разам з ім,— адказала Жэня.

Да атрада было каля 20 кіламетраў. Трэба было мінуць некалькі вёсак, а галоўнае прайсці доўгі мост цераз раку Балачанку. Гэты мост днём і ноччу ахоўвалі фашысты. Вось і ён. З аднаго і з другога канца з аўтаматамі стаяць вартавыя. Сувязная мацней прыціснула да грудзей сына.

— Вось,— працягнула Жэня загадзя падрыхтаваную паперку,— у бальніцу дзіця нясу, тыф у хлопчыка.

Фашыст баязліва замахаў рукамі: маўляў, ідзі хутчэй.

Такія падарожжы паўтараліся амаль кожны тыдзень.

Аднойчы да яе дома пад'ехалі гітлераўцы. Перавярнулі, ператрэслі рэчы, нешта шукалі. Жэню арыштавалі, пасадзілі ў турму. Тыдзень не давалі ніякай ежы, дапытвалі некалькі разоў на дзень, білі... Допытваліся, дзе знаходзяцца партызаны. Сына яе ўвесь гэты час даглядалі суседзі.

Жэня прасядзела ў турме каля трох месяцаў, вынесла ўсе пакуты і здзекі акупантаў, але не выдала сваіх таварышаў па барацьбе. Не дабіўшыся нічога, фашысты выпусцілі яе з турмы, аднак устанавілі за ёю тайны нагляд. Партызаны даведаліся аб гэтым і вырашылі пераправіць яе з маленькім сынам у атрад. Тут яна лячыла раненых, хадзіла на адказныя заданні.

...У вёсцы Блонь быў размешчаны буйны варожы гарнізон, які ахоўваў чыгуначнае палатно Мінск — Асіповічы. Камандаванне партызанскага атрада вырашыла знішчыць варожы гарнізон, падарваць чыгуначны мост цераз раку, каб спыніць рух на чыгунцы. Некалькі дзён народныя мсціўцы рыхтаваліся да гэтай адказнай аперацыі. Ноччу, непрыкметна, яны прабраліся да вёскі. На досвітку, калі шэры, густы туман ахутаў наваколле, па ўмоўнаму сігналу лясныя салдаты пачалі штурм варожага гарнізона. Завязаўся жорсткі бой. Жэня перавязвала раненых, выносіла іх у надзейнае месца. За некалькі гадзін бою фельчар Шаўчэнка вынесла 28 параненых партызан, аказала ім першую медыцынскую дапамогу. Аднаго з параненых — Віктара Шпакоўскага, якому асколкам варожай міны адарвала нагу, прыйшлося на плячах, па-пластунску дастаўляць у бяспечнае месца пад беспярапынным агнём ворага.

Праз некалькі гадзін бой скончыўся. Варожы гарнізон быў знішчаны. Партызаны вярталіся ў свой лагер. І толькі тут Жэня агледзела, што ў яе з-пад рукава гімнасцёркі прасочваецца кроў... Яна сама была паранена. Праз некалькі дзён партызаны атрада імя Варашылава злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі. Хутка быў вызвалены ад фашыстаў Мінск, і Шаўчэнка ўдзельнічала ў партызанскім парадзе. У жніўні 1944 года яна прыехала ў горад Скідаль Гродзенскай вобласці.

І вось ужо сорак гадоў працуе фельчарам-акушэркай у Скідальскай гарадской бальніцы.

За праяўленыя подзвігі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны былая партызанка ўзнагароджана ордэнам Леніна, многімі медалямі. Асабліва ганарыцца Яўгенія Максімаўна імянным медалём Флорэнс Найцінгейл, якім яе ўзнагародзіў Камітэт Міжнароднага Чырвонага Крыжа за выратаванне і аказанне медыцынскай дапамогі партызанам у час вайны. Лепшая працаўніца бальніцы неаднаразова выбіралася дэпутатам гарадскога Савета народных дэпутатаў, членам партыйнага бюро. Нягледзячы на гады, Яўгенія Максімаўна Шаўчэнка працуе, як кажуць, застаецца ў страі.

**Канстанцін САНЬКО,**
**удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.**

Трыцікале — націск на перадапошнім складзе. Трыцікале, што гэта, хто? Можа імя з нейкай казкі? Прынц Трыцікале. Але бацькі яго — простыя і добра вядомыя кожнаму — пшаніца (трыцікум па-латыні) і жыта (секале). Гібрыд. І вельмі цікавы. Вучоныя заўважылі яго адразу, як толькі вядомы нямецкі селекцыянер В. Рымпау паведаміў аб яго нараджэнні,— год 1875, бо ўжо тады адчувалі, што гэта «гадкае качанё» можа неўзабаве стаць «лебедзем», і вялі з ім вялікую «выхаваўчую» работу.

Трыцікале, якое атрымалася ў нямецкага селекцыянера, па-навуковаму называецца октаплоідным. Гэта значыць, што ў ядрах яго клетак знаходзіцца восем элементарных набораў храмасом. У трыццатыя гады нашага стагоддзя былі праведзены шырокія даследаванні па атрыманню і селекцыйнаму вывучэнню трыцікале гэтага віду — як у нас, так і за мяжой. Аднак прадукцыйнасць нават самых лепшых ліній октаплоіднага трыцікале аказалася недастаткова высокай, каб яны маглі спаборнічаць з пшаніцаю. Гэтыя палепшаныя формы мелі абмежаваную вытворчую каштоўнасць, але выклікалі цікавасць у якасці генетычнага матэрыялу для далейшай селекцыйнай работы.

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ,




ў бок паляпшэння яго пякарскіх якасцей, а ў бок павышэння яго фуражнасці — павышэння агульнай ураддівасці пры захаванні высокага працэнта бялку, які мае пшаніца. Таму аб'ектам нашай сумеснай зацікаўленасці з'яўляецца новая збожжава-фуражная культура — яравое трыцікале.

Наогул, трыцікале — выдатны матэрыял для доследаў па пытаннях прадукцыйнасці раслін. Трэба адзначыць, што трыцікале — першая культура ў гісторыі земляробства, якая ствараецца не традыцыйным шляхам — шляхам прыручэння дзікарослага віду, узятага з прыроды. Трыцікале — гэта новы від, нават род раслін, штучна атрыманых чалавекам у выніку генетычнага сінтэзу. Генетычна-селекцыйная работа з трыцікале — гэта ў поўным сэнсе слова працэс эвалюцыі новага віду, якая ідзе пад свядомым уплывам чалавека.

Назапашаны вопыт сведчыць аб вялікай разнастайнасці форм, якія ўзнікаюць у працэсе гэтай эвалюцыі, і аб магчымасці атрымання новых тыпаў раслін, вельмі цікавых для практычнай селекцыі — па патэнцыяльнай прадукцыйнасці і яе ўстойлівасці.

□ Акадэмік Мікалай Васільевіч Турбін і дырэктар Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР акадэмік Любоў Уладзіміраўна Хатылёва на вопытнай станцыі інстытута.

□ Каласы трыцікале.



Першае гексаплоіднае трыцікале — з шасцю наборамі храмасом — было атрымана ў нашай краіне ў 1938 годзе ад апылення цвёрдай пшаніцы пылкам дзікага мнагалетняга жыта. Аднак яно таксама не выклікала асаблівага захаплення. Але вынікі скрыжавання октаплоідных трыцікале з гексаплоіднымі абнадзеілі вучоных.

У наш час атрыманы формы гексаплоідных трыцікале з нармальнай пладавітасцю і палепшанай якасцю зерня. Некаторыя з іх па ўраддівасці пераўзыходзяць лепшыя гатункі пшаніцы.

Чую голас скептыка: а ці трэба было валэндацца сто гадоў з нейкім выпадковым гібрыдам, каб дацягнуць яго да ўзроўню бацькоў? Тым больш,— таксама граматныя, чытаем сёетое,— усё-такі не ўдаецца атрымаць такія гатункі, у якіх бы спалучалася высокая колькасць бялку і клейкавіны, з захаваннем яе якасцей, неабходных для выпечкі хлеба — пругкасці, здольнасці расцягвацца? Каб тыя сродкі і намаганні, што былі патрачаны, ды накіраваць адразу хаця б на тую ж пшаніцу ці жыта?

Скептыку патрэбны аўтарытэтны адказ.

У пошуках яго мы звярнуліся да вядучага вучонага ў галіне генетыкі раслін, акадэміка АН БССР, акадэміка УАСГНІЛ, арганізатара і першага дырэктара Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР Мікалая Васільевіча Турбіна. Зараз ён загадвае лабараторыяй генетыкі прадукцыйнасці раслін Усесаюзнага інстытута раслінаводства імя М. І. Вавілава. Лабараторыя была створана менавіта для каардынацыі работ па стварэнню і ўкараненню трыцікале.

— Мікалай Васільевіч, якія вынікі на сённяшні дзень у галіне даследавання трыцікале і, наогул, чаго можна чакаць ад гэтай культуры?

— Збожжа, якое ідзе непасрэдна на хлеб, нават у самы неўрадлівы год у нас заўсёды хапае. Наша гаспадарка адчувае патрэбу ў фуражы — і з кожным годам усё большую. Расце насельніцтва, а з ім і патрэбнасць у малацэ і мясе. Таму работа з трыцікале вядзецца не

Калі, напрыклад, пшаніца знаходзіцца ўжо недзе на самай высокай прыступцы эвалюцыйнай лесвіцы, то трыцікале яшчэ на самым пачатку яе. І пры гэтым яно пераўзышло пшаніцу па большасці паказчыкаў. Напрыклад, адна з лепшых азімых пшаніц — Рамясло — дае 55—60 цэнтнераў з гектара, сённяшнія гатункі трыцікале — 80—90. У адным коласе пшаніцы ў сярэднім — 21—23 зерні, у важкім коласе трыцікале — 50—60. Так, каласы трыцікале ў 2—2,5 раза цяжэйшыя. Па ўтрыманню бялку трыцікале таксама не саступае, а па ўтрыманню лізіну ў бялку нават пераўзыходзіць пшаніцу.

— Уласна кажучы, пшаніца выкарыстала ўсе тыя магчымасці, якія залажыла прырода з дапамогай чалавека, і падышла да сваёй мяжы. Тут самыя вялікія выдаткі здольны даваць вельмі невялікі прырост. Трыцікале — прынцыпова новая расліна.

— Так. І зараз мы «выпрабоўваем» самыя першыя мадэлі яе. Трыцікале характарызуецца не толькі рэзка павышанай прадукцыйнасцю коласа, але і тым, што яго больш проста вырошчваць ва ўмовах інтэнсіўнай тэхналогіі. Можна нават сказаць, што трыцікале найбольш чуйнае да інтэнсіфікацыі.

Але ж, каб дасягнуць высокай патэнцыяльнай прадукцыйнасці калосся трыцікале, патрэбны палепшаныя ўмовы — кліматычныя і агратэхнічныя. Таму асноўныя пасевы трыцікале знаходзяцца пакуль што на палiўных землях Кіргізіі. Там дасягнуты і рэкордны ўраджай — 116,3 цэнтнера з гектара. З масавым з'яўленнем калосся, якое дае 4—5 грамаў зерня. Асобныя каласы дасягнулі вагі больш як дзесяць грамаў! Гэта сапраўдныя волаты. І галоўнае — сцябло вытрымлівае іх, не палягае, як у пшаніцы. Моцны колас дапаўняецца трывалым сцяблом.

— Вы ўзялі кірунак на павышэнне эфектыўнасці вытворчасці спажыўных рэчываў самой раслінаю, кірунак на якасць расліны, а не на колькасць...

— Так. На квадратным метры ў нас не больш ста раслін. Таму формула патэнцыяльнага ўраджаю трыцікале выглядае так: $100 \times 4 \times 3 = 120$. Першую лічбу мы ўжо ведаем, другая — прадукцыйная кусцістасць, трэцяя — сярэдняя вага аднаго коласа. У выніку — 120 цэнтнераў з гектара. Мы ўжо недзе блізка да гэтага патэнцыяльнага ўраджаю, які ўласцівы раслінам такога морфафізіялагічнага тыпу.

Вялікую цікавасць мае выкарыстанне ліній трыцікале, якія даюць вялікую біямасу для кормавытворчасці. Наогул, трыцікале ўяўляецца мне дасканалейшым камбікормам на корані. Застаецца дадаць толькі вітаміны і мінеральныя рэчывы. І тады мы атрымаем самы танны камбікорм.

— А ў выніку чаго атрымліваецца такая прадукцыйнасць трыцікале? За кошт спрыяльных кліматычных умоў? За кошт падтрымкі глебы на высокім узроўні ўрадлівасці?

— За кошт таго, што трыцікале можа надзвычай актыўна азывацца на ўвесь гэты комплекс умоў. Яно можа іх выкарыстаць у большай ступені, чым тая ж пшаніца.

— У яго большыя «рукі», і, значыць, можа больш узяць і ўтрымаць. А за кошт чаго павялічыліся «далоні» гэтай расліны, чым яна адрозніваецца ад іншых раслін?

— Як вядома, расліны выкарыстоўваюць толькі некаторую частку сонечнага святла. Яна называецца актыўнай радыяцыяй — скарочана ФАР. Залежыць яна ад геаграфічнай шыраты, ад вышыні над узроўнем мора, частай ці рэдкай воблачнасці. Прадукцыйнасць раслін залежыць ад ступені засваення ФАР, гэта значыць, ад ККД фотасінтэзу. У розных раслін ён розны.

Дык вось, каэфіцыент выкарыстання сонечнай энергіі ў апошніх ліній трыцікале дасягае 5 працэнтаў. Гэта вельмі высокі паказчык. У пшаніцы Кіргізская-100 — у тых жа самых умовах — ён удвая меншы. Акрамя гэтага сённяшні морфафізіялагічны тып трыцікале вылучаецца і павышаным узроўнем энергетычнага абмену.



прыдатным для ўсіх глебава-кліматычных умоў. У напрамку развіцця канцэпцыі морфафізіялагічнага тыпу раслін і вядзе доследы наша лабараторыя. Наша мэта не столькі стварэнне новага сорту, колькі стварэнне новага спосабу вывядзення раслін.

Так склалася, што ў селекцыі раслін мы значна адстаём ад сусветнага ўзроўню. У нас дзесяцігоддзямі эксплуатуюцца адны і тыя ж сарты, хай сабе і высокаўраджайныя. Ва ўмовах сучаснага інтэнсіўнага земляробства аптымальны тэрмін змены сорту — на больш прадукцыйны — 7—8 гадоў. У нас толькі на сортавыпрабаванні ідзе 3—4 гады. А на поле сорт прыходзіць — у лепшым выпадку — праз 10—12 гадоў! За гэты час ён паспявае маральна састарэць.

У нашай лабараторыі, акрамя сартоў, якія рыхтуюцца да сортавыпрабаванняў,— у гэтым годзе засеяна 15 тысяч гектараў,— назапашаны матэрыял і для яшчэ больш прадукцыйных ліній, таго ж морфафізіялагічнага тыпу, а таксама ліній другога тыпу, больш скараспелых і здатных для вырошчвання ў раёнах Нечарназёмнай зоны. Гэтыя новыя лініі пераўзыходзяць па ўрадлівасці традыцыйныя культуры — яравую пшаніцу, ячмень, авёс.

# Я-ТРЫЦІКАЛЕ!

— Тэарэтыкі лічаць, што расліна магла б перапрацоўваць нават 10 працэнтаў сонечнай энергіі ў хімічную.

— Некаторае павелічэнне магчыма. Але для гэтага даследчыкам давядзецца стварыць зусім новыя метады культывавання раслін. Гэта атрымаецца, мусіць, толькі тады, калі мы лепш зразумеем працэсы фотасінтэзу і росту раслін. Наогул, зараз адна з найбольш актуальных задач у галіне раслінаводства — інтэграцыя ведаў аб прадукцыйнасці раслін, набытых у выніку аналітычных даследаванняў генетыкай, селекцыяй, фізіялогіяй, біяхіміяй, аграглебазнаўствам, аграхіміяй і другімі вузка спецыялізаванымі галінамі біялагічнай і сельскагаспадарчай навукі.

У выніку гэтай інтэграцыі павінна з'явіцца абагульняючая біялагічная тэорыя прадукцыйнасці раслін. Такая тэорыя пакуль яшчэ не распрацавана. Але ёсць канцэпцыя аб морфафізіялагічным тыпе раслін, якая разглядае марфалогію, фізіялогію і ўсе іншыя прыкметы і якасці раслін з пункту гледжання іх уплыву на выніковую прадукцыйнасць пасеваў. Менавіта такі падыход дапамог Міжнароднаму цэнтру па паляпшэнню кукурузы і пшаніцы пад кіраўніцтвам Н. Барлауга распрацаваць аптымальную мадэль кароткасцябловых сартоў пшаніцы, больш здатных, чым старажытныя доўгасцябловыя, для вырошчвання ва ўмовах інтэнсіўнага земляробства на высокім аграфоне, з выкарыстаннем павялічаных доз штучных угнаенняў. Стварэнне карлікавых сартоў атрымала ў гісторыі земляробства гучную назву «зялёнай рэвалюцыі».

— Але яна ішла на пэўным узроўні толькі там, дзе новыя сарты суправаджаліся падключэннем да багатых крыніц дадатковай энергіі. Гэта культуры для індустрыяльнай сельскай гаспадаркі.

— І створаны яны былі перш-наперш для Мексікі. Менавіта там яны і выкарысталі свае патэнцыяльныя магчымасці. Зразумела, што морфафізіялагічны тып кароткасцябловых раслін не трэба лічыць універсальным і найбольш



Фота Дзмітрыя МАЗАНІКА.

— Мікалай Васільевіч, а якія перспектывы для ліній трыцікале ў Беларусі?

— Мы плённа супрацоўнічаем з Інстытутам генетыкі і цыталогіі АН БССР, які ўзначальвае мая вучаніца, сябар і адданы памочнік, акадэмік Любоў Уладзіміраўна Хатылёва. Вось на здымку мы разам з ёю на дзялянцы трыцікале ў Сцяпянцы. Каласы трыцікале на здымках — таксама беларускія.

Пакуль што трыцікале магло б расці і добра радзіць на поўдні Беларусі, на Палессі. Там яно прыблізна давала б 70—80 цэнтнераў з гектара — азімае і 50—60 — яравое. Але спачатку новыя культуры праходзяць выпрабаванні ў максімальна спрыяльных умовах. Напрыклад, госць з Перу, памідор, без якога мы ўжо і не ведаем як абысціся, на пачатку стагоддзя вырошчваўся толькі ў Крыме. Зараз ён падняўся далёка на поўнач.

— Так што госць з будучыні — а я думаю, што так можна назваць трыцікале — неўзабаве таксама пройдзе гэты шлях.

— Будзем спадзявацца. Бо эвалюцыйна ён вельмі малады, а, значыцца, сіл і энергіі ў яго павінна хапіць і на засваенне новых, нават, здавалася б, не вельмі спрыяльных рэгіёнаў.

Акадэмік Мікалай Васільевіч Турбін можа гаварыць пра трыцікале бясконца. Зараз ён думае аб стварэнні энергабіялагічных комплексаў, якія будуць садзейнічаць далейшай інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі.

Гісторыя трыцікале прадаўжаецца. Бо казачнае ў ёй не толькі імя «беднага прынца», але і яго нечаканае багацце. Пасля ста гадоў цярплівай «адукацыі і выхавання» выявілася, што выпадковы гібрыд пшаніцы і жыта — госць з будучыні. Не сёння-заўтра, з караваем пад пахаю, пастукае ў дзверы і скажа: «Дзень добры, я — трыцікале!».

Валерый ЛІПНЕВІЧ.

Зіма яшчэ адчайна трымаецца. Глыбокі снег. Не адлягае мароз. Неба заткана нізкімі, непрыветна-свінцовымі хмарамі.

І ўсё ж такі — ужо выразна ва ўсім адчуваецца блізкая вясна. Бо і снег той, хоць ён яшчэ і ляжыць вакол, але пачарнелы, ужо наздраваты, глядзіш на яго — і не казыча пад сэрцам халаднаватая радасць, якая бывае на пачатку зімы, а наплывае адно толькі нейкае шкадаванне... Бо і мароз той бярэ за вушы звычайна ўжо толькі раніцай. Бо і хмары ўсё часцей і часцей прабівае сонца — ласкавае, вясёлае, і тады на асфальце сям-там пачынаюць блішчаць лужынкі, ля якіх адразу збіраюцца задзіры-вераб'і...

Пра недалёкую вясну нагадвае і пасвяжэлае, празрыста-хмельнае паветра, і неверагодны грачыны галас у скверах, і першыя пары закаханых на лаўках у парку...

Прырода і чалавек жывуць прадчуваннем мудрага, спрадвечнага абнаўлення.

□ □ □

Пад сцяною, у зацішку, падстаўляючы твары цёпламу ўжо сонцу, стаяць тры бабкі. І з гэтакім яны захапленнем нешта абмяркоўваюць, і столькі ў іхніх рухах чагосьці зухаватага, маладога, што, гледзячы на іх, нельга не ўсміхнуцца.

Што зробіш — вясна!

□ □ □

Цёплы красавіцкі дзень, і мы з сябрам выскачылі за горад, у лес. Якая там любата цяпер! Усё так і дыхае свежасцю, маладой сілаю, хараством. Усё — і гэта адчуваеш амаль фізічна — цягнецца ўгору, да сонца, расце.

На арэшніку, альхоўніку вісяць пяшчотныя завушніцы. Зазелянелі і гатовыя вось-вось пайсці ў рост лісцікі з пупышак на бярозах. Сям-там, на санцагрэве, на вышэйшых ды сушэйшых мясцінах выпырснула маладая травіца...

Акунуўшыся ў гэту першародную свежасць, міжволі маладзееш, мякчэеш душою і сам. Сябар мой, нашто ўжо чалавек стрыманы ў сваіх пачуццях, і той з прасветленым тварам доўга расчульваўся над срэбна-пушыстым «коцікам», з павільгатнелымі вачамі кратаў далікатныя завушніцы, адганяў матыля, што раптам узяўся аднекуль і ўсё трапятаў вакол цяпельца, што расклалі мы, рызыкуючы трапіць у агонь:

— Ну куды ты, дурань, лезеш... Ляці ўнь далей. Ляці на сонейка...

□ □ □

Нарэшце-такі дождж пайшоў. Цёплы, ціхі, першы за ўвесь красавік і май.

Як жа патрэбен ён быў! Як чакала яго перасмяглая, змарнелая зямля. Чакалі азіміна і яравыя ў полі. Чакалі дрэвы, здзіўлена пазіраючы ў неба кволымі пупышкамі. Чакалі людзі, якія ведаюць, што такое сухая, без дажджу вясна...

І от дождж пайшоў... Спорны, радасны, залаты. Ну, цяпер дай толькі пару дзён цяпла — і ўсё наўкол зацвіце, забуяе, загамоніць...

Ідзі сабе, дожджык, на здаровейка, раскашуйся...

На некалькі дзён вырваўся з горада ў родную вёску. У раннюю, зялёна-маладую вясну.

Якое ж тут цяпер хараство! Раніцаю расчыніш акно насцеж — на вуліцы ціхенька, сонечна. А паветра — чыстае, прахалоднае, хмельнае... Недзе на суседавым ясені пасвістваюць шпакі. Ля хаты гуляюць, шчабечуць, як птушкі, дзеці.

А ў полі! Што робіцца гэткай парою ў полі, у лесе. Зыркая, сонечная паводка, дзівосныя, хвалюючыя пахі. І над усім гэтым, у сінім, высокім небе, як голас анёла — звонкая жаўрукова песня...

Стаіш, убіраеш чыстае, непаўторнае хараство расчуленым сэрцам, кожнай сваёй клетачкай і адчуваеш, як маладая буйная радасць прыроды становіцца і тваёй радасцю.

□ □ □

Слухаў сёння — не ўпершыню, канечне, але неяк зусім па-новаму,— як спявалі на досвітку пеўні.

Першым азваўся недзе побач, мусіць, на суседавым двары, хрыплы, моцны голас:

— Ку-кар-рэ-ку-у!

Нейкае імгненне было ціха-ціха, а потым пеўні заспявалі адразу па ўсёй вёсцы — адзін, другі, трэці... Іх галасы чуліся то побач, зычна, то прыцішана, а то і зусім глуха, толькі даносілася апошняе «ку-у...». Спяванне гэта было таксама рознае: ад чыстага, аж здаецца, крыштальнага «ку-ка-рэку» да хрыплага, неразборлівага.

Усё гэта ішло некалькі хвілін — такімі хвалямі, пералівамі, і, здавалася, што от зараз спявае ўся зямля. І мо ўпершыню так зачаравана і з нейкім нават здзіўленнем слухаў я гэтую адвечную і — дзякуй богу — жывую яшчэ песню зямлі, песню жыцця.

□ □ □

Учора быў на нашым балоце.

Вялікія перамены чакаюцца тут! За спрадвечную багну ўзяліся, здаецца, не на жартачкі. Нагналі экскаватараў, бульдозераў — процьма. Дзень і ноч чуваць гул матораў. Нарэшце! Нарэшце-такі клятая дрыгва пачне служыць людзям.

Адно азмрочвае гэту радасць. Меліяратары, якія прыйшлі на балота, каб акультурыць яго, нішчаць цяпер неміласэрна ўсё, што трапляецца на іхнім шляху: і гатовыя паплавы, і альшэўнік. Нават раку, і тую перарабілі ўжо гэтак, што не пазнаць. Я як убачыў бедную, знявечаную Вісліцу — аж балюча стала. Колькі гадоў вольна і лёгка бегла яна праз нашу вёску, празрыста-блакітнай стужкай слалася ў паплавах, бруілася-вілася між алешын і вербалозу, нетаропка несучы ўдалячынь, да дрымучых бароў, сваю звонкую, светлую ваду. Невялічкай, не дужа прыкметнай была гэта рэчка, а якім хараством, якой паэзіяй аздобіла яна маё (і не толькі маё) дзяцінства. Як любілі мы нашу Вісліцу! Колькі розных казак перaслухана, колькі чароўных дум перадумана на яе берагах! Рака вучыла нас спрыту, мужнасці і, можа, больш, чым што іншае, абуджала ў сэрцы трапяткое пачуццё любові да прыроды, да роднага краю. І вось цяпер замест колішняй першароднай красы — брудная, да нудоты прамая канава...

Нашто ж так бяздушна, так груба наводзіць культуру ў прыродзе? І ці мае ўсё гэта якое дачыненне да меліярацыі, якая, дарэчы, у перакладзе з лацінскай азначае не асушэнне, а паляпшэнне?

□ □ □

Ішоў раніцаю поплавам. Тым самым, на якім некалі прайшло ўсё маё дзяцінства.

І хоць многае тут змянілася: пасярод поплава пракапалі шырокую канаву, дый самога поплава, можна сказаць, няма ўжо — яго зааралі, засеялі жытам. І ўсё ж... Звонка сакаталі, як і тады, у маленстве, конікі ў бульбе. Гэтак жа пахла травою, бульбоўнікам і яшчэ нечым знаёма-родным. Гэтак жа за ракою ў ранішнім тумане перакліkaліся касцы.

І божа мой, як адразу, што пчолы, зараіліся ў маёй душы ўспаміны, растрывожылі-ўсхвалявалі сэрца. І было невыказна прыемна, радасна і трошкі журботна-балюча ад таго, што тая чароўная, шчаслівая пара ўжо не вернецца, не паўторыцца больш ніколі-ніколі.

І думалася яшчэ: як добра, што ёсць на гэтай зямлі мой ціхі, мой родны куток, дзе можна вось так, у святой сцішанасці, пастаяць, стрымліваючы на вачах слёзы, падумаць пра сваё мінулае і пра сваё заўтрашняе.

□ □ □

Чуў ад старых людзей, а нядаўна прачытаў у навукова-папулярнай кнізе, што буслы сваё хворае, нямоглае бусляня бязлітасна выкідваюць з гнязда.

Неразумна? Жорстка? А калі задумацца, то, можа, у гэтым ёсць і свая мудрасць. З кволага, слабага птушаняці не вырасце здаровая, моцная птушка, якая вытрымае далёкі, тысячавёрсты пералёт. Значыць, яна асуджана на немінучую, пакутлівую гібель зімою.

Канечне, было б цудоўна, каб у кожным такім выпадку на дапамогу прыходзіў добры, клапатлівы Айбаліт. Але ў рэальнай прыродзе дзейнічае іншы, больш суровы закон: выжывае мацнейшы. Прырода сама, стыхійна, клапоціцца пра сваю здаровую будучыню.

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ**



Сурова? Так. Справядліва? Наўрад ці. У першую чаргу для таго, хто нарадзіўся жыць.

Доўга любаваўся велічным і простым хараством позняга летняга вечара.

Паволі за сіні лес апускаўся вялікі чырвоны дыск. І там, дзе сонца заходзіла, неба было таксама чырвона-пунсовае, і ад яго, здавалася, патыхала нейкай прыемнай, пяшчотнай прахаладай, як ад спелых журавін.

У мяккім, сінявата-шэрым паўзмроку курыўся — над ракою і па лагчынах — туман. Яго доўгія сівыя пасмы нагадвалі вялізную разасланую бараду добрага чарадзея.

З-за ракі даносілася вуркатанне трактара. Пахла свежаўзаранай раллёй, травамі. І малаком — па гасцінцы, які бялеў за поплавам, нібы бясшумны пярэсты эшалон, расцягнулася чарада кароў...

Увачавідкі цямнела, налівалася глыбокай сінню паніжэлае неба. Прарэзваліся, мігцелі першыя зоркі...

Дзіўная рэч! Раней, калі жыў у вёсцы, я нібыта і не заўважаў навакольнага хараства. Ніколі, можа хіба ў дзяцінстве, не стаяў і не любаваўся карцінай роснай раніцы ці захаду сонца. Прырода для мяне, як, мусіць, і для кожнага вясковага жыхара, не была нечым староннім. То былі мы самі.

І вось цяпер, пажыўшы ў горадзе, я нечакана ўбачыў сваю вёску, яе наваколле як бы іншымі, новымі вачамі.

Выйшаў учора, пасля выхадных, сюды — і анямеў. Пабітыя пляшкі, пакарабачаныя бляшанкі, жмакі рваных газет, абгорткі ад марожанага, цукерак...

□ □ □

Перасоўны заапарк.

Відовішча даволі сумнае. Худыя, аблезлыя лісы. Пануры, з пранізлівай самотаю ў вачах воўк. Знерухомелы на асфальтавым пятачку, за ржавымі кратамі, гіпапатам...

Але асабліва балюча было глядзець на слана. Прыкуты за ногі жалезнымі ланцугамі, ён стаяў на невысокім драўляным памосце і адзінокі, задуменна-ціхі ўсё калываўся, калываўся...

Няма нічога больш сумнага, чым свабода ў няволі.

□ □ □

— Што ты ўсё чытаеш пра жывёл? Навошта? Чытаць трэба пра людзей.

— Вось таму і чытаю пра жывёл, каб лепей разумець людзей. У звяроў прыродная сутнасць адкрытая, незамаскіраваная. Людзі ж навучыліся свае пачуцці, думкі хаваць за высокія, няшчырыя словы, прытворную ўсмешку.

# ВАЛОШКІ

□ □ □

Жыта, да якога мяне прывёў аграном, каб паказаць, стаяла сцяною — высокае, сцяблістае, нібы чарот. Налітыя каласы важка хіліліся долу, пакалыхваліся пад лёгкім ветрыкам...

Але я спыніўся, уражаны не толькі гэтым малюнкам. У жыце, на фоне жоўта-белых сцёблаў, сям-там віднеліся сціпла-вясёлыя галоўкі валошак. Рассыпаныя дзе радзей, дзе гусцей, яны здаліся мне ў гэтыя хвіліны нотамі ціхай, зямной, знаёма-хвалюючай музыкі. Той самай, што калыхала, напаўняла святлом маё дзяцінства, давала высокую, непаўторную радасць юнацтву. Музыкі, якая, на жаль, стала паціху ўжо забывацца...

Злавіўшы мой задуменны позірк, аграном, відаць, вытлумачыў яго па-свойму, бо тут жа пачаў паспешліва, збянтэжана апраўдвацца:

— Растуць во, халера на іх. Што ўжо ні робім — і пратручваем, і па некалькі разоў прапускаем на трыеры, а яны ўсё роўна... Жывучыя! Ну, нічога, знойдзем управу і на іх.

Напэўна, знойдзем... І будзе ў нас жыта ўсюды чыстае, без валошак. Прыбавіцца нейкі кілаграм да ўраджаю. Але ці станем мы ад гэтага багацейшыя? Ці варта нам гэтак ужо прагматычна падыходзіць да прыроды, патрабаваць ад яе толькі карысці, адных толькі матэрыяльных даброт, пазбаўляючы сябе можа не менш важнага — паэзіі і хараства?

□ □ □

Адразу за нашым домам — невялікі лапік хваёвага лесу, цудам ацалелага тут, сярод бетону, жалеза і асфальту. Сярод несканчонага, уедлівага шуму вуліц, смярдзючага дыму недалёкага завода.

У выхадныя дні сюды, на гэты зялёны астравок, прыходзіць нямала людзей — дзятвы, дарослых. Адным тут вольна, люба пабегаць, пагуляць у свае вясёлыя гульні, другім — пабыць у цішы, спакоі, падыхаць жывым водарам зямлі.

Берагчы б гэты прыдатны, каштоўны лапік, ахоўваць яго, як зрэнку вока. Не чыё ж — наша, агульнае. Не...

□ □ □

Першыя прыкметы восені.

Больш халоднымі, золкімі становяцца раніцы. Пасівеў на пустэчах і ўзмежках дзядоўнік. Запалымнелі ў агародах, ля хат, вяргіні. Рэдкія залацінкі сталі пракідвацца ў голлі бяроз, таполяў.

Паглушэў, парадзеў на птушыныя песні лес. Нейкім самотным, прыкметна пабляклым робіцца неба...

Лета ўкладвае свае клункі, збіраецца ў далёкую дарогу.

□ □ □

Тугі сонечны праменьчык нібы пацвельваецца са мною. Прабіўшыся цераз няшчыльна зацягнутую фіранку, нячутна слізгануў па гладкім лісце фікуса і — пырснуў мне прама ў вочы. Я адсоўваюся і чытаю далей.

Праменьчык, счакаўшы нейкі момант, зноў пачаў падкрадвацца да мяне. Мякка ўзбраўся на кніжку і стараецца зазірнуць у вочы. Ён нібыта кажа: «Хопіць табе сядзець у гэтай духаце. Зірні за акно — колькі там сонца, золата!»

Нарэшце не вытрымліваю, загортваю кніжку, выходжу з бібліятэкі.

На дварэ — любата! Празрысты, звонкі дзень. У прамытым нядаўнім дажджом блакіце купаецца сонца. Плаваюць, паблісківаючы срэбрам, трапяткія павуцінкі «бабінага лета». Недзе ў самым полымі рыжых каштанаў шчабечучы, аж заходзяцца вераб'і: «Шыр! Шыр! Глядзі, глядзі, якая шыр-р!»

Іду, перапоўнены сонцам, блакітам, звонкай празрыстасцю.

Лёгкі ветрык варушыць на асфальце апалае лісце. Светлае, крамянае, яно ў гэтыя хвіліны здаецца мне рассыпанымі асколкамі сонца. Іду, абмінаючы кожны лісток. І адчуваю, як нешта гаючае, жывое спавівае сэрца.

□ □ □

Ноччу быў замаразак, які прыхапіў на дрэвах лісце, і от цяпер, раніцою, яно ляжыць на алеях сквера пышным каляровым дываном.

Дворнічыха, пажылая жанчына, старанна мяце дарожку, аж прысядаючы ад натугі.

— Што вы робіце? — спыняецца побач мужчына, лагодна ўсміхаецца.— Нашто зграбаеце такое хараство? Хай бы хоць людзі паглядзелі...

Жанчына нават не разагнулася. Толькі націснула мацней на мятлу, быццам на касё, выдыхнула:

— Начальства... прыказала...

□ □ □

Восень...

Любімая пара года. Асабліва люблю пачатак восені, з яе звонкай празрыстасцю, з яе светлай журбою, якая пануе, здаецца, усюды — і ў да-



Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

гараючых, ярка-жоўтых дрэвах, і ў пабляклым, настылым небе, і ў апошніх птушыных песнях...

У такія дні цягне некуды ісці, нешта шукаць. А найчасцей хочацца пабыць адзін на адзін з прыродай, памаўчаць, слухаючы, убіраючы ў сябе рознакаляровую, журботную сімфонію восені. І душа ў гэты момант як нацягнутая струна, крані — і загучыць, зойдзецца пранізлівым сумам.

Але ёсць сум і сум. Першы з іх падобны да змрочнага, надакучлівага дажджу, ад якога хаваецца ўсё жывое. Другі — нагадвае пяшчотнае вераснёўскае сонца. Гэта — харошы, светлы сум. Менавіта гэткі настрой агортвае мяне ў тыя дні, калі птушыныя чароды нясуць на сваіх крылах лета ў далёкія краі.

□ □ □

Ледзь не штодня ідуць дажджы. Ціхія, золкія, нудныя.

Усё часцей і часцей патыхае з поўначы халадам. Вецер як бы і не марозны, але працінае ўсяго навылёт.

Стаіць тая самая пераходная пара, калі ўжо і не восень, але яшчэ і не зіма. Гэтая няпэўнасць, няўстойлівасць перадаецца і чалавеку. Настрой нейкі неакрэслены, пераменлівы.

Хутчэй бы ўжо выпаў снег — пасвятлела б, паспакайнела на душы.

□ □ □

Снег... Падае мігатлівымі, іскрыстымі шматкамі. Усцілае зямлю. Робіць зіму. Зноў зіму, за якой абавязкова прыйдзе вясна — загамоняць ручаі, зацвітуць вішні, зашчабеча птаства...

У жыцці чалавечым не так. Прапусціў сваё шчасце раз, страціў яго аднойчы — можаш болей не дачакацца.

□ □ □

Мароз пакуль невялікі — трохі ніжэй нуля, але снег, што выпаў учора ноччу, ляжыць. Стала бела наўкол, святочна.

І ўсё ж зіма ў горадзе — не тое, што ў вёсцы. Памятаю, як прыходзіла зіма ў гады майго маленства. Прачынаешся ранічкаю, расплюшчваеш вочы — а ў хаце непрывычна светла, неяк свежапрахалодна. І ў той жа момант прыходзіць здагадка: на дварэ — снег!

Кумільгом ускокваеш з ложка і — да акна. Уга! Бялюткая пярына ўслала зямлю, дрэвы ў ваце. Ахоплівае нецярплівая радасць. Хутчэй шукаеш боты, устаўляеш у іх халоднае нутро босыя ногі, шапку на вушы — і на двор. Прабегчы па чыстым, рыпучым снезе, пакідацца першымі снежкамі...

У горадзе, нават для дзяцей, зіма пачынаецца неяк неўзаметку, будзённа. Выйдзеш раніцаю на вуліцу, а першы снег ужо затаптаны...

□ □ □

Яшчэ восенню старыя людзі гаварылі:

— Марозная будзе сёлета зіма, ранняя... Унь як высока журавы ў вырай ляцяць. І арабіны ў лесе багата, аж чырвана ў вачах...

Так яно і выйшла. Першы снег лёг недзе ў канцы кастрычніка, пасля церушыў яшчэ колькі разоў. А ў сярэдзіне лістапада яго нападала ледзь не па калена. Ударылі маразы, ды не абыякія — за дваццаць градусаў, і зіма стала трывала.

Спраўдзіўся-такі народны прагноз!

□ □ □

Мароз. Вялікі мароз...

І ўспомнілася раптам родная вёска. Як там цяпер, у такую вось сівую, марозную раніцу? Што робяць дома? І як жывы, паўстаў перад вачамі малюнак.

...На двары корпаецца бацька. За ноч багата намяло, і ён, падперазаўшы кажух старою, яшчэ з вайны, парэпанаю папругаю, адкідвае снег шуфлем, узмахвае ім то ўлева, то ўправа — робіць сцежку ад хаты да хлява.

Калі сцежка будзе гатова, бацька, парыпваючы валёнкамі, пройдзе па ёй колькі разоў, затым паставіць шуфель у сенцы і пакіруе ў хлеў.

Каля сцяны на падасланай саломе ляжыць карова, марудна жуе жвачку. Пачуўшы гаспадара, нехаця, з прыкметным намаганнем устае з нагрэтага месца і цягнецца пысаю да бацькі, выдыхае цэлыя клубы паветра.

Даўшы карове сена, бацька па дарозе заглядвае ў свінушнік. Кормнік з мацёркаю зашыліся ў салому па самыя вушы і на рып дзвярэй адказваюць толькі лагодным, ленаватым рохканнем.

Няма асаблівай работы і ў паветцы. Дроў наколата іназапашана на ўсю зіму. Але каб забавіць час да снядання, бацька возьмецца наводзіць парадак — паправіць і без таго акуратны касцёр, падыме з-пад ног палена, перакладзе ў іншае, больш прыдатнае месца аполак.

А над хатамі стаяць ужо высокія дымы. Пахне смажаным салам, цыбуляю. Хутка прачыняцца дзверы ў сенцах і маці, не пераступаючы парог, гукне на ўвесь двор:

— Мікала-ай! Дзе ты там? Ідзі снедаць!

І кароткі зімовы дзень пачне набіраць разгон.

□ □ □

Як усё-такі адарваны мы ў горадзе ад прыроды! Усё міма нас: і п'янлівая квецень садоў, і срэбразвонны плёскат крыніц, і чысты, гаючы спеў птушак...

Ды што там казаць! Снегу, і таго нават як след не бачым. Ледзь выпадзе ён, як адразу ж кідаюцца на яго цэлай грамадой — з лапатамі, мётламі, машынамі. І зграбаюць, вывозяць хутчэй, каб, не дай бог, не паляжаў лішняй гадзіны, не перашкодзіў гарадскому руху.

Гляджу іншы раз на гэты стаптаны, брудны, рыжы, перамешаны з пяском снег, і шкода мне яго робіцца. Лішні, непатрэбны ён тут сярод царства машын і асфальту. А як жа чакаюць, як радуюцца яму ў вёсцы! Там ён — і чароўны ўбор, і вясёлая забава, і незаменны работнік, што клапатліва ўкрывае палі ад лютых маразоў, разгортвае бясконцыя палотны лёгкіх, іскрыстых дарог.

Чаму я так часта — і думкамі, і сэрцам — вяртаюся ў вёску? Напэўна, таму, што там — мае карані, там — свет маіх казак, залатых сноў, здзейсненых і няздзейсненых мар. І яшчэ, напэўна, таму, што назаўсёды засталіся, жывуць у маёй душы, як малітва, як ачышчэнне, саборная цішыня бароў, шэпт спелай збажыны, пах свежага сена, смак глытка крынічнай вады ў спякотлівы дзень... Гэтага нельга зразумець, адчуць кароткімі наездамі, аднадзённымі наскокамі на прыроду. Сярод гэтага трэба жыць!

Спадчына

# ПАДРУЧНІКІ БРАТЭРСТВА

У Балгарыі знойдзены старадрукаваныя помнікі беларускай культуры, якія разгарнулі для нас яшчэ адну цікавую старонку з гісторыі культурных сувязей Беларусі і Балгарыі, старонку, што звязана з імем паплечніка Івана Фёдарава, беларуса Пятра Цімафеева Мсціслаўца.

Пачаўшы сваю кнігавыдавецкую дзейнасць у Маскве, а затым у Заблудаве разам з Іванам Фёдаравым, Мсціславец прадоўжыў яе ў Вільні, якая на той час з'яўлялася і цэнтрам беларускай культуры. Як вядома, у друкарні, заснаванай на сродкі багатых гараджан Мамонічаў, ён у 1575—1576 гг. выдаў тры кнігі: «Евангелле», «Псалтыр» і «Часоўнік». Гэта былі кнігі не толькі богаслужэбнага прызначэння. Па іх таксама навучалі дзяцей грамаце. Кнігі Пятра Мсціслаўца выдаваліся для насельніцтва Беларусі і Украіны, вялікая колькасць кніг вывозілася ў Маскоўскую дзяржаву, частка кніг трапляла на Балканы, дзе ў перыяд асманскага ярма востра адчувалася патрэбнасць у кнігах славянскага друку.

Кнігі віленскага друку Мсціслаўца часткова захаваліся ў бібліятэках Балгарыі. Асаблівую цікавасць уяўляюць запісы на гэтых кнігах, якія дазваляюць даведацца пра гісторыю кнігі і вызначыць, калі яна трапіла ў Балгарыю. З запісаў на дзвюх кнігах друку Мсціслаўца са збору Плоўдзіўскай бібліятэкі імя І. Вазава мы даведваемся, што па іх вучыліся балгарскія дзеці. На «Евангеллі» 1575 г. захаваўся запіс даскала (настаўніка) Недзялка з сяла Ханджар (Плоўдзіўская акруга) аб тым, што ён двойчы пераплятаў кнігу. Запіс быў зроблены ў 1687 годзе. На «Псалтыры» 1576 г. накрэслена нават цэлая балгарская азбука. Самы ранні з гэтых запісаў зроблен на «Псалтыры», і адносіцца ён да 1666 г. Гэты і шэраг іншых запісаў дазваляюць гаварыць пра тое, што кнігі Пятра Мсціслаўца бытавалі ў Балгарыі ў сярэдзіне XVII стагоддзя.

У кнігах захаваўся і шэраг цікавых запісаў пра падзеі з жыцця іх уладальнікаў і пра месцы распаўсюджвання кніг у Балгарыі. У «Евангеллі» з бібліятэкі імя Кірылы і Мяфодзія ў Сафіі ёсць запіс пра тое, што гэту кнігу купілі жыхары сяла Лакорскае (Сафійская акруга), другая кніга была куплена ў Свіштове, у сяле Ханджар вучыліся па «Евангеллі» 1575 г.

Шырокаму распаўсюджванню кніг П. Мсціслаўца ў Балгарыі садзейнічала іх афармленне і змест. Беларускія кнігавыдаўцы былі знаёмы з узорамі паўднёваславянскага друку і выкарыстоўвалі яго лепшыя ўзоры ў сваёй кнігавыдавецкай дзейнасці. Напрыклад, тэкст «Евангелля» 1575 г. са збору бібліятэкі імя Кірылы і Мяфодзія цалкам паўтарае тэкст балгарскага «Евангелля», аддрукаванага ў 1512 годзе балгарскімі друкарамі ў Румыніі. Захоўваецца ў ім і правапіс арыгінала — сярэднебалгарскі.

Беларуская кніга на Балканах паспяхова канкурыравала з кнігамі паўднёваславянскага друку. Пра тое, што значную колькасць кніг Мсціслаўца беларускія купцы накіравалі ў Балгарыю, гаворыць і іх невысокая цана. З запісу на «Псалтыры» віленскага друку вынікае, што кніга была куплена ў Балгарыі за 8 грошаў. Цікава, што «Святочная мінея» венецыянскага друку Бажыдара Вукавіча каштавала 20 грошаў. Такую таннасць беларускай друкаванай кнігі можна растлумачыць і прадпрымальніцкай дзейнасцю купцоў Мамонічаў на Балканскім рынку.

Нягледзячы на тое, што кнігі друку Мсціслаўца знайшлі даволі шырокае распаўсюджанне ў Балгарыі, да нашых дзён дайшла толькі нязначная іх колькасць. Гэта тлумачыцца шэрагам аб'ектыўных прычын, адна з якіх — актыўнае выкарыстанне гэтых кніг у навучанні. Таму і дайшлі яны да нас у невялікай колькасці і не ў лепшым стане. Пацвярджэнне таму — запіс на кнізе з сяла Ханджар.

З'яўленне кніг віленскага друку Мсціслаўца ў Балгарыі не было выпадковым. Яны поруч з кнігамі паўднёваславянскага друку служылі справе развіцця адукацыі балгараў, захавання іх мовы і нацыянальнай культуры ў перыяд асманскага ярма. Гэта яшчэ адно сведчанне агульнасці сувязей, інтарэсаў і культурных традыцый усіх славянскіх народаў.

**Марына АКУЛІЧ.**

Фота Валянціна ЖДАНОВІЧА.

Барысаглебская (Каложанская) царква.
XII стагоддзе.
Гродна.



СТАРАЖЫТНАЕ
ДОЙЛІДСТВА
БЕЛАРУСІ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | | |

ЛЮТЫ

Беларусь



Аляксей ФЯДУСЬ. Чаша і падсвечнік.
Дэкаратыўны набор.



Таццяна АРЦЁМАВА.
Перамога (крышталь).

Міхась ВАСКОЎСКІ. Ганчар (кераміка).





Уладзімір МУРАХВЕР. Гімн Перамозе (шкло).



□ Кадр з кінафільма «Цётка Маруся» (злева—народная артыстка СССР Клара Лучко, справа— Валянціна Цітова).



□ Кінастужка «Год сорак першы» расказвае аб суровых выпрабаваннях, якія выпалі савецкім пагранічнікам на пачатку вайны.



□Галоўныя ролі ў фільме «З юбілеем пачакаем» выконваюць заслужаны артыст РСФСР Леанід Невядомскі і народны артыст СССР Кірыл Лаўроў.



□ Народны артыст РСФСР Уладзімір Івашоў і Андрэй Талубееў у фільме «Сяброў не выбіраюць».



□ Згодна сюжэту, героі фільма «Палёт у краіну пачвар» трапляюць у самыя незвычайныя сітуацыі.

Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА.

# «ЭКРАНА»

Аблічча беларускага кінематографа... Сёння яно вызначаецца творчым почыркам вядомых майстроў і дэбютамі маладых, прываблівае аматараў і знаўцаў экраннага мастацтва сваёй тэматычнай і жанравай разнастайнасцю. Скажам, толькі ў 1985 годзе на кінастудыі «Беларусьфільм» вялася работа над экранізацыяй твораў беларускіх пісьменнікаў, ажыццяўляліся пастаноўкі шматсерыйных тэлестужак па арыгінальных сцэнарыях, здымаліся казкі для дзяцей. Новыя фільмы па традыцыі будуць прадстаўлены на аглядзе-конкурсе прадукцыі студыі «Беларусьфільм», а з часам выйдуць на ўсесаюзны тэлеэкран і ў пракат.

Увагу гледачоў прываблівае новая работа маладога рэжысёра В. Рыбарава паводле аповесці беларускага пісьменніка В. Казько «Судны дзень». Адбудзецца прэм'ера двухсерыйнай стужкі «Год сорак першы» з папулярнага цыкла «Дзяржаўная граніца» (над гэтай пастаноўкай услед за рэжысёрам Б. Сцяпанавым працаваў яго маладзейшы калега В. Нікіфараў). Цікавай мае быць сустрэча з вядомай савецкай актрысай К. Лучко: спецыяльна для яе былі створаны сцэнарый фільма «Цётка Маруся», у цэнтры якога — лёс простай, цудоўнай і самаадданай жанчыны (гэты фільм здымаў беларускі рэжысёр М. Браўдэ).

Рэжысёр-пастаноўшчык Д. Ніжнікоўская працавала летась над экранным увасабленнем сцэнарыя А. Асіпенкі «Трывогі першых птушак». А яе калега Б. Гарошка ў садружнасці са сцэнарыстамі А. Кудраўцавым і Я. Будзінасам паспрабаваў з амаль дакументальнай пільнасцю даследаваць праблемы сённяшняй вёскі, клопат сучаснага кіраўніка сельскагаспадарчай вытворчасці (карціна «З юбілеем пачакаем»). Маладзёжнай аўдыторыі адрасуецца фільм Л. Мартынюка «Навучыся танцаваць».

Палітра беларускага кіно была б бяднейшай, калі б не фантастычныя фарбы фільмаў, знятых для дзяцей. Гэта і «Палёт у краіну пачвар» паводле казкі Э. Скобелева (пастаноўка вядомага рэжысёра-«казачніка» У. Бычкова), і багатая на выдумку стужка рэжысёра Я. Маркоўскага «Каруселі над горадам». І яшчэ адзін штрых сённяшняга аблічча нашага кіно — вострасюжэтны тэлесерыял «Сяброў не выбіраюць» (сцэнарый С. Палякова, пастаноўка Б. Шадурскага).

Кінастудыя «Беларусьфільм», як вядома, заваявала сталы аўтарытэт у рабоце над тэмай воінскага подзвігу і геразму савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны. Сведчанне гэтаму — нядаўняя супольная праца з «Масфільмам» над карцінай «Ідзі і глядзі», высока ацэненай спецыялістамі многіх краін свету, знаёмай сёння не толькі савецкаму, але і замежнаму гледачу (рэжысёр Э. Клімаў, паводле «Хатынскай аповесці» А. Адамовіча). Традыцыі беларускага кіно ў асваенні новых пластоў гераіка-патрыятычнай тэмы прадаўжае цяпер здымачная група рэжысёра М. Пташука: ідзе работа над экранізацыяй аповесці В. Быкава «Знак бяды».

**Святлана ІВАНОВА.**

Спадчына

# МІНСК У АБ'ЕКТЫВЕ ЧАСУ

У канцы 1984 года выдавецтва «Беларусь» выдала вельмі каштоўны альбом «Мінск на старых паштоўках (канец XIX — пачатак XX ст.)», які з нецярплівасцю чакалі даследчыкі і аматары гісторыі Мінска. Аўтар-складальнік альбома мастак і калекцыянер старых паштовак Вячаслаў Целеш уключыў у выданне 87 фотапаштовак, напісаў да іх разгорнутыя тэксты, дзе змешчаны асноўныя гістарычныя звесткі пра аб'екты, адлюстраваныя на здымках. Паштоўкі пададзены ў натуральную велічыню з паваліччанымі выкадроўкамі дэталей. Гэта істотна пашырыла інфармацыйны змест альбома. Кніга з густам аформлена (мастак М. Р. Казлоў) на добрым прафесійным узроўні, што ўвогуле вылучае выданні выдавецтва «Беларусь». (Шкада толькі, што альбом у мяккай вокладцы.)

Сістэматызаваная тэматычная публікацыя такога роду ў нас зроблена ўпершыню і сведчыць аб тым, што друкаванне матэрыялаў прыватных калекцый — з'ява карысная. Яе варта прадоўжыць.

Гісторыя беларускай фотапаштоўкі — гэта перш за ўсё гісторыя беларускай фатаграфіі, якая ў будучыні, трэба спадзявацца, магчыма будзе напісана. У гэтым сэнсе выдадзены альбом яшчэ саслужыць сваю службу.

Вячаслаў Целеш разглядае матэрыял з пазіцый гісторыка. У паштоўцы яго цікавіць перш за ўсё яе дакументальна-інфармацыйная функцыя. Ён разглядае паштоўку як дакумент па гісторыі архітэктуры, горадабудаўніцтва, этнаграфіі, быту і ўвогуле эпохі. Яго цікавіць у першую чаргу змест дакумента. Прынцып гэты вытрыманы паслядоўна на добрым даследчыцкім узроўні, што дало магчымасць аўтару-складальніку да драбніц узнавіць тапаграфію, структуру, дэталі былой забудовы Мінска.

Даследчыцкую працу, праробленую Вячаславам Целешам, трэба вітаць, асабліва ўлічваючы тое, што горада, адлюстраванага на фатаграфіях, у асноўным ужо няма. Тым больш важнае значэнне тых, часам вельмі рэдкіх, паштовак, змешчаных у альбоме, дзе паказаны гістарычныя вуліцы і аб'екты, што існуюць і цяпер. Напрыклад, на паштоўцы 76 (дарэчы, выдатна знятай невядомым фатографам) паказана частка былой Зборавай вуліцы (Інтэрнацыянальнай) з дамамі, якія захаваліся да сённяшняга дня. Тут мы бачым і аздобу акон, і ажурныя краты балконаў (цяпер яны не існуюць), і форму вадасцёкаў, і характар ліцця пад'езных балдахінаў, і іншае. Усё гэта каштоўны выяўленчы

□ **Вуліца Захар'еўская. Цяпер на гэтым месцы Цэнтральная плошча. Забудова не існуе.**




матэрыял для рэстаўратараў. Справа на фатаграфіі відаць частка агароджы і брама Праабражэнскага манастыра. Можна меркаваць, што кляштар бенедыкцінак (XVII ст., барока) да перабудовы яго ў праваслаўны Праабражэнскі манастыр таксама меў у гэтым месцы браму. Вуліца запоўнена пешаходамі, фурманкамі, дыліжансамі рамізнікаў. Цэнтральная частка яе выкадравана і павялічана.

Большасць выкадровак зроблена ўдала. Тут аўтара-складальніка цікавілі не столькі архітэктурныя фрагменты і дэталі, колькі сацыяльны быт гарадскіх вуліц старога Мінска, тыпажы, саслоўная прыналежнасць пешаходаў, іх адзенне, манеры ўзаемаадносін, спосаб трымацца перад аб'ектывам і т. п., звернута ўвага на розныя гарадскія формы быту, транспарту і іншыя вулічныя аксесуары таго часу, паказаны машыны, фурманкі, конкі, дыліжансы, пешаходы ў салопах і канацье, гандляры ў кепі, дзеткі ля фантана, тыпы ў гарадскім садзе, салдаты,

гарадавыя, гімназісты, чыноўнікі дваранскага сходу, жанчыны-сялянкі (цыганкі?), што мыюць ногі ля замчышча ў Свіслачы, вулічныя прадаўцы газет і г. д. Як мастак Вячаслаў Целеш добра разумее гістарычны Мінск таго часу, умела вылучыў з'явы, вартыя ўвагі, акцэнтаваў на іх погляд гледача і глыбей раскрыў даведачны змест фотапаштовак.

Найбольш падрабязна адлюстравана ў альбоме забудова цэнтральных вуліц горада: Захар'еўскай, Губернатарскай, Падгорнай, Петрапаўлаўскай, Праабражэнскай. Прытым, што важна, некаторыя архітэктурныя аб'екты паказаны з розных фасадаў, знятыя ў розны час. Такі падыход сапраўды даследчыцкі, дапамагае атрымаць больш поўнае і цэльнае ўяўленне аб архітэктуры Мінска пачатку XX стагоддзя. Напрыклад, на паштоўцы 69 паказаны вядомы помнік дойлідства так званы «дом Гаўсмана», зняты з прывычнай для тагачасных фотаграфаў кропкі з боку вуліцы Кашарнай (афіцыёзная назва Скобелеўская; цяпер Чырвонаармейская). Тут жа на паштоўцы 70 (даволі рэдкай) гэты дом паказаны з іншай кропкі. Ствараецца даволі поўнае ўяўленне аб архітэктурных асаблівасцях помніка (разбураны ў вайну). На жаль, аб тым, што на паштоўках 69 і 70 адлюстраваны адзін і той жа будынак, могуць здагадацца толькі гісторыкі і знаўцы старога Мінска. У подпісах пад здымкамі гэта не адзначана. Адсутнічае такога роду інфармацыя і ў некаторых іншых аналагічных месцах. Напрыклад, пад паштоўкамі 42, 44, 58, дзе ёсць выявы будынка гасцініцы «Парыж».



□ Вуліца Праабражэнская (былая Зборавая), цяпер Інтэрнацыянальная.

Ва ўступным артыкуле да альбома аўтар-складальнік знаёміць чытачоў з гісторыяй узнікнення паштоўкі, вуліцамі, архітэктурнымі аб'ектамі, установамі тагачаснага Мінска і ўвогуле з горадам канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Анатацыі пад паштоўкамі разгорнутыя, часам змяшчаюць шмат цікавых фактаў з гісторыі нацыянальнай культуры. Напрыклад, на старонцы 68 расказваецца пра будынак рэальнага вучылішча, які быў пабудаваны ў 1880 г. на схіле вуліцы Захар'еўскай (Ленінскі праспект) непадалёк ад перакрыжавання яе з Паліцэйскай (Янкі Купалы). Дом быў часткова пашкоджаны ў вайну і праіснаваў да 1948 года. У канцы XIX стагоддзя дырэктарам рэальнага вучылішча быў І. І. Самойла, бацька публіцыста і літаратурнага крытыка Уладзіміра Самойлы, які рыхтаваў Янку Купалу да паступлення ў гэтае вучылішча, а пазней дапамог яму надрукаваць свой першы беларускі верш «Мужык» у газеце «Северо-Западный край».

Расказваючы пра будынак губернскай земскай управы (эклектыка з элементамі мадэрна) Вячаслаў Целеш не забывае нагадаць, што ў 1916—1917 гг. у ім працаваў Максім Багдановіч. Чытаючы звесткі пра дом № 17 па вуліцы Юр'еўскай (не зберагліся), у якім да рэвалюцыі размяшчаўся рэстаран і тэатр-вар'етэ «Акварыум», мы даведваемся, што 15 жніўня 1920 г. тут спектаклем «Суд» пачаў сваю творчую працу тэатр Галубка. На старонцы 109 пададзены гістарычныя звесткі пра дом № 17, што на вуліцы К. Маркса. З 1898 па 1906 гады тут размяшчалася Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, дзейнасць якога адлюстравана ў публікацыях па гісторыі беларускай сцэны.

На жаль, у паведамленнях аб дзейнасці тэатра ў Мінску аўтар-складальнік не ўсюды праверыў факты. На старонцы 62 сказана, напрыклад, што гастрольныя выступленні тэатра Ігната Буйніцкага 25 і 27 чэрвеня 1911 года адбыліся ў зале гасцініцы «Парыж», якая стаяла на рагу Захар'еўскай і Петрапаўлаўскай (Энгельса) вуліц непадалёк ад гарадскога тэатра. Сцвярджэнне паспешнае, хоць аўтар гэтых радкоў і сам адчувае долю віны за сабой у гэтай памылцы, бо некалі ў размове з В. Целешам выказаў аналагічнае дапушчэнне. У паведамленні «Нашай нівы» пра мінскія спектаклі тэатра Ігната Буйніцкага гаворыцца, што яны адбываліся ў тэатральнай зале «Парыж» (а не ў гасцініцы «Парыж», дзе наўрад ці была тэатральная зала). Зала «Парыж» знаходзілася на рагу Нова-Маскоўскай (Мяснікова) і Яўрэйскай (Калектарнай) вуліц у трохпавярховым доме. У 1916 г. тут адчыніўся «Інтымны тэатр», у 1926 г.— Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР.

Састарэлыя звесткі прыведзены на старонцы 25. Мінскі гарадскі тэатр да 1884 года знаходзіўся не ў доме, што справа ад будынка банка, як сказана ў анатацыі да паштоўкі 15, а ў тым будынку, дзе банк. Гэта, дарэчы, адзіны дом, які зберогся пасля вайны на паўднёвым баку плошчы Свабоды (Інтэрнацыянальная, 28). Тут 9 лютага 1852 г. была пастаўлена «Сялянка» В. Дуніна-Марцінкевіча.

Сустракаюцца ў альбоме і іншыя недакладнасці. На адным недахопе, які істотна зніжае пазнавальнае значэнне выдання, хацелася б засяродзіць увагу аўтара-складальніка, рэцэнзентаў альбома і перш за ўсё выдавецтва «Беларусь», ад якога ў дадзеным выпадку шмат што залежала.

Уяўленне аб архітэктурным вобліку горада ствараецца перш за ўсё ад сузірання яго ансамбляў, гарадскіх краявідаў, сілуэта і панарам, у якіх адлюстраваны манументальныя помнікі дойлідства, высотныя дамінанты, размеркаванне іх у гарадской прасторы, суадносіны з забудовай і ландшафтам. Цэнтр гістарычнага Мінска (Верхні горад) вылучаўся гарманічным сілуэтам і арыгінальным архітэктурным ансамблем, аб чым сведчаць не толькі гістарычныя запіскі тых часоў, дакументы і выяўленчы матэрыял, але і паштоўкі пачатку XX стагоддзя, якія, як ні дзіўна, адсутнічаюць у альбоме. Не паказаны панарамы і манументальныя помнікі Мінска, якія ўзяты пад дзяржаўную ахову, адлюстраваныя ў энцыклапедычных выданнях і даведніках і нават на сучасных паштоўках — будынак касцёла Сымона і Алены (Дом кіно), храм-помнік царква Аляксандра Неўскага на Вайсковых могілках, пабудовы XVII стагоддзя: Петрапаўлаўская царква і сабор, касцёлы бернардзінцаў, бернардзінак, дамініканцаў, храмы XIX ст. на Залатой горцы (цяпер зала камернай музыкі) і на былой Мінскай кальварыі, панарамы Саборнай плошчы, знятыя з розных высокіх кропак і вежаў старых будынкаў і інш. У выніку ў альбоме аказалася найлепш выяўлена забудова апошняй трэці XIX — пачатку XX стагоддзя, гістарычны архітэктурны воблік горада паказаны аднабакова.



□ Тэатр-вар'етэ і рэстаран «Акварыум» па вул. Юр'еўскай.

Інтарэс да горадабудаўнічай і архітэктурнай спадчыны Мінска ўзрос у апошнія гады ў сувязі з рэстаўрацыяй гістарычных аб'ектаў і археалагічным даследаваннем горада. Нядзіўна, што альбом «Мінск на старых паштоўках» выклікаў зацікаўленасць у мінчан. Тыраж яго амаль поўнасцю разышоўся ў першыя месяцы пасля выхаду ў свет. Паўстае рэальная патрэба ў паўторным дапоўненым яго выданні, а ў перспектыве добра было б выдаць грунтоўны ілюстраваны альбом «Беларускія гарады на старых паштоўках». У гэты альбом варта было б уключыць паштоўкі з прыватных і дзяржаўных калекцый, а ініцыятыву выдання магло б узяць на сябе выдавецтва «Беларусь», якое мае багаты вопыт, магчымасці і дасягненні ў выданнях выяўленчага характару.

**Зянон ПАЗНЯК,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

# „Ты лячыла ўсмешкай мілай..."

**СУСТРЭЧА З ГЕРАІНЯЙ КУПАЛАЎСКАГА ВЕРША «ГЕНАЦВАЛЕ»**

Снег бялеецца ў вышынях,
На гары, на стромкай скале,
Кветкі квецяцца ў даліне,—
У сонцы, ў кветках Генацвале.
Было люба мне ў Цхалтуба,
У жыватворнай цёплай цхалі,
Было люба, як галубіў
Цябе ў думках, Генацвале.
Ты лячыла ўсмешкай мілай,
Твае лекі чаравалі,
Сны чароўныя будзіла
Ты, грузінка, Генацвале...

Як ён з'явіўся ў беларускай літаратуры, гэты, поўны святла і сонца купалаўскі верш, які з самага пачатку стаў хрэстаматыйным, зрабіўшыся сапраўдным узорам лірычнай паэзіі сусветнага гучання — верш пра далёкую Грузію, пра чароўную грузінку Эліко, якую паэт «галубіў у думках», для якой знайшліся ў сэрцы працуючыя, пяшчотныя словы? І хто яна, гэтая Эліко? Плён паэтычнай фантазіі, мастацкі вымысел аўтара? А мо рэальная асоба?

Мяне даўно хвалявалі ўсе гэтыя пытанні. Захацелася дакапацца да вытокаў купалаўскага шэдэўра, даведацца пра тое, што ж паслужыла штуршком да яго напісання.

Як вядома, Янка Купала ўпершыню наведаў Грузію 24 снежня 1937 года. Ён прыехаў сюды ў складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў на спецыяльны пленум праўлення ССП, прысвечаны 750-годдзю паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай скуры». У дні юбілейных урачыстасцяў Янка Купала меў магчымасць бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй і культурай Грузіі, з грузінскімі пісьменнікамі і грузінскім народам. Тады і запрасілі яго тбілісцы на адзін з лепшых курортаў Грузіі — санаторый у Цхалтуба.

Янка Купала з удзячнасцю прыняў гэта запрашэнне і ў пачатку студзеня 1938 года прыехаў туды разам з А. Новікавым-Прыбоем — адпачыць і падлячыцца.

Тут, у санаторыі, ён трапляе на прыём да маладога ўрача — чароўнай грузінкі Эліко Метэхелі. Якраз ёй, як сведчыць у сваіх успамінах грузінскі паэт А. Шанідзе («Успаміны пра Янку Купалу». Мн., 1982), і прысвяціў Янка Купала свой цудоўны верш «Генацвале».

У фондах Літаратурнага музея Янкі Купалы я знайшла і невялікія ўспаміны самой Эліко Метэхелі, якія яна прыслала ў 1961 годзе. Яна расказала там, што Янка Купала падараваў ёй аўтограф верша «Генацвале», а таксама фотаздымак, на якім ён і Новікаў-Прыбой пакінулі свае аўтографы.

Я нічога не ведала пра лёс Эліко Метэхелі, не спадзявалася, што гэтыя звязаныя з біяграфіяй Купалы рэліквіі захаваліся да сённяшніх дзён — як-ніяк, з таго часу прайшло больш як 47 гадоў. І ўсё ж я напісала ў Грузію: а раптам...

Праз нейкі час — вось неспадзяванка! — я атрымала адказ ад самой гераіні купалаўскага твора — Алены Міхайлаўны Метэхелі (па мужу Джавахішвілі), якая жыве ў Тбілісі. Яна паведамляла ў лісце, што ў яе захоўваюцца купалаўскі аўтограф верша «Генацвале» і фотаздымак. Калі ў другім пісьме я папрасіла перадаць усё гэта музею паэта, яна адказала: «Наша сям'я беражліва захоўвала столькі гадоў гэтыя рэліквіі, але рашылі перадаць вашаму музею здымак і аўтограф. Прыязджайце, буду вельмі рада сустрэцца з вамі».

Маючы ў руках такое запрашэнне, я адразу ж выправілася ў камандзіроўку. У Тбілісі прыехала недзе пасля поўдня. Уладкаваўшыся ў гасцініцы, адразу ж пазваніла Алене Міхайлаўне. Дамовіліся аб сустрэчы.

Мяне вельмі хвалявала сустрэча з Аленай Міхайлаўнай — купалаўскай Эліко. Крыху непакоіла і тое, што я еду ў сям'ю вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Грузіі. Муж Алены Міхайлаўны Гіві Дзмітрыевіч Джавахішвілі на працягу дваццаці трох гадоў быў Старшынёю Савета Міністраў Грузінскай ССР, а з 1976 года — старшынёю Дзяржаўнага камітэта меліярацыі і водных рэсурсаў Савета Міністраў ГССР.

Думаючы аб сустрэчы, я старалася ўявіць, якая яна, Эліко Метэхелі. Калі я збіралася ў камандзіроўку, перачытвала ўспаміны А. Шанідзе. «Эліко Метэхелі,— піша ён,— была бландзінка, невысокага росту, з блакітнымі вачамі...»

Памятаю, як гаварылі нашы супрацоўнікі, што, відаць, нешта наблытаў Шанідзе. Ну якая можа быць яна бландзінка ды яшчэ з блакітнымі вачамі?!

Невысокая, светлавалосая, пажылога ўзросту жанчына адчыніла мне дзверы, і я адразу здагадалася, што гэта яна. Бадзёрая, энергічная, са жвавым позіркам вачэй (а вочы сапраўды і цяпер блакітныя), яна выглядае намнога маладзей, хоць я ведаю, што ёй ужо 72 гады. Ад усёй яе фігуркі ў светлай сукенцы вее цеплынёй і спакоем, і я таксама хутка супакойваюся. Яна цалуе мяне, праводзіць у пакой і знаёміць са сваёй сям'ёю. Дачка Алены Міхайлаўны Лалі Гівіеўна — таксама ўрач. Унукі Лела і Гіві — студэнты медыцынскага інстытута, цяпер у іх гарачая пара — здаюць экзамены. Унуку Іраклію 14 гадоў.

Праз некаторы час мы застаёмся ўтраіх: Алена Міхайлаўна, Іка (так яго называюць у сям'і) і я. У кабінеце яна ўсаджвае мяне ў глыбокае крэсла, раскрывае папку, што ўжо ляжала на стале. З канверта вымае два лісткі пажоўклай паперы. Звычайныя лісткі са школьнага сшытка, у лінейку. Роўны купалаўскі почырк. Напісана фіялетавым чарнілам, яно амаль не выгарала. Мне было нават боязна браць лісткі ў рукі. Столькі гадоў мінула з той пары, калі Купала пісаў гэты верш, здаецца, папера пасыплецца. І хоць я ведаю верш на памяць, уважліва перачытваю яго ад самага першага радка да апошняга. Купала, відаць, не адразу ўлавіў на слых слова «генацвале», спачатку ён пісаў «гінацвалі». На першай старонцы «і» ён акуратна выправіў на «е», а на другой так і засталося «і». Калі я крыху супакойваюся, Алена Міхайлаўна пачынае расказ.

Нарадзілася яна ў 1912 годзе ў Тбілісі. Бацька Міша Метэхелі быў тэхнікам па мастах, маці Марыя Папінашвілі — хатняя гаспадыня. Унук Іка, які ўважліва слухаў яе расказ, дастаў з шафы альбом з рэпрадукцыямі славутага грузінскага мастака-самавука Ніко Пірасмані і паказаў партрэт маладога мужчыны. Я прачытала: «Партрэт чыгуначніка (Міша Метэхелі)».

«Нас у сям'і было чацвёра. Дзве сястры брунеткі, а дзве — бландзінкі, з блакітнымі вачамі»,— смяецца Алена Міхайлаўна.

У 1932 годзе пасля заканчэння тэрапеўтычнага факультэта Тбіліскага медыцынскага інстытута яе разам з іншымі выпускнікамі (у большасці гэта былі дзяўчаты) накіравалі працаваць урачом у Цхалтуба ў санаторый № 1. «Памятаю, з якою радасцю мы ехалі туды, якія радасныя думкі акрылялі нашы мары аб новым жыцці,— успамінае Алена Міхайлаўна.— Прыступіла я да выканання сваіх абавязкаў, старалася быць часцей сярод адпачываючых, спачувала ім, як магла берагла іх здароўе. Работа мне вельмі падабалася. У красавіку 1937 года мяне ўжо прызначылі галоўным урачом санаторыя».

Мне хочацца ўявіць яе маладою, і яна, нібы адчуўшы маё жаданне, паказвае фотаздымкі. На іх — маладая прыгожая дзяўчына. Вось яна з выпускнікамі інстытута, з урачамі і адпачываючымі санаторыя.

«За час работы ў санаторыі захавалася шмат дарагіх успамінаў,— працягвае Алена Міхайлаўна.— Як сёння памятаю 9 студзеня 1938 года. Была нядзеля. Я адпачывала дома, але пад вечар усё ж наведала санаторый. Убачыўшы мяне, дзяжурная ўрач радасна сказала: «Сёння раніцою да нас прыехалі два вядомыя пісьменнікі — Янка Купала і Новікаў-Прыбой. Мы размясцілі іх у вашыя палаты».

Я ведала абодвух пісьменнікаў па іх творах. Акрамя гэтага, я была захоплена адным вершам Янкі Купалы, які нядаўна быў надрукаваны ў газеце «Камунісці». Верш быў прасякнуты вялікай любоўю паэта да Грузіі і Шата Руставелі. Я была рада прыезду такіх людзей. Мне сказалі, што яны добра ўладкаваліся і задаволены, таму ў гэты дзень я не турбавала іх сваім візітам.

У панядзелак як лечачы ўрач я наведала Янку Купалу. У час гутаркі з ім я заўважыла, што ён моцна рэагаваў на кожнае маё слова, быў вельмі ўражлівы, таму я старалася быць чулай і ўважлівай. Праз нейкі час Янка Купала папрасіў памераць яму ціск. Ціск быў 140, сэрцабіцце крыху пачашчанае. Ён жаліўся на бяссонніцу, сардэчныя колікі. Я не прыдала пры ім гэтаму істотнага значэння і працягвала размову ў сардэчнай і цёплай форме, і гэта прыўзняло настрой пісьменніка.

Я ўжо збіралася пайсці, як раптам адчыніліся дзверы, і ў палату ўвайшоў з радаснаю ўсмешкай на вуснах чалавек сярэдняга ўзросту. Гэта быў Новікаў-Прыбой. Янка Купала паляпаў яго па плячы і сказаў:

— Так! Недарэмна мы згубілі сваю дарагую маладосць!

Алена Міхайлаўна задумалася, стараючыся ўспомніць усё па парадку, а пасля працягвала:

«Янка Купала і Новікаў-Прыбой вельмі зблізіліся з намі, урачамі-грузінамі, прыходзілі да нас, калі мы збіраліся вечарамі разам. Аднойчы я заспявала сваю любімую старадаўнюю грузінскую песню «Іаўнана». Песню падхапілі ўсе. Ніколі мы не спявалі яе з такім пачуццём, як у той вечар. Янка Купала быў у захапленні ад гэтай песні, папрасіў пазнаёміць з яе зместам. Я сказала, што аўтарам песні з'яўляецца Акакій Цэрэтэлі, што ў ёй выказваюцца пажаданні грузінкі-маці сваім дзецям, жаданне бачыць сваю радзіму вольнай і ў брацтве ўсіх нацый. Выслухаўшы мяне, Янка Купала з пачуццём сказаў: «Слава, слава, вечная слава народу, які стварыў такую песню!» Два радкі з гэтай песні: «Даідзіне, генацвалашэні мшабеліа» (што азначае: «спі, засні мая ружа, фіялка мая») — рускім алфавітам ён запісаў у сваю запісную кніжку і любіў паўтараць, калі быў у добрым настроі».

Алена Міхайлаўна прыгадвае, што Янка Купала вельмі цікавіўся гісторыяй Грузіі. Аднойчы ён папрасіў яе расказаць пра гераічнае мінулае грузінскіх жанчын, і Алена Міхайлаўна расказала пра мукі грузінкі Кетэваны. У імя любові да сваёй Радзімы Кетэвана згадзілася адправіцца да персідскага шаха. Але і там яна не захацела здрадзіць сваёй веры. Яе білі жалезнымі прутамі, а пасля спалілі на кастры. Калі Алена Міхайлаўна закончыла свой расказ, на вачах Янкі Купалы былі слёзы.

Успамінае Алена Міхайлаўна, як аднойчы адпачываючыя паехалі паглядзець развалiны храма Баграта. Янка Купала папрасіў і яе паехаць разам з усімі, але яна не магла. «На маёй адказнасці было 120 чалавек толькі адпачываючых, як магла я паехаць?! — гаворыць Алена Міхайлаўна.— З экскурсіі вярнуліся ўсе задаволеныя, з кветкамі, якія ўручылі нашым жанчынам — урачам. Янка Купала знайшоў у агароджы храма Баграта некалькі кветак і паднёс іх мне. Разам з кветкамі падараваў мне і гэты фотаздымак».

Алена Міхайлаўна падае мне фотаздымак, на якім бачу Купалу разам з Новікавым-Прыбоем. На адваротным баку чытаю аўтографы: «Незабываемой Елене Михайловне на память от благодарных пациентов. А. Новиков-Прибой». Рукою Купалы знізу дапісана: «17.1.38 г. С большой любовью и сердечностью. Янка Купала».

Захавала Алена Міхайлаўна і групавы фотаздымак, на якім яна, Купала і Новікаў-Прыбой сярод урачоў санаторыя. Паказвае яшчэ адзін — маленькі, на якім у яе на прыёме Новікаў-Прыбой.

Закончыўшы гаворку пра фотаздымкі, Алена Міхайлаўна ўспамінае вечар напярэдадні ад'езду з санаторыя дарагіх гасцей. Ёй гэты вечар запомніўся асабліва.

— Па традыцыі грузін, мы наладзілі на маёй кватэры невялікую вячэру. Купала і Новікаў-Прыбой былі ў захапленні ад нашай гасціннасці і хлебасольства. Янка Купала папрасіў слова: «Мы пакідаем Грузію вельмі задаволеныя і ўдзячныя, асабліва я, да каго вы праявілі столькі ўвагі, клопату і цяпла. Вы вярнулі мне здароўе. Усё гэта абавязвае любіць вашу маленькую радзіму, вывучаць яе мінулае і сённяшні дзень, быць бліжэй да грузінскага народа». Ён сказаў яшчэ некалькі сардэчных слоў у адрас урачоў-грузін, потым раскрыў запісную кніжку, дастаў адтуль два лісткі паперы і прачытаў свой новы верш «Генацвале», які прывёў усіх нас у захапленне. Аўтограф гэтага верша ён перадаў мне асабіста...»

На стале, побач з купалаўскім аўтографам, я бачу яшчэ два аўтографы. Адзін з іх — пераклад В. Гусева на рускую мову гэтага верша. Другі, як тлумачыць Алена Міхайлаўна, аўтограф Г. Леанідзе, яго пераклад «Генацвале» на грузінскую мову. Абодва перакладчыкі падаравалі ёй свае аўтографы.

Алена Міхайлаўна згадзілася перадаць музею аўтограф Гусева, а над аўтографам Леанідзе задумалася. Каб больш пераканаць яе, я гавару, што Георгія Леанідзе і Янку Купалу звязвала шматгадовае сяброўства і як добра было б мець яго аўтограф у нашым музеі. І раптам рукапіс Леанідзе ў яе з рук забраў Іка.

Алена Міхайлаўна цёпла ўсміхнулася. «Вы зразумейце яго,— сказала яна.— Як падрос, стаў цікавіцца ўсім. Вельмі любіць гісторыю Грузіі, грузінскую літаратуру. У апошнія гады ён сам гэтыя рукапісы ўсё перакладваў, каб лепш зберагліся. Тое, што яны ў добрым стане, і яго заслуга».

Расказвае Алена Міхайлаўна і аб тым, якой папулярнасцю карыстаўся гэты верш у Грузіі. На словы Янкі Купалы (пераклад В. Гусева на рускую мову) кампазітар Ю. М. Слонаў напісаў аднайменную песню для голасу і фартэпіяна. Яна адразу дайшла да Грузіі і стала адной з любімейшых песень.

Да перакладу ж «Генацвале» на грузінскую мову неаднаразова звярталіся і да гэтага часу звяртаюцца многія грузінскія паэты. Г. Леанідзе пераклаў гэты верш па просьбе Янкі Купалы, калі ў студзені 1938 года наведаў яго ў Цхалтуба. У тым жа 1938 годзе другі грузінскі сябра Купалы С. Эулі таксама пераклаў гэты верш на родную мову. Затым верш перакладалі Ш. Тагалідзе, Г. Сіларулідзе, А. Шанідзе, С. Мхаргдзелі. Цікавы пераклад зрабіў у 1978 годзе таленавіты паэт Т. Джангулашвілі.

Я прашу Алену Міхайлаўну ўспомніць, якім быў Янка Купала. «Янка Купала быў стрыманы,— адказала яна.— Ён любіў больш слухаць другіх, чым гаварыць сам. У кожным яго слове было шмат мудрасці, гэтым ён усіх зачараваў».

Алена Міхайлаўна ўсміхаючыся расказвае, што ў той час яна ўжо збіралася замуж. Абодва пісьменнікі добра ведалі маладога хлопца Гіві Джавахішвілі, які працаваў тады геолагам. Новікаў-Прыбой любіў з такой нагоды пажартаваць, але гаварыў, што ён ухваляе яе выбар. Выйшла яна замуж у красавіку 1938 года і збіралася пераязджаць у Тбілісі. Калі ў лістападзе 1938 года Янка Купала зноў прыехаў у Цхалтуба, галоўным урачом санаторыя быў ужо Ул. Кікнадзе. Тады Алена Міхайлаўна некалькі разоў сустракалася з Купалам, пазнаёмілася ў яго з А. Шанідзе. Хутка яна пераехала ў Тбілісі і больш не бачыла Янкі Купалы.

У канцы нашай гутаркі Алена Міхайлаўна гаворыць: «Не ведаю, што кранула тады Янку Купалу. Можа, мая ўвага і сардэчнасць. Можа, імя маё яму спадабалася — Эліко. А наогул, я лічу, што ў гэтым вершы Янка Купала захацеў апець грузінскую жанчыну наогул».

Сапраўды, у вершы Я. Купалы «Генацвале» вельмі яскрава праявілася сардэчная любоў паэта да ўсяго грузінскага народа, да самой братняй Грузіі.

**Ніна ЦВІРКА,**
**загадчыца навукова-метадычнага сектара Літаратурнага музея Янкі Купалы.**


Незабвенной
Елене Михайловне
на память от благодарных
пациентов.
А. Новиков-Прибой
17/I 38. С большой любовью
и сердечностью
Янка Купала



□ **На здымку: сядзяць (злева направа) А. Новікаў-Прыбой, Э. Метэхелі, Я. Купала, стаяць — супрацоўнікі санаторыя Цхалтуба. 1938 г.**

# ТРЫ

Маладых птушыны гай за хлявамі — з дзесятак альховых купін, адзетых яшчэ рудзеньнкім пакручастым лістом,— адзываўся на падворку Марчукоў бразготкамі, бы гэта пасвіўся там нейкі вялікі кучаравы статак. Павяваў вецер, нагінаў кусты — а здавалася, што галовы з бразготкамі на шыі то апускаліся да травы, то падымаліся. Бо звон ішоў нізка, ледзь не па самай зямлі і крыху вышэй, пералівісты, несціханы да начы. А раніцай праз адчыненае акно ён пачуўся ўжо каля самай хаты, быццам кучаравы статак начаваў тут, у садку. Белы бусел устаў на гняздзе проці сонца, засяроджана,назграбна падняў крылы, акрэсліўшы ўсё наваколле, заклекатаў — сухія, кароткія гукі былі падобны на пошчак дырыжорскай палачкі. Ён будзе шмат разоў на дзень патрабаваць у наваколля ўвагі, цішыні, і рэдка які чалавек не задзярэ галаву, не заслухаецца, стоячы пад белымі крыламі.

У харошым месцы паставілі сабе Марчукі новую хату.

Каб і не ведаў, што гаспадары ўстаюць рана: Ніна Антонаўна — на цялятнік, яна там у штаце, Уладзімір Іванавіч, адбыўшы там жа, на цялятніку, начное старажоўства, застаецца ёй дапамагаць, малодшая дачка Галя да школы таксама бяжыць на цялятнік,— пазнаеш, што дом даўно прачнуўся. Здаецца не стаіць, а нецярпліва выстойвае ў пустых пакоях цішыня. Кожны рух, крок разносіцца гулка, выразна, і чамусьці пачынаеш спяшацца, невядома за што якое вінавацішся. Адчуванне запозненасці было яшчэ і вось ад чаго.

Яшчэ рана, а ў хаце пануе чысты белы дзень. Высокі, далікатна вымураваны белы комін пад высокай белай столлю надае вялікай печы, якую звычайна лічаць нязграбнай таўстухай, асаблівы бабскі спрыт, робіць яе лёгкай чыстай гаспадынькай ля самага парога кухні, таксама ва ўсім чым белым: белы настольнік, белы ручнік у чырвоныя гваздзікі, белыя фіранкі на вокнах. Нават чалеснікі, якія калі-нікалі толькі абмятаюць венікам, каб сажа не загаралася, выбелены кругамі, бы гэта стаяць рубам, чакаючы, пакуль ачахне печ, сыры-вядзернікі. Дзверы ў пакой дачкі — белыя, у залу — белыя, у пакой гаспадароў — белыя. Скрозь блішчаць вышытыя па белым кветкі.

Стаяла тая вясновая пара, калі цвілі пад вокнамі вішні — шлюбная квецень, вось-вось упадзе белы вэлюм пад ногі на гарачым сонцы. І белыя пырскі фарбы на падлозе каля дзвярэй — пэўна нядаўна малявалі — здаваліся апалым вішнёвым цветам.

Ніна Антонаўна, убачыўшы з парога, што я разглядаю хату, прыпынілася ля дзвярэй і ўжо не сваім, а чужым вокам таксама абвяла хату. Падышла да дачэчнага ложка, узяла падушку, доўга кратала яе за рагі, кратала, пакуль нарэшце пасадзіла ўстоечкі. Адну, другую, ды каб ражок за ражком заходзіў, быццам бабы на вяселлі, пабраўшыся ў рад плячо за плячо, а адна пасярэдзіне — ўпрысядкі.

— Прыеду да Любы ў Кіеў, яна там замужам. Мама, кажа, ідзіце вы нам ложкі засцяліце — у вас лепей выходзіць... Ёй здаецца, што я харашэй умею,— кажа яна, сараміва смеючыся.

Ці не ў такія хвіліны складаюцца калыханкі, калі матчыны рукі раўняюць складачкі на прасцірадле, прасуючы яго цяжкімі пяшчотнымі ад работы далонямі? Калі яны яшчэ і яшчэ раз мацаюць донца ложка — а ці не мулка? Гушкаюць, прыкладаюць да шчакі коўдру, знятую з печы,— а ці лёгкая, ці сухая? Каб было дзіцяці, як у лоне матчыным...

Ці ж не з песні, якая, можа, яшчэ і не складзена, самі сабою снуюцца-ткуцца словы:

**Пасцялі ты мне, маці,**
**Каб да раніцы спаці.**
**Нет бялей пяра,**
**Як з твайго крыла.**



# ПЕСНІ

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

НАРЫС

О, гэта цьмянае за даўнасцю гадоў пачуццё птушынай утульнасці, птушынай бясклапотнасці, шчэбету — любові, хоць і слала нам наша доля рад палення, рад камення і ступу паверх — пад голаў.

Стаіць Ніна Антонаўна, думкі недзе далёка: можа яна ўжо каля сына Антона, той жыве ў Пінску, надта любіць матчыны вышываныя ручнікі і вешае іх у гарадской кватэры на самым відавоку. Сарафан на ёй цёмны, на грудзях выраз мелкай скрыначкай. Хустка таксама скрыначкай, заломлена дзеля моцы, каб цалюткі дзянёк не перавязваць. Яна з тых вясковых смуглявых прыгажунь, якія старэюць позна, якіх кажуць, пацямнее, сасмягне на суку, але ўсё роўна пазнаеш, што дзеўкай была вішня.

— На чыстату трэба не спаці, на чыстату трэба ахвоту маці,— тлумачыць мне яна, ходзячы па хаце, тое-сёе прыбіраючы.— Суседка: змеркне і — спаць. Што ты ноч робіш, дзівіцца. А мяне сон не бярэ, сяджу, вышываю, і просветку няма. Удзень таксама работы многа, але ж ногі не млеюць. Як прыйду з фермы ў белае, то здаецца, і не стамілася. Прыйду, белую фіранку на печы адхіну і цяплю. Кладу бліны на чысты стол. Люблю, каб бела. Тады мне здаецца, што ў мяне свята, у мяне — госць.

Звычайна з гадамі змяняецца ў жанчыны і колер твару, і колер адзення, і колер хатніх убораў. Яна пражывае тры вякі: век дзявоцкі, век бабскі, век старое жанчыны. Ніна Антонаўна, нарадзіўшы сямёра дзяцей, жыве яшчэ і дзявоцкім векам. «Ты ж старая баба,— бывае, не вытрывае другая суседка, равесніца, зайшоўшы ў белую хату,— а пільнуешся строю, бы маладзёначка». Людзі ў Гальцах, нагараваўшыся на балоце, ездзілі некаторыя ў заробкі, добра зараблялі, жылі і багацей за Марчукоў, а ўсё роўна ім зайздросцілі. Бо пэўна нічога няма даражэйшага ў хаце, як прыгожая, увішная гаспадыня. Стане ў акне — і малады, і стары паглядзіць на чужую жонку не хаваючыся, не спадцішка: паглядзіць і павесялее, бы гэта кветка ў вазоне. Стане на парозе — кожны павітаецца, бо ў вёсцы павага да жаночай сціплай прыгажосці, як да мудрай старасці.

І мне здаецца, што ўся гэтая белая чысціня ў хаце, што б там гаспадыня ні казала, ад яе харства, бы сама па сабе. Успомнілася міжволі, як я нядаўна перасаджвала ў садзе чырвоныя лілеі... Капнула лапатай — паказалася буйная цыбуліна. Густая зямля абсыпалася, адпала ад яе, як пясок. Чыстыя белыя долькі плёсткамі туга спляталіся ў вялікую аксамітную белую кветку, нябачаную, таямнічую. Да яе і зямля не бралася.

— Я ўсё на сваю маму глядзела, тая, што вытча, тое і вышые,— спыняе маю фантазію Ніна Антонаўна, беручыся за хатнія справы.— Каб гэта яна калі бялізну толькі ў ночвах пракоўчыла, шасцёра дзяцей маючы, і не пракіпяціла! Не ў адной вадзе — да чысценькай вады палошча, каб тая кашуля аж пахнула.

Накарміла мужа Уладзіміра Іванавіча. Падхапіла з ложка падушку, паклала на канапу. «Адваліся во на часінку,— сказала,— адпачні». Той схамянуўся, маўляў, яшчэ ж і не пераапрануўся, як прыйшоў з цялятніка. «Няўжо падушкі даражэйшыя за нас?»— засмяялася дакорліва. Вось сабрала талеркі са стала, нясе да студні мыць. Адна вада, другая вада, трэцяя. Мые, прыгаворваючы сабе, што посуд павінен быць штодня — гэта лёгкая бабская работа, не дзеля выстаўкі ж трымаць яго ў буфеце. Біла масла. Спускала ранішняе малако ў збаны, мыла бляшанку, вёдры, ды ўсё гэтак во рукой па рубчыку каля донца, па рубчыку, бы простаючы яго, робячы мякенькім, як у кашулі,— не спяшаючыся, любоўна. Нідзе нічога ў яе не заваляласся, не згубілася, не зблоцілася, не закарэла: ні за лавай, ні каля плота.

— У нас у хазяйстве ўсё трэба трымаць: як старое вядро, як стары гаршчок,— вучыць мяне сялянскай дамавітасці.

Нясе халоднае малако ў хату, незнарок пырснула на сцежку, тугія кроплі ляжаць белы дрыготкімі плёсткамі,— зноў мне нагадаўся белы вішнёвы цвет. Сцежка хоць і свежая — дом жа новы,— але ўжо, ліст да ліста, шчыльна выслана маладым трыпутнікам — многа хады ад хаты да студні.

— Мне ніколі нічога не важка! Як успомню: дзеці ж у мяне былі такія частыя... І з радні блізка нікога, акрамя свекрыві. Во як жыла... Але як надумаюся сабе, дык за ноч дзіцяці шапачку з касцічкамі пашыю. Нядзеля прыйдзе, а яно ж такое прыгожанькае! Выкупаю, прыбяру, сама прыгожа прыбяруся, дзеці ў касцічках, выйду на вёску, дык дзяцей маіх з рук на рукі, з рук на рукі — цешацца людзі... Мяне з дзецьмі дзеўкі бралі на поле жыта жаць...

**Ці не той васілёк,**
**Што ў жыце!**
**Пазавіце ж, дзеўкі, жаць,**
**Пазавіце...**

Здаецца, чую у хаце яшчэ адну песню. Як жа лёгка яны тут складаюцца. Пэўна, і лёгка пяюцца. І раптам даведваюся, што з семярых дзяцей засталося ў Марчукоў толькі трое. Схопіць запаленне, і згарыць дзіця. За балотамі не было дарог у Столін, каб дастацца да ўрача.

— Я пасля іх ужо зроду не заспявала,— цямнее ў твары Ніна Антонаўна.— Застануся саменька, паплачу...

Яна гаварыла, а па хаце то слаўся белым сум, то белы вішнёвы вэлюм яе доўгай маладосці — не заплаканы ў горы, не зблочаны гадамі, не згублены цяжкай работай.

Папаўдні ўжо. Гарэніць дымок з агарода, дзе тлее леташняе сухое лісце — вішнёвая гарэча, бы костачку раскусіў. Млее цыбатае каліўе нядаўна пасаджаных памідораў. На падабраным панадворку паміж чатырох цаглін свежы і, здаецца, гарачы прысак — выцепліўся поўдзень, не па веснавому сухі, высокі.

Пайшлі з Нінай Антонаўнай да цялят, да целюкоў, як яна гаворыць.

Цялятнік у старым прыстасаваным памяшканні, многае тут яшчэ робіцца ўручную, як у сваім хляве. А калі ўлічыць, што Ніна Антонаўна даглядае дзве групы, сто галоў, то не пазайздросціш. Працуе яна ў штаце трэці дзесятак, лічыцца лепшай цялятніцай па дарошчванню маладняку, мае дыплом «Майстар залатыя рукі». Каб і не ведаў пра гэта ад кіраўнікоў калгаса «Бальшавік», якія хваляць яе працавітасць (намеснік старшыні калгаса Ілья Ільіч Вакуліч так і сказаў: «Каб у мяне быў брат ці дарослы сын, я хацеў бы з ёю парадніцца»), адразу пазнаў бы, сочачы за ёю, што рукі ў яе залатыя не толькі ў сваёй хаце.

— Вой, а гэтым я не падаслала сухога — падумаюць, што мачыха... Ідзі бліжэй,— заве яна да соскі чорнага целюка,— у цябе ж ножкі бальненькія. Я і брацъ яго ад даяркі не хацела — відавочная згуба,— але ж раз жывое... А цяперака твая чарга, век астатні п'е,—гладзіць вушастае, як сланечнік, з задумлівымі вачамі цяля.— Лапушок сур'ёзны, не прагавіты, ніколі не пнецца разам з усімі да малака, пусценькі стаіць, але маўчыць, забудзешся, дык і прападзе.

Уліла большым малако ў пайлку, а рабому з гэтай жа групы паднесла з вядра, бо, як аказалася, надта ж пераборлівы, есць, кажа Антонаўна, толькі з «асобнай талеркі».

— З целюкамі не палянуешся. Палажы адразу поўныя яслі сена, яны яго засляняць і кінуць. Таго сенца зноў нямаечка. А я і пяць разоў пакладу, каб свежанькае. І ў малацэ трэба меру знаць. Цялюк п'е, пакуль не лопне,— толькі глядзі. Бачу, што п'е і галавой пакручвае, я і не даю поўную норму, каб страўнік не сапсаваўся. А другому і дабаўка не зашкодзіць.

То тут, то там паказваецца з-за загародкі кучаравы лоб або вільготная ружовая пыса, узбуджаная бразганнем вёдзер, пахам малака. Самыя малыя — адзін нават з вяровачкай на шыі — даярка толькі ўчора прывяла,— яшчэ і пясцішча каля соскі. Іншы, бы пад матчыным цёплым жыватом, гэтак патрабавальна таўхае ў мернік, ледзь у руках утрымаеш. Хутка яны сілу набіраюць у Ніны Антонаўны.

— Бывае, прывядзе даярка целюка — як гэтыя вілкі,— паказвае Ніна Антонаўна на жалезнае зуб'е.— Бы дзіця ў павітку, такі цялюк.

Прыйшоў Іван Міхайлавіч Герасімовіч, малады ветурач, хацеў даць хвораму цяляці ўкол, учора яно тэмпературыла.

— Не, Міхайлавіч, не трэба,— раіць Ніна Антонаўна.— Яно перахварвае ўжо, бачыла: жуйку жуе.

Даглядае яна іх, сапраўды, як дзяцей у павітку, прымяраючыся і да характару кожнага і да настрою: дзе — свежай каслаўкай сена, дзе — лішняй кропляй малака, дзе — словамі вось такімі нечакана ласкавымі, якія чую ад яе менавіта тут, сярод малых. Ніколі яна не ўзяла ад іх сваймі цяляці ці хаця б курыцы. А калі заўважыць каго, скажа: «Сваю сілу забіраеш з мяшка. Станеш дамоў браць, то і не заробіш. Бо цялюк сухі — няма прывесу. Ды яшчэ і людзей настыдаешся». Калі ж не прывязуць падвозчыкі кармы ў час, чакаць, злажыўшы рукі, не будзе. Вось і нядаўна так было... Самая пара бульбу садзіць — гарачка, на цялятніку ані чалавека. Сама знайшла трактар, сама наклала сена, прывезла. Бачыць: ідзе хмара — намочыць сена, сапсуе. Пачала насіць яго на гарышча. Да двух гадзін ночы парадкавалася. Ідзе брыгадзір Генадзь Вакуліч — аслупянеў хлопец, спужаўся, убачыўшы яе за работай. «Што вы тут, цётко, робіце?» — ледзь вымавіў разгублена.

...Ішлі мы дахаты, калі ўжо вярнуліся на сваё гняздо буслы. Яны старанна складвалі на ноч крылы, далікатна падцінаціся, перабіраючы нагамі. Іх сілуэты, абведзеныя на цьмяным небе чорным грыфелем, бы на вышываным гладдзю ў хаце Ніны Антонаўны.

Карцела нешта сказаць ёй, запытацца спагадліва, ці не стамілася.

— З дзяцінства маю схільнасць да вясковай работы. Ты ж яшчэ з гэтымі жорнамі няроўная, смяяліся бабы, а ўжо малоць лезеш... З нас шасцёх у бацькі ўсе вывучыліся, добра вучоба далася. Бацька прасіў, каб і я ішла да навукі, але чула душой, што хоча, каб засталася. Так і зрабіла... Бывала, сядзем з ім на сухі грудок, кароў пасучы, а ён і кажа: «Вось ты ўжо мне і за сына...» Мне нічога не важка: дзеці раслі, ніколі благога не рабілі, удалыя дзеці... Муж мой, Іванавіч, былы франтавік, ранены на вайне. Чалавек надта гаспадарлівы. Сям'я ў мяне харошая, не глядзяць, каб усё сама зрабіла... Усё добра. Але хацелася б хоць гадок у новым цялятніку парабіць...

**«Ты й за дачку мне,**
**Ты мне і за сына...»**—
складваліся ў песню словы, сказаныя Ніне Антонаўне бацькам, ад якога яна адна з шасцярых дзяцей надзейна, па-сыноўску пераняла ў спадчыну гэту цяжкую палескую зямлю.

Фота Ільі ВАКУЛІЧА.

# ПАЛЁТ

*Янку* **СІПАКОВУ — 50**



Сіпакоўскае «Веча славянскіх балад», сіпакоўскае «Крыло цішыні»...— ужо за гэтым найменнем аўтарства чуецца прыналежнасць да лепшых, вяршынных здабыткаў роднай літаратуры, тых яе пранікнёных, мужных старонак, на якіх дзеецца, шматстайна вершыцца стыхія народнага жыцця, з усім ягоным балесным і светлым. Я знарок называю гэтыя дзве жанрава розныя стыхіі літаратуры — паэзію і прозу, каб не толькі іх судакрануць і наблізіць, а перш за ўсё таму, што яны, стаўшы сіпакоўскімі, крынічна глыбока бруяцца ў славянскім свеце.

Мастак з ясным, што верасовы блакіт, зрокам, паэт — мужны сведка гнеўных эпох,— Янка Сіпакоў для мяне, чытача, вабны сваёй «узнятаю цаліной» творчасці, у якой парка дыхае глеба стагоддзяў, а сучаснасць, у аздобе мастацкага слова, паўстае на гэтым плодным мацерыку нашай гісторыі як вынік, як развіццё, як подых састарэлых, але вечна прысутных у свядомасці чалавецтва часоў зямных.

Радкамі, поўнымі сыноўскай любові, паэт пазначае рух нашай гісторыі:

**Зразумець, што ты — народ,**
**Які ў свеце часта хваляць.**
**Жыць за племя, жыць за род,**
**Што схавалі часу хвалі.**
**...За народ ісці на бой,**
**Помніць, правячыся боем,**
**Што стагоддзі за табой**
**І стагоддзі — прад табою.**

Паэт абсяжнага зроку, з крутой вяршыні самага драматычнага ў ланцугу гісторыі веку (апалены ягоным смерчам на пачатку дарогі жыцця)— Янка Сіпакоў у кнізе «Веча славянскіх балад» узіраецца ў мінулае вачамі

# ЗАПАВЕТНАСЦЬ

*Анатолю* **КУДРАЎЦУ — 50**



Юбілеі... Нешта ў іх ёсць ад незнаёмкі, пра якую мудра ўсміхнуўся паэт,— і затрымаць яе няёмка, і адпускаць быццам шкада. Затрымаць юбілей нельга, а з вышынь, пазначаных круглымі датамі, адкрываецца за паўсядзённымі клопатамі той адрэзак часу і жыцця, які пройдзены. І немалы ўжо.

Пішу гэтыя радкі і бачу Анатоля Кудраўца ў асеннім азалочаным лесе, халаднаватым і сонечным, калі бясконца і прасторна адкрываецца позірку далечыня. З кошыкам у руцэ, у якім крамяныя восеньскія баравікі, на неруш якіх яму пашанцавала. Добрыя ва ўсмешцы, прыжмураныя, з прыхаванай іскрынкай-агеньчыкам вочы. Зусім гэтакі ж, як і два дзесяцігоддзі назад, на пачатку лета, над чыстай запаветнай Свіцяззю, дзе мы сустрэліся і пазнаёміліся на рэспубліканскай нарадзе творчай моладзі.

Пражытае для пісьменніка пазначаецца напісанымі кнігамі. Для Анатоля Кудраўца гэта першы зборнік апавяданняў «На зялёнай дарозе» — і нядаўні раман «Сачыненне на вольную тэму» з галоўным героем Ігнатам Сцяпанавічам Вапшчэткі, вобраз якога стаў адкрыццём і дасягненнем беларускай прозы апошніх гадоў.

А да першае кнігі быў нялёгкі лёс чалавека з пакалення, якое нарадзілася перад вайной, у дзіцячых вачах і сэрцах якога яна засталася страшнай памяццю штодзённага жыцця пад акупацыяй, абліччамі ворагаў і радасцю, калі прыходзілі свае, партызаны. Потым вучоба ў школе, у Слуцкім педагагічным вучылішчы, служба ў Савецкай Арміі, праца журналістам у «Калгаснай праўдзе» і вучоба ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

У гэты час пішуцца апавяданні «На балоце скрыпелі драчы», «Сяструха», «Цітаўкі», «Такі дзень», «У нас вяселле», «Марута і Зіна», «Іваніха». Яны складуць першую кнігу, якая стане адразу ж адметнай у беларускай прозе, трывала засведчыць, што ў літаратуру прыйшоў самабытны і таленавіты пісьменнік.

Першым адгукнуўся на кнігу Янка Брыль артыкулам «Пра здзіўленне і зайздрасць».

«Іменна — не прыблізная, не асцярожненькая, з аглядкай на моду, а шчырая, сыноўская адданасць праўдзе жыцця, не прыблізнае, камандзіровачнае, а грунтоўнае, глыбока, кроўна зацікаўленае веданне яго — такое, перш за ўсё, уражанне робіць на мяне, чытача, зборнік «На зялёнай дарозе».

# ПРАМЕНЬ СОНЦА

*Да 125-годдзя* **Я. Ф. КАРСКАГА**



Сёння кожны адукаваны чалавек у нашай краіне ведае імя Яўхіма Фёдаравіча Карскага — гэтага знакамітага савецкага філолага-славіста, заснавальніка беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі, выдатнага знаўца беларускай этнаграфіі.

Я. Ф. Карскі займаўся даследаваннем беларускай і рускай моў, беларускай дыялекталогіі, пісьменнасці і фальклору, шмат падарожнічаў па беларускім краі, складаючы «Этнаграфічную карту беларускага племені». Яго пажыццёвым помнікам стала шматтомная праца «Беларусы», якую па праву называюць нашай беларускай энцыклапедыяй. У сямі выпусках гэтага фундаментальнага твора даследуюцца славеснасць, мова (фанетыка, марфалогія, сінтаксіс) у яе гістарычным развіцці, беларуская літаратура (старажытная і новая).

Ва ўмовах дарэвалюцыйнай Расіі, калі афіцыйныя колы не прызнавалі існавання беларускага народа і беларускай мовы, калі на Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, асабліва паказальным з'яўляецца выбар эпіграфа, змешчанага на тытульным аркушы «Беларусаў»:

**Сонца навукі скрозь хмары цёмныя**
**Прагляне ясна над нашай нівою,**
**І будуць жыці дзеткі патомныя**
**Добрай доляй, доляй шчасліваю!**

Гэтыя словы ўзяты з верша Івана Неслухоўскага (Янкі Лучыны) «Роднай старонцы». У іх — мара вучонага-беларуса бачыць сваю бацькаўшчыну аду-

# ЖУРАЎЛЯ

і душой чалавека-сучасніка, шукаючы яго гістарычна адметны след, прасочваючы дыялектыку яго духу ў спратах аджытых стагоддзяў. У кнізе, адзначанай Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы, сэрцу паэта сугучная барацьба ўсіх славянскіх народаў за сваю высокую нацыянальную годнасць. Іх вольналюбівы характар апазнаецца паэтам на шырокіх гістарычных і геаграфічных абсягах, прасочваецца баладны лёс гэтых народаў, а ў еднасці з імі і свайго, беларускага. Судакранаючыся болевымі кропкамі, гартуецца ў вогненным горне гісторыі роднасць славянскага свету, жывое суладдзе ягоных надзей і памкненняў. Паэт яскрава разгортвае перад намі шматгалосую драму гісторыі. Выхоплівае з яе поцемкаў, уваскрашае фантазіяй самыя жорсткія паядынкі Дабра і Зла. Яны, героі балад, адрозныя ў многім — і па часе і па месцы дзеяння, але вельмі ж падобныя па свайму бунтоўнаму духу, непрыняццю пад'ярэм'я жыцця. Самой кампазіцыяй кнігі акрэсліваецца гістарычны поступ свабодалюбівых сіл, якія ўдала спрацавалі ў ёй на «Дасвецце»— рэвалюцыйную баладу, як бы высвечваючы яе змест усім ходам гісторыі, гэтак жа, як спрацавалі ў самой гісторыі свету на дасвецце новай сацыялістычнай явы.

...Есць тая пара, якая завецца «першым знаёмствам з паэтам». Гэта хвіліны трапяткога чакання, калі літаратурнае імя — творца — скажам, толькі ступае на літаратурны бальшак. І ёсць знаёмства — ашаламляльнае адкрыццё, тое, чаму потым, загарнуўшы ўзятую кніжку, нямала падзівішся, як бы не верачы, што ўсё гэта гадамі ўжо існавала па-за табой, чакаючы свайго пэўнага часу — стацца жывою часцінкай тваёй душы. Менавіта да гэтага, другога роду знаёмстваў, перабіраючы арсенал сваіх літаратурных захапленняў, адношу знаёмства з творчасцю Янкі Сіпакова.

Слова паэта, слова празаіка Янкі Сіпакова... У абсяжных далечах нашай гісторыі, у хуткацечных, напружаных днях сучаснасці, што журавель у распагоджаным небе, развінула яно шырока, на ўсю моц, свае крылы — лёт яго нястомны, высокі. Рукамі тысяч і тысяч — хвілінай удумлівай зацішы, з роздумам над нашай чалавечай сутнасцю — перагортваюцца сягоння старонкі кніг прозы і паэзіі — «У поўдзень, да вады», «Жанчына сярод мужчын», «Вочы ў вочы», «Усміхніся мне»... А на пісьменніцкім стале ў рабочай прытоенасці — старонкі безназоўнай пакуль для чытача кнігі: новы ўзлёт і палёт!

...Стукаецца ў дзверы вясковых хат маленькі паштар Ясь. Што ён нясе людзям праз тры пасляваенныя гады?— вялікі, непамерны смутак неаслабнага яшчэ чалавечага болю, першыя праблескі радасці мірнага жыцця. Тым, хто не ўмее чытаць, чытае хлапчук сам, уголас... Чытае — і вучыцца суперажываць чалавечаму болю, вучыцца за свой народ хвалявацца.

Мне згадаўся гэты сіпакоўскі вобраз з «Крыла цішыні» не толькі таму, што ён, як ніводзін другі, у творчасці пісьменніка аўтабіяграфічны. Сягоння, у пару ўгодак вядомага майстра слова, клопат маленькага хлапчука Яся наводзіць на роздум аб самой місіі літаратуры — стукацца ў дзверы многіх і многіх хат. Сіпакоўскае слова. Яно на ўсіх вёрстах пяшчотнае і чуйнае, як маленькае сэрца таго ж Яся, чыстае і праўдзівае, як яго, Ясева, сумленне.

**Мікола МЯТЛІЦКІ.**



# ТАЛЕНТУ

Другое ўражанне — ціхая, мудрая і сардэчная чалавечнасць, якой зусім арганічна і вельмі па-нашаму, па-беларуску прасякнута кніга, усё, што аўтар бачыць і чуе, пра што ён мае патрэбу расказаць.

І трэцяе — А. Кудравец здаў, па-мойму, экзамен майстэрства амаль на выдатна. «Амаль» — таму што не ўсе яго апавяданні аднолькава бездакорныя, пра што я скажу пазней. Праўда, паняцце выдатнага — справа адносная. Адно бясспрэчна — яшчэ адзін беларускі празаік упэўнена заявіў пра свае святое і заслужанае права выйсці на ніву роднай літаратуры аратым і сейбітам, кажучы па-вясковаму, спраўным, з быстрым вокам і вернай рукой.

Пра ўсе гэтыя якасці — праўдзівасць, чалавечнасць і майстэрства — сведчаць і вобразы, і мова апавяданняў. Малая кніжыца населена жывымі, на ўвесь рост нармальнымі людзьмі, пра іх натуральна і жыва расказана дакладнай, вобразнай, роднай аўтару мовай».

Цытую прызнанага майстра слова і мудрага чалавека з захапленнем: як тады, на пачатку дарогі, ён дакладна ахарактарызаваў творчае аблічча Анатоля Кудраўца, убачыў запаветныя асаблівасці яго таленту! Гады настойлівай працы, жыццёвы вопыт, нястомнасць у творчым пошуку зрабілі Анатоля Кудраўца сёння адным з вядучых беларускіх пісьменнікаў.

Невыпадковасць поспеху першага зборніка неўзабаве была падмацавана другой кнігай. У яе ўвайшлі апавяданні «Елачка», «Холад на пачатку вясны» і аповесць «Раданіца», якая па-новаму адкрыла ў нашай прозе на ўсёй яе складанасці тэму вяртання да вёскі, да народных вытокаў. Аповесць, напісаная паўтара дзесятка гадоў таму, вытрымала не адно выданне, перакладзена сёння не толькі ў нас у краіне, але і на замежныя мовы, па ёй зняты мастацкі фільм.

Пісьменнік, чуйны да жыцця, Анатоль Кудравец не толькі вяртаецца да сваіх вытокаў, да перажытага, але і дапытліва прыглядаецца да свайго сучасніка, гараджаніна і вяскоўца. Ён герой апавяданняў «Дзень перад святам», «Жанчыны», «Дзяўчына з чорнымі вачанятамі», «Вясёлыя людзі». Але і сённяшні дзень не можа быць без памяці пра перажытую вайну. Пра яе, пра тое, што здрада не можа дараваць чалавеку, суровае, дакладна псіхалагічна выпісанае апавяданне «Мікола вярнуўся».

Вайна, перажытае нашым народам, яго веліч і вечнасць на сваёй зямлі — пра гэта раман «Сачыненне на вольную тэму». Галоўны герой яго Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі. Радавы ад першага да апошняга дня вайны, ён выканаў нялёгкую работу, вяртаецца да мірнага жыцця, ненамнога лягчэйшага. Зніталваны з зямлёй і людзьмі, загартаваны жыццём, ён прымушае сябе рабіць тое, што найперш неабходна для людзей, для сям'і, для сына... Шчодрай душы чалавек, майстар-самавук, мудры і наіўны, грэшны і святы, зямны, але не прызямлены, не зацюканы і не зламаны, ён і сам аснова жыцця. І таму побач з ім яго працяг, малады чалавек, перад якім будучыня і побач з якім заўсёды ён, вечны Ігнат Сцяпанавіч.

Няўдзячная гэта справа пераказваць творы, расказваць пра іх. Знаёмства з напісаным Анатолем Кудраўцом у многіх чытачоў яшчэ наперадзе. Кнігі яго зроблены не на адзін раз і не на адзін год. А такія мастацкія адкрыцці, як вобраз Ігната Сцяпанавіча Вапшчэткі, у літаратуры здараюцца далёка не кожнае дзесяцігоддзе.

Але пісьменнік не можа жыць толькі ў свеце кніг, бо самая цікавая кніга — гэта жыццё. І яно вяло Анатоля Кудраўца на сесію Генеральнай Асамблеі ААН, у ФРГ, у Манголію. Роздум у часе гэтых паездак лёг на старонкі дарожных нататак у кнізе «За чужымі далямі». Выкананне свайго чалавечага і грамадскага абавязку — праца Анатоля Кудраўца ў свой час адказным сакратаром у «Маладосці», галоўным рэдактарам толькі створанага выдавецтва «Мастацкая літаратура», на партыйнай рабоце, і сёння — галоўным рэдактарам часопіса «Неман».

Творчая напоўненасць дзён не дае расслабляцца і стамляцца душы, і таму ўмее шчыра радавацца яна і баравіковай нерушы, і вераснёўскаму сонцу, і такім заманлівым і неабсяжным зямным далячыням.

**Алесь ЖУК.**



# НАД НАШАЙ НІВАЙ

каванай, шчаслівай. А ў прадмове да трэцяга выпуску другога тома Я. Ф. Карскі расказвае, што ён працаваў з захапленнем і з любоўю да беларускага народа менавіта таму, што сам з'яўляецца прыродным беларусам.

Адметнай асаблівасцю даследаванняў Карскага з'яўляецца выкарыстанне ў іх вялікага фактычнага матэрыялу, упершыню ўведзенага ім у навуку. Гэты фактычны матэрыял Яўхім Фёдаравіч збіраў сам у час шматлікіх вандровак па самых глухіх кутках Беларусі. Вучонага радавала сустрэча з кожным чалавекам, бо з кожным ён мог знайсці агульную мову: пытаўся, як жывецца на белым свеце, ці ўрадзіла сёлета жыта, якія песні спяваюць у вёсцы. Вельмі хораша ўмеў слухаць гэтыя песні, старанна занатоўваючы кожны новы ўзор фальклору, памячаючы дыялектныя асаблівасці гаворкі.

Сёння, калі мы адзначаем 125-годдзе нашага славутага земляка, я шчаслівы расказаць аб сваёй незабыўнай сустрэчы з акадэмікам Я. Ф. Карскім.

Было гэта летняй раніцай 1920 года. Сонца выглянула з-за верхавін Крыжацкага бору, і ў яго праменнях дыяментамі заззялі крапелькі расы на лісцях дрэў і траве.

Я ішоў з Нясвіжа ў родную вёску Лявонавічы. У той час быў я вучнем Нясвіжскай рускай гімназіі. У палатнянай белай кашулі, зрэбных нагавіцах і ў сінім з белымі кантамі форменным брылі на галаве. За плячамі на ядлаўцовым кійку боўталіся чаравікі.

Раптам чую за сабой грукат колаў. Азіраюся. Да мяне набліжаецца брычка.

— Тпрру! — крыкнуў рамізнік.

Конь спыніўся.

На брычцы сядзелі Іван Навіцкі з сяла Блячын са сваёй жонкай і нейкі барадаты чалавек у капелюшы.

— Сядай, гімназіст! Падвязём! — прамовіў чалавек з чорнай барадой.

Я падзякаваў і сеў насупраць яго. Мы паехалі.

— Куды ідзеш?

— Дахаты, у Лявонавічы.

— Гэта наш, беларус! — з усмешкай паведаміў Навіцкі.

— Я таксама беларус і кнігі пішу пра беларусаў. Маё прозвішча Карскі Яўхім Фёдаравіч. Мо чуў?

Да самай паваротві ў вёску Лань (гэта кіламетраў сем) Карскі распытваў мяне пра гімназію, пра мае Лявонавічы, ці многа песень спяваюць у нас дзяўчаты, і аб іншым.

І такім простым і шчырым падаўся мне акадэмік Карскі, што я перастаў саромецца сваіх босых ног, разгаварыўся з ім, як з даўно знаёмым чалавекам. Калі, падзякаваўшы за тое, што падвезлі, я развітаўся і павярнуў на лявонавіцкую дарогу, Карскі зняў капялюш і, ветліва ўсміхнуўшыся, сказаў услед:

— Да пабачэння, беларус! Вучыся добра!

**Сяргей НОВІК-ПЯЮН.**

ПАЭЗІЯ · НОВЫЯ БАЛАДЫ

Алег ЛОЙКА



*Балада аб бацьку-Нёмане*

Сярод лугоў зялёных
І соснаў баравых
Плыў Нёман срэбразвонны,
Ані на міг не ціх:
То разліваўся плёсам,
Нібы без берагоў,
То паміж кручаў гойсаў,
Вузеючы, як роў;
Не быць яму затокай —
Люстэркам сонца, зор,
Ён у імгненне вока
Гулліверў, як віхор,
Бурліверў апантана,
Круціў кругі-віры.
Нікім не запытана,
Чаго злуе стары.
Так адзінокі бацька
Гаруе між людзей,
Дапокі лёс знянацку
Не дасць яму дзяцей.
Ды Нёмнаў лёс быў ладны,
Вярнуў яму спакой,
Даліну пушч і лядаў
Назваў яго дачкой.
І днём зялёным, веснім
Дачка пець пачала,
І першай яе песняй
Аб родным ім была;
І з песняю той звонкай
У далеч ён паплыў —
У новую старонку,
Да іншых дрэў і ніў.
Дачушка ўслед глядзела:
За ім ёй не паплыць!
Няўжо на свеце белым
Ёй адзінокай быць?!.
Няўжо не мець спакою
Дачцэ яго красы,
Самотнаю сасною
Глядзець на верасы?!
Ды тут яна пачула,
Як ціхі небакрай
Азваўся песняй чулай —
Хоць к сэрцу прыкладай.
І сэрца затрымцела,
Як рэха у бары,
І сэрца зразумела,
Што голас той — сястры.
І сёстры з той часіны,
Нібы адна, жывуць,
І бацькам Нёман сіні
Адным сваім завуць.
Цымбалы, скрыпкі, гуслі —
Акорды хараства
Гучаць над Беларуссю
І над табой, Літва.
У бацькі дзве сястрыцы,
Багат ён, ой, багат.
Ён — імі ганарыцца.
Яны ім — у стократ!..

*Балада музыкі*

Туманы, як паромы,
Сплываюць за нябачныя пні,—
Сонца прадвесце — промні —
Клавішы цішыні;
І — ні вербаў пахілых,
Ні гнілога камля,—
З лінеечкі небасхілу
Сонца нотай «ля»!
Ластаўкі ж — з-над аконца,
Як з зямное асі,
Шуг — палавініць сонца
На до-рэ-мі-фа-соль-сі!..
Міг — і рамонак пялёсткі,
Як белыя ноты, пратрэ:
Слухайце, горад, вёскі,
До-рэ-мі-фа-соль-рэ!..
Міг — і на кожнай асінцы,
Як ноты, лісткі між галля:
Дзяўчынцы ў чырвонай хусцінцы
До-рэ-мі-фа-соль-ля!..
А вунь і вяргіні, макі,—
Бацькавае гняздо,
Маці едзе ў андараку:
До-рэ-мі-фа-сі-до!..
Замружацца вочы маці
Ў паддашку далані,
Ледзь заклякоча на хаце
Бусел — яшчэ жаніх,—
Ціха ўсё зноў па-тутэйшы
Між спякотнага дня:
Баладай музыкі першаю —
Сонечная цішыня.

*Балада Троцкага замка*

Троцкі замак — магутны самы,
Кожны камень падмурка — загадам:
Пакахаць дзяўчыну — здрада,
У муры ўвесці — двойчы здрада!
Троцкі замак — магутны самы,
Бо прысягі тут сыплюцца градам:
Пакахаць дзяўчыну — здрада,
У муры ўвесці — двойчы здрада!
Што ж за рыцар, юны, шчаслівы,
Скача полем, вясёлы і рады.
Пакахаць жа дзяўчыну — здрада,
З ёй скакаць, ці не двойчы здрада?!
А ён скача — не ён, іх — двое;
Як адзін, у сядле парадным...
Пакахаць жа дзяўчыну — здрада,
У сядле везці — двойчы здрада!..
Як адзіны, блішчаць шаломы,
Як адзіны, мячы ў далонях,
Як адна, на шчытах нязломных
Скачуць белыя дзве пагоні...
Зарыпеў мост стары пагрозна —
Ланцугоў і іржы аблада:
Прыпыніся, яшчэ не позна,
Пакахаць — здрада, здрада, здрада!..
А яму ланцугоў скрыгітанне —
Вайдэлотавым прывітаннем,
Гулкі цокат на мосце падковаў —
Як вітанне стражы-аховы,—
Спешна спешваецца на дзядзінцы,
Уручае сябрам гасцінцы,
А прыйшоў цёмны вечар, кубак
Апякаць стаў гарачыя губы,
А глыбокая ноч запала,
Адна пара адно не спала...
Ды туман не скрозь роўны падаў,
Сонца ўстала, і шэпт, як гром, радам:
«Пакахаць дзяўчыну — здрада,
У муры ўвесці — двойчы здрада!..
Троцкі замак — магутны самы
Ці дзяўчыныныя прынады?!.
Пакахаць каханку — здрада,
У муры ўвесці — двойчы здрада!
Троцкі замак таму і магутны,
Што нікому не дасць спагады:
Не павесіць рыцара — здрада,
Не павесіць каханкі — здрада!..»
А юнак яе песціць, цалуе,
Хоць тры хвілі адно да скананыя...
Быў магутны Троцкі замак,
Ды магутней яго — каханне!..

**Абодва яны яшчэ маладыя, але паспелі ўжо адзначыць свой першы юбілей — дваццацігоддзе сумеснай творчасці. Школьнікамі-пачаткоўцамі прыйшлі Аляксандр Марчанка і Ігар Марозаў у студыю выяўленчага мастацтва Мінскага палаца піянераў і ўжо ў хуткім часе выканалі ў сааўтарстве сваю першую работу для выстаўкі. Прайшоў час, і вось яны (адзін — мастак-дызайнер, другі — архітэктар) — супрацоўнікі адной з архітэктурных майстэрань інстытута «Белдзіпрадор». Зноў сумесныя праекты, смелыя задумы. Адзін з такіх праектаў адзначаны ганаровым дыпломам міжнароднага конкурсу «Жыллё будучыні» ў Парыжы, другі атрымаў гэткую ж узнагароду Сусветнага біенале архітэктараў у Сафіі і сярэбраны медаль Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР.**

**Прадставіць праект-лаўрэат чытачам часопіса «Беларусь» мы папрасілі аднаго з аўтараў — архітэктара ІГАРА МАРОЗАВА.**

# ЛЁГКІЯ КРОКІ

Прыемна адзначыць, што такое становішча ў архітэктуры, калі пошукі дойлідаў абмяжоўваліся жорсткімі рамкамі карыснасці і трываласці ствараемых будынкаў за кошт іх прыгажосці, паўсюдна зжывае сябе. Дасягненні нашай народнай гаспадаркі і культуры ўсё больш прадвызначаюць і патрабуюць аднаўлення мастацкага статусу архітэктуры.

Архітэктура — пераўтваральная сіла, скіраваная ў будучыню. Стваральнікі афінскага Акропаля і Краснай плошчы ў Маскве, нават не задумваючыся аб гэтым, будавалі іх галоўным чынам для нас. А тое, што мы будуем сёння,— наша пасланне ў будучыню. Нездарма ж архітэктуру называюць мостам, які злучае эпохі і народы.

Акрамя таго, архітэктура — выхавальнік і прапагандыст. Каб на поўную сілу ўсвядоміць гэта, дастаткова наведаць мемарыялы «Саласпілс» і «Хатынь». Нарэшце, перадавая архітэктура — барацьбіт за сацыяльны прагрэс. Сузіранне цудоўных твораў чалавечага генія выклікае высокія пачуцці, стымулюе стваральную актыўнасць. Новае, трапна сказанае слова ў архітэктуры валодае ўласцівасцю выяўляць затхласць антыгуманістычных ідэй, якія даўно зжылі сябе. У свой час гуманізм архітэктуры Адраджэння нанёс сакрушальны ўдар рэлігійным канонам готыкі. Савецкае дойлідства яшчэ ў 1937 годзе, на Парыжскай міжнароднай выстаўцы, яскрава прадэманстравала сваю жыццесцвярджальную накіраванасць і ўпэўнена, нават пераможна супрацьстаяла змрочнай груваcткасці шмат якіх замежных павільёнаў, у прыватнасці, той жа гітлераўскай Германіі.

«Архітэктура — мастацтва сацыяльнае» — пад такім дэвізам праходзіў Сусветны фестываль архітэктараў «Інтэрарх-85», у якім нам пашчасціла ўдзельнічаць. Вялікая праграма сафійскага біенале ўключала агляд-конкурс праектаў і іх рэалізацый, сімпозіум архітэктурнай тэорыі і крытыкі, форум маладых архітэктараў. Сацыяльная накіраванасць біенале была падкрэслена старшынёй Міжнароднага саюза архітэктараў, народным архітэктарам Балгарыі Г. Стойлавым: «Наша эпоха,— сказаў ён,— стварыла гіганцкія прадукцыйныя сілы. Але разам з тым яна выклікала да жыцця і сілы, якія могуць стаць разбуральнымі. На фоне глабальных планетарных праблем усё больш вострым становіцца канфлікт: тэхніка — жыццёвае асяроддзе. Неабходна аднавіць гармонію. І ў гэтым — асноўнае прызванне архітэктуры».

Аб уражаннях і праблемах, якія абмяркоўваліся на біенале, можна гаварыць бясконца, тым больш, што з часам яны ўзбагачаюцца новымі меркаваннямі і параўнаннямі. Але найперш — аб галоўным.

Спробы сфарміраваць архітэктурнае акружэнне безадносна да надзённых патрэб чалавека асуджаны на безумоўную няўдачу. Не ўратуюць ні найноўшыя канструкцыі, ні вонкавая пампезнасць збудаванняў. Такая высnова напрошваец-



□ У жыцці і ў творчасці — поплеч. Ігар Марозаў (злева) і Аляксандр Марчанка.

збудавання. Па-другое, арачны абрыс збудавання дазваляе найбольш рацыянальна размясціць функцыянальныя зоны: камунальна-бытавую — у падмурках, адпачынку — на вяршыні аркі, пояс камунікацый — у яе цокалі. Ячэйкі ж для кватэр размяшчаюцца па вонкаваму перыметру збудавання. Такім чынам забяспечваецца іх раўнамерная натуральная асветленасць. Кожная кватэра злучаецца з балконам-тэрасай, дзе ствараюцца ўтульныя зялёныя куточкі. Цікава, што арачная схема дазваляе павялічваць плошчу тэрас па меры павелічэння вышыні будынка і тым самым кампенсаваць аддаленасць кватэр ад зямлі.

У аснове нашай канцэпцыі — ідэя сімбіёзу чалавека і прыроды: збудаванне нібыта зліваецца з ёй. Бо ў самым шырокім сэнсе слова менавіта прырода з'яўляецца жыллём, асяроддзем жыцця людзей. Менавіта таму мы імкнуліся да таго, каб аркі збудаванняў, якія нагадваюць вясёлку, займалі як мага менш прасторы. Гіганты нібыта на пальчыках «ідуць» па ландшафце, асцерагаючыся нанесці яму шкоду. Для ўвасаблення гэтай

# «ВЯСЁЛКІ»

ца пасля знаёмства са шматлікімі праектамі, якія прадставілі на біенале архітэктары з 36 дзяржаў. Характэрна, што большая частка прызоў прысуджана праекціроўшчыкам з сацыялістычных краін, дзе дойлідства з'арыентавана менавіта на задавальненне шматлікіх патрэб чалавека. У той жа час удзельнікі форуму ў сумным маўчанні прагледзелі кінафільм аб тым, як у некаторых гарадах на Захадзе ўзрываюцца цэлыя жылыя раёны, пакінутыя жыхарамі з-за таго, што кватэры ім аказаліся не па кішэні.

Аптымістычна выглядаў на гэтым фоне маладзёжны конкурс перспектыўных канцэпцый рассялення. Свой праект-канцэпцыю мы назвалі «Вясёлка». Некалькі слоў пра яго. Згодна нашай прапанове, аркі, радыус якіх дасягае сотні метраў, з'яўляюцца своеасаблівымі тыповымі касетніцамі для блок-кватэр (касет), якія могуць адвольна мяняць месца, пераносіцца з адной ячэйкі ў другую. Рэгламентаваны тут толькі вонкавыя памеры блокаў, а ўнутраную планіроўку, кампазіцыйныя прынцыпы для кожнай кватэры выбіраюць самі жыхары. Прапанаваная схема збудавання мае некалькі вартасцей. Па-першае, аркі, якія шырока ўжываліся яшчэ старажытнымі рымлянамі, маюць істотную тэхнічную перавагу: канструкцыйныя ўласцівасці матэрыялаў выкарыстоўваюцца ў іх самым аптымальным чынам, а разам з тым памяншаецца іх вага, кошт

ідэі мы выбралі тэхніку каляровага фотакалажу. Злучаючы шматлікія фрагменты рэпрадукцый, мы змадэліравалі амаль рэальны беларускі краявід. На планшэтах наўмысна прадстаўлены ўсе поры года. У натуральнай паслядоўнасці паказаны вясенні світанак, летні поўдзень і зімовы заход сонца. Гэты прыём дапамог нам больш пераканаўча выказаць ідэю непаўторнасці кожнага стану ў прыродзе, яе неацэннаю каштоўнасць для чалавека.

На першы погляд здаецца, што такія вось праекты, якія не прэтэндуюць на неадкладную рэалізацыю, нікому не патрэбны. Папяровая архітэктура?! Вакол гэтай праблемы ў апошні час усё больш спрачаюцца, аўтараў такіх праектаў нярэдка папракаюць у фарматворчасці. Ці ёсць сэнс у такой архітэктуры і якая яе роля?

Звернемся да гісторыі. Прататыпы так званай «папяровай архітэктуры» назіраюцца ў самых старажытных культурах. Узоры яе можна знайсці ў вялікага Леанарда і іншых карыфеяў эпохі Адраджэння. Да «папяровай архітэктуры» можна аднесці работы французскага майстра Леду, якія і ў наш час здзіўляюць сваёй актуальнасцю,— большая ж частка яго задумак так і не была ажыццёўлена. Сапраўды, хіба маглі з'явіцца 200 гадоў назад, у перыяд пышнага барока, лаканічныя дамы ў выглядзе куба або шара? Аналагічны творчы лёс спасціг і некаторых рускіх сучаснікаў і калег Леду. Трагізм жыцця выдатнага рускага архітэктара Д. Ухтомскага якраз і заключаўся ў тым, што па яго праектах не было ажыццёўлена ніводнай буйной пабудовы. Вялікага дойліда В. Бажэнава так і не ацанілі па заслугах сучаснікі. Нарэшце, яшчэ не вычарпана поўнасцю спадчына, пакінутая нам першымі савецкімі архітэктарамі,— многае са створанага імі так і засталося на паперы.

Такім чынам, абстрактнае, на першы погляд, праектаванне, якое нават не прэтэндуе на ўвасабленне,— зусім заканамерная з'ява, звязаная з футурыстычнымі поглядамі дойлідаў, якія апярэджваюць аб'ектыўныя магчымасці і запатрабаванні часу. «Папяровая архітэктура» пры ўсёй яе «непрактычнасці», рабіла і робіць істотны ўплыў на фарміраванне густу і стылю, уносіць свой уклад у выпрацоўку новых прынцыпаў формаўтварэння, а лепшыя яе ўзоры — самастойныя мастацкія творы ў выглядзе жывапісных, графічных або аб'ёмных кампазіцый.

...«Вясёлка» стала лагічным працягам распрацоўкі, прадстаўленай намі годам раней на міжнародны конкурс «Жыллё будучыні».

Жыллё... Гістарычныя рэаліі накладваюць свой адбітак на ацэнку яго камфартабельнасці. Большая частка насельніцтва старажытных дзяржаў Месапатаміі задавальнялася цёмнымі каморкамі памерам 2×1,5 метра. У першыя пасляваенныя гады ў нашай краіне пасля разрухі і зямлянак любое наваселле было вялікім святам. Сёння мы сталі больш разборлівыя і з зусім іншымі меркамі падыходзім да ацэнкі свайго жытла. А ў будучыні?

Вядома, мы цяпер толькі прыкладна можам меркаваць аб густах тых, хто будзе жыць пасля нас. Пройдзе час, і нашы самыя смелыя прагнозы адносна аўтаматызацыі вытворчасці, тэхнічных магчымасцей будаўнічай індустрыі, рэгулявання клімату стануць здзейсненымі фактамі. Таму мы зусім не мелі на мэце ўгадаць дакладныя архітэктурныя контуры жылля XXI стагоддзя. На нашых планшэтах не было ні фантастычных канструкцый, ні нябачаных матэрыялаў. Цэласным збудаванне ўспрымаецца толькі на адлегласці. Зблізку ж — гэта сістэма атрыбутаў, якія ўвасабляюць жыллё: фортка, ганак, парог, дзверы, акно, буслінае гняздо як сімвал шчасця. Усё гэта скампанавана на паверхні люстэрка, у прасветах якога глядач бачыць самога сябе. Дзякуючы такому прыёму жыллё індывідуалізуецца, становіцца «абжытым». У сваёй кампазіцыі нам хацелася крыху памарыць аб тым часе, калі архітэктура як мастацтва перастане быць элітарнай прафесіяй, а стане духоўнай патрэбнасцю і сферай прымянення творчых сіл кожнага члена грамадства.

Што датычыць нашых планаў, то мы і надалей маем намер працягваць і паглыбляць выпрацаваную творчую канцэпцыю, сутнасць якой выказвае дэвіз нашых конкурсных пошукаў: «Планета людзей». Ён, на наш погляд, найбольш поўна выказвае і змест архітэктурнага мастацтва ў цэлым.

□ Фантастыка або... недалёкая будучыня!
Фота Георгія ЛІХТАРОВІЧА.



Абрады, народжаныя жыццём



# Ажаніцца — не зжурыцца

Вы ўжо здагадаліся напэўна, што мы зноў хочам расказаць вам пра вяселле. У гэтым няма нічога дзіўнага — некалі ўсе казкі шчасліва заканчваліся шлюбам галоўных герояў, сцвярджаючы спрадвечную жыццёвую мудрасць: чалавек павінен працягваць свой род, як штогод родзіць, нястомна падтрымліваючы жыццё, зямля наша. Як кажуць, шчаслівы канец — справе вянец. А на наш погляд, вяселле — толькі пачатак той незвычайнай і праўдзівай казкі, якую маладыя будуць складаць разам штодня, усё жыццё. Гісторыя сумеснага жыцця сатчэцца іхнімі рукамі, розумам і сэрцам, і ў многім яна будзе залежаць ад таго незабыўнага ўражання, якое пакіне вяселле — іх першая сямейная ўрачыстасць.

— Сёння ў нашым старажытным тысячагадовым Віцебску вялікая і радасная падзея — шлюб бяруць Ігар Рабаў і Ала Алешка,— абвяшчае загадчык Палаца ўрачыстых абрадаў Ганна Уладзіміраўна Талстова, і доўгачаканыя словы гэтыя нібыта праводзяць нябачную рысу паміж учарашнім і сённяшнім днём, злучаюць дваіх маладых людзей у непарыўны саюз, імя якому — сям'я. Усё, што адбываецца далей, яны ўспрымаюць не розумам — сэрцам. Навюткія вокладкі пасведчання аб шлюбе, нязвыклы халадок заручальнага пярсцёнка на пальцы, цёплыя ўсмешкі сяброў, віншаванні, пацалункі, кветкі — усё зліваецца ў адзін святочны калейдаскоп і гучыць у душы ўзнёслай музыкай вясельнага марша Мендэльсона. Пройдуць гады, дзесяцігоддзі, а памяць будзе раз-пораз выхопліваць з гэтага чароўнага калейдаскопа шчымліва-салодкія імгненні: вось здрыганулася птушкай і мацней сціснула яго руку яе рука, а голас гучыць усхвалявана і цвёрда — так, яна абяцае заўсёды кахаць яго, клапаціцца аб ім, дзяліць папалам нягоды і радасці; вось белай завірухай ахінае яго сукенка, калі ён падхоплівае яе на рукі; вось ярка палымнеюць кветкі ля помніка тым, хто аддаў жыццё дзеля іхняга сённяшняга шчасця... Дзеля іх сёння так ярка свеціць сонца, дзеля іх убралі кветкамі і галінкамі бярозы гэту прыгожую залу...

— А памятаеш,— раптам успомніць Ала,— як ты пытаўся ў мяне, якой нагой трэба станавіцца на ручнік, які паслалі нам ля ўвахода ў банкетную залу?

— Добра памятаю,— усміхнуўшыся, адкажа Ігар,— бо ты і сама гэтага не ведала, і мы ўдваіх наступілі правай...

— Затое я ведала, што рабіць з сярэбранымі званочкамі, якія падарылі нам, каб мы склікалі гасцей за стол!

— Па аднаму яны гучалі глуха і невыразна, а калі ты звязала іх стужкай, яны заліліся звонка і дружна, і ўсе пачулі іх,— прыгадае Ігар, і твары абаіх пасвятлеюць, нібыта яны пачулі ў далечыні сярэбраны звон свайго вяселля, сваёй маладосці...

Спадабалася і надоўга запомнілася вяселле Рабавых і тым, хто сядзеў за вясельным сталом. І не толькі таму, што гэта было першае ў Віцебску безалкагольнае вяселле, але і таму, што праводзілася яно па сцэнарыю, падрыхтаваным Віцебскім навукова-метадычным цэнтрам народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы на аснове народных і сучасных абрадаў, і сапраўды ператварылася ў вяселле — свята, на якім усім весела. Хапіла месца на гэтым свяце дасціпнаму жарту і добрай песні, шчырым словам віншаванняў і бацькоўскаму наказу, віхурыстаму танцу і вясёлым конкурсам. Не сумавалі і маладыя: ім звязвалі ручніком рукі, уручалі хлеб-соль і цудакуфэрак з падарункамі, давалі жартоўныя парады, прымушалі шукаць запечаную ў караваі манету, каб вызначыць, хто будзе галавой сям'і... На вачах у прыдзірлівага журы яны праходзілі выпрабаванні, дэманструючы, як падрыхтаваліся да сямейнага жыцця: збіваючыся з-за малакампетэнтных парад дружак, апраналі і спавівалі «дзіця», дзялілі сямейныя абавязкі. А як перахваляваліся за сяброў хлопцы і дзяўчаты, пакуль маладая вышывала насоўку, а малады збіраў мясарубку!.. (Дарэчы будзе сказаць, што маладыя выйшлі з гэтага нялёгкага выпрабавання з гонарам!)

Шчыра кажучы, напачатку, уладкаваўшыся за сталамі, якія літаральна ламаліся ад смачных і прыгожа аздобленых страў, некаторыя з гасцей сумнавата пазіралі на бутэлькі з квасам, разнастайнымі сокамі і напіткамі, падрыхтаваўшыся ў думках да такой звыклай, усім нам уласцівай, у той ці іншай меры, ролі пасіўнага сузіральніка. Але не так лёгка аказалася «абвесці вакол пальца» вядучую — хормайстра Палаца культуры бытавога абслугоўвання насельніцтва Галіну Георгіеўну Калініну. Таленавіты арганізатар і вопытны распарадчык сямейных урачыстасцей, яна адразу ж пачала праграму з... вясёлай гульні «Знаёмства», у час якой госці хутка асвоіліся, пазнаёміліся адзін з адным, пазбыўшыся пад імпэтную музыку былой скаванасці. На працягу ўсяго вечара Галіна Георгіеўна не дазваляла нікому сумаваць — то сыпане задзірыстай частушкай, то завядзе вясёлы карагод, распачне цікавую гульню, а то зачаруе ўсіх песняй, што кранае душу... А колькі вершаў, прыказак ды прымавак ведае, за трапным слоўцам у кішэню не лезе, кожны непрадбачаны эпізод ператварае ва ўдалую імправізацыю! Зайграў аркестр танец «Качаняты», а Галіна Георгіеўна заўважае, што некаторыя з гасцей яго не ведаюць, адыходзяцца ўбок. А трэба ж, каб усім было весела!

— Пачакайце хвілiначку,— просіць яна,— вось тут маленькая Аленка і Жэня хочуць уручыць маладым свой падарунак!

На круг выходзяць хлопчык і дзяўчынка і вельмі прыгожа танцуюць танец «Качаняты», які яны развучвалі ў дзіцячым садзе. А потым яго падхопліваюць расчуленыя бабулі і дзядулі, хлопцы і дзяўчаты...

Што і казаць! У тым, што вяселле прайшло весела, цікава і змястоўна, вялікая заслуга вяду-









чай. Замяніўшы традыцыйнага тамаду, Галіна Георгіеўна стала «душой» свята. Чуйна ўлоўліваючы настрой прысутных, яна ўмела дырыжыравала застоллем, падказвала, калі да месца запрасіць стомленых танцамі гасцей за стол, пачаставаць іх новай стравай, калі заспяваць разам песню, палюбавацца першым танцам маладых. Але не менш важна і тое, што сцэнарый правядзення вясельнага абраду быў старанна прадуманы і падрыхтаваны, улічана кожная дробязь, пачынаючы ад касцюмаў удзельнікаў урачыстасці і канчаючы рэцэптамі безалкагольных напіткаў.

Сёння ў рэспубліцы ўсё больш праводзіцца вось такіх безалкагольных вяселляў, на якіх весела не ад выпітай гарэлкі, а ад умела арганізаванага (няхай сабе і па сцэнарыю!) свята, музыкі, песень і танцаў. На нашых вачах нарадзілася традыцыя. Час, вядома ж, будзе змяняць, дапаўняць і шліфаваць новы вясельны абрад, але галоўнае застаецца нязменным — не «мора» гарэлкі людзі будуць рыхтаваць да вяселля, а гульні і конкурсы, песні і танцы, элементы народных абрадаў, тэатралізаваныя віншаванні, эстрадныя нумары. Настане час, калі сцэнарый вяселляў будуць складаць самі маладыя, іх бацькі і сваякі, а распарадцамі на іх будуць не прафесійныя артысты, а асобы, абраныя гасцямі за вясельным сталом.

А пакуль што ў Віцебскім гарвыканкоме, як паведаміла нам загадчык аддзела культуры Бірута Аляксандраўна Семянкова, не змаўкае тэлефон: просяць дапамагчы арганізаваць такое вяселле, якое было ў Рабавых...

Цікава, а што скажуць пра яго людзі сталага веку? Давайце паслухаем, што сказала на фінішы застолля бабуля маладога Анфіса Мікалаеўна Малінава:

— За свае 72 гады я пабачыла не адно вяселле, але не ўсе яны засталіся ў памяці. Вяселле ж унука майго ўсцешыла мяне незвычайна. Усе навокал вясёлыя, цвярозыя, жартуюць, спяваюць, словы харошыя гавораць. Ужо калі мне, старой, весела, скакаць ахвота, што пра маладых гаварыць. Вось такім і павінна быць вяселле, каб на ўсё жыццё запомнілася!

У заключэнне прывядзём некалькі віншавальных тэлеграм, якія прыйшлі на адрас маладых:

Рэпартаж падрыхтавалі
**Людміла СУХАНАВА**
**і Уладзімір БАЗАН (фота).**

**«Дарагія сябры! З сённяшняга дня навечна аб'яўляем вас членамі мядовага месяца.**
**Таварыства пчаляроў».**

**«На ваша імя выслана трохмесная дзіцячая каляска.**
**Магазін «Дзіцячы свет».**

**«Віншуем са шлюбам! Жадаем вам пяць сыноў генералаў і шэсць зяцёў адміралаў.**
**Ваенкамат».**

**«Маладой. Дарагая, першае слова, якое павінен вывучыць твой маленькі,— «тата». Тады ты будзеш спаць спакойна.**
**Жонкі са стажам».**

Рэзананс

ЗРАБІЦЕ САМІ

# СУЧАСНЫ КЛАСІЧНЫ ДЖЭМПЕР

Звязаць цёплы джэмпер — вось задума, якая з'яўляецца ў кожнай рукадзельніцы зімняй парой. І калі вы прыхільніца класічнага стылю ў адзенні, але не цураецеся элементаў «вострай» моды і любіце ўтульную мяккасць ручнога вязання — гэтую мадэль мы прапануем спецыяльна для вас.

Каб звязаць джэмпер, спатрэбіцца каля 400 грамаў шэрай і 100 грамаў белай шарсцяной пражы, кругавыя пруткі дыяметрам 2 міліметры і пруткі дыяметрам 3,5 і 2 міліметры, вязальны кручок для злучэння дэталей.

Шчыльнасць вязкі асноўнага палатна: у 10 сантыметрах — 19 петляў па вертыкалі і 14 петляў па гарызанталі.

**ПЕРАД.** Набраць тонкімі пруткамі 76 петляў і звязаць 10 радкоў шчыльнай рызінкай 2×2. На дзесятым радку пераходзім на тоўстыя пруткі. Каб вывязаць ромбы, трэба мець на прутках 75 петляў — лішнюю пятлю закрыем. Першы размеркавальны радок арнаменту вяжам з асноўнай шэрай ніткі: 5 сподніх, 1 вонкавая, 8 сподніх, 1 вонкавая, 8 сподніх, 1 вонкавая і г. д. Наступныя 2 радкі правязваем белай ніткай так, як паказана на схеме. Па шырыні радка змесціцца 9 ромбаў. Пачатак праймы і гарлавіны лёгка вылічыць не па петлях, а па ромбах: да праймы ў вышыню трэба звязаць 3 ромбы (пасля чаго паступова закрыць па 11 петляў на праймы), а гарлавіну пачынаем вязаць пасля заканчэння 4-га ромба. Плячо вывязваем у адзін прыём: у апошнім радку закрываем 20 петляў.

**СПІНКА.** Набіраем 68 петляў і вяжам: 10 радкоў шчыльнай рызінкай 2×2, затым сподняй вязкай — 72 радкі да праймы, і далей 34 радкі — да пляча. Пройму вывязваем паступова: закрываем спачатку 4 пятлі, затым 3 і 1 — праз радок. Каб атрымаць пакатую лінію пляча, адлічваем з двух бакоў палотнішча па 20 петляў і закрываем іх чатырма заходамі, па 5 праз радок. Астатнія петлі закрываем у адным радку.

**РУКАВЫ.** Набіраем 42 пятлі, вяжам рызінку 2×2, затым — сподняй вязкай 29 радкоў. З трыццатага радка пачынаем набаўляць з двух бакоў па адной пятлі на кожныя 8 радкоў. Пасля 86-га радка закрыем з аднаго боку 11 петляў, а з другога — 8 (адпаведна праймам пераду і спінкі). Далей будзем закрываць па адной пятлі на 2 радкі — яшчэ 30 радкоў. Астатнія петлі закрыць у адным радку.

Дэталі джэмпера адпарыць, надаць ім форму згодна малюнку. Злучыць вязальным кручком плечавыя швы — пятля насупраць пятлі. На крайніх петлях гарлавіны кругавымі пруткамі звязаць 10 радкоў рызінкі 2×2; пачынаць яе трэба ад мыса, і вязаць не па кругу, а зваротнымі радкамі. Канцы гатовай рызінкі сшыць на вугал з вываратнага боку, адвярнуць і замацаваць патайнымі шыўкамі.

Злучыць рукавы і стан, прапарыць прасам швы на плячах, гарлавіну, галоўку рукава. Апошняй аперацыяй будзе злучэнне бакавых швоў — адразу ж і рукава, і стану.

Джэмпер гатовы — яго можа апрануць і жанчына і мужчына, якія носяць адзенне 46—48 памераў.

Алена ЛОСЬ-ЗАЛУЖНАЯ.
Малюнкі аўтара.



**УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ:**

- — сподняя пятля
- — вонкавая пятля
- — выцягнутая пятля (правязваецца ў 3-м радку)
- — перакрыжаваны накід паміж споднімі петлямі
- — вонкавая пятля, якая правязваецца разам з суседняй сподняй




ТВОРЧАСЦЬ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ



БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

# ДЫЯГНАЗ З ПЕРШАГА ПОГЛЯДУ

**«Апошнім часам папулярным стаў «бег ад інфаркту». Прычым найчасцей бегаць пачынаюць у сталым узросце, калі бывае даволі цяжка разлічыць фізічную нагрузку. З якой жа хуткасцю трэба рухацца, каб не дагнала хвароба!**

**Ф. БАРЫСЕНАК,**
г. Маладзечна».

За парадай тут, канечне, лепш за ўсё звярнуцца да ўрача. А вось дакладна прытрымлівацца яго рэкамендацый дапаможа мініяцюрны прыбор, створаны спецыялістамі Беларускага навукова-даследчага інстытута кардыялогіі і Віцебскага завода электравымяральных прыбораў. Прадпрыемства ўжо адправіла медыцынскім установам рэспублікі першую партыю такіх электронных «кантралёраў» фізічнай нагрузкі.

Кішэнны прыбор чуйна рэагуе на змены рытму хадзьбы ці бегу, вышыню і частату скачкоў, іншых фізічных практыкаванняў. Калі расход энергіі ў межах нормы — ён маўчыць. Але вось вы расслабіліся, а гэтага ўжо электронны «трэнер» даравацъ не можа — адразу ж басам падае ўмоўны сігнал. Будзе сачыць ён і за тым, каб вы не надта перагружалі свой арганізм, ашчадна трацілі сілы на дарожцы стадыёна і ў час лыжнай прагулкі. У адваротным выпадку таксама падасць сігнал, але ўжо не басам — фальцэтам.

Незаменным і жаданым спадарожнікам стане прыбор і для тых, хто перанёс інфаркт. Ён дапаможа значна скараціць колькасць медперсаналу, занятага абследаваннем пацыентаў, якія пайшлі на папраўку пасля цяжкіх хвароб.

— Вучоныя сумесна з работнікамі вытворчасці падрыхтавалі цэлы шэраг распрацовак у рамках комплекснай праграмы прафілактыкі сардэчна-сасудзістых захворванняў, якая ажыццяўляецца ў рэспубліцы,— гаворыць загадчык аддзела медыцынскай тэхнікі БелНДІ кардыялогіі В. М. Якубовіч.— Ужо створаны вопытныя ўзоры наручных гадзіннікаў-мікракардыяманометраў. З дапамогай супермініяцюрнай сістэмы апрацоўкі інфармацыі яны здольны папярэджваць аб перабоях сардэчнай дзейнасці, кантраляваць частату пульсу, іншыя паказчыкі. Ну і, канечне, спраўна паказваць час. Заўважу, што з задачай выяўлення сардэчнай арытміі да гэтай пары спраўляліся толькі буйныя стацыянарныя ўстаноўкі. Зараз жа ўрачу будзе дастаткова запрасіць да сябе пацыента, зірнуць на яго гадзіннік і добрасумленна перапісаць інфармацыю ў гісторыю хваробы. Гэтага хопіць для таго, каб паставіць правільны дыягназ.

— Спецыялісты Віцебскага завода электравымяральных прыбораў працуюць зараз над новым мініяцюрным эргометрам,— працягвае В. М. Якубовіч.— Прыбор будзе дазіраваць нагрузкі на арганізм чалавека ў адпаведнасці з колькасцю калорый, якія ён спажывае. Мінскі матавелазавод прыступіў да выпуску велаэргометраў-трэнажораў. Іншыя прадпрыемствы рэспублікі рыхтуюцца выраблядь гідрамасажоры, тэрмакантрастныя душы. Праз год — паўтара большасць навінак з'явіцца ў клініках і паступіць у продаж.

**Іван ГРЫГОР'ЕЎ.**





Зімовыя матывы.

Фота Віктара ЖЫЛІНА, г. Мінск.

ЦІКАВА КОЖНАМУ

# ГОРАД НА ГАЗЕТНАЙ ПАЛАСЕ

Працуючы ў гістарычных архівах Масквы і Ленінграда, я знайшоў цікавыя звесткі аб паходжанні назвы беларускага горада Стоўбцы, што пад Мінскам.

Вядома, што першая руская газета «Ведомости о военных и иных делах достойных внимания» была створана ў 1702 годзе Пятром Першым. Вялікі пераўтваральнік Расіі быў і першым рэдактарам газеты. «Ведомости» друкаваліся на лістках невялікага фармату ў адну восьмую частку ліста тыражом да 4 тысяч экземпляраў і былі прызначаны для шырокай публікі. Нумар каштаваў ад 1 да 4 капеек. А ці існавала газета ў Расіі да выхаду пятроўскіх «Ведомостей»?

Так, існавала. Газета гэта называлася «Куранты, или Вестовые письма». Яна выходзіла ў XVII стагоддзі (першы нумар — 1621 год) і была рукапіснай. Выдаваў «Куранты» Пасольскі прыказ у Маскве ў колькасці 20—30 экземпляраў, а чытачамі было бліжэйшае акружэнне цара. На граніцах Расіі працавала спецыяльная «карэспандэнцкая група» Пасольскага прыказа. Прыказныя дзякі атрымлівалі свежыя весткі з-за мяжы і перапісвалі іх уручную на доўгіх і вузкіх лістах паперы — «стаўбцах». Затым «стаўбцы» неадкладна перапраўляліся ў Маскву, дзе іх размнажалі прыказныя перапісчыкі. Захавалася, напрыклад, пісьмо цара Аляксея Міхайлавіча (бацькі Пятра Першага), датаванае 1660 годам, у якім ён загадвае «со всем тщанием прилежать в отсылке оных столбцов на Москву незамедлительно». Пісьмо адрасавана думнаму дзяку Пасольскага прыказа Аўтаному Іванову ў мястэчка Стоўбцы, што ў «верьховьях Немена обретается».

Такім чынам, можна меркаваць, што паходжанне назвы горада Стоўбцы цесна звязана з гісторыяй айчыннай журналістыкі.

**Георгій БЛЮМІН,**
**літаратуразнаўца.**

# ВІКТАРЫНА «НАШ РОДНЫ КРАЙ»

## АДКАЗЫ НА ЗАДАННІ ПЕРШАГА ТУРА

I. Выслоўе «Нямігі крывавыя берагі» пайшло са «Слова аб палку Ігаравым», у якім апісана бітва дружыны полацкага князя Усяслава з войскамі Ізяслава кіеўскага, Святаслава чарнігаўскага і Усевалада пераяслаўскага на беразе ракі Нямігі каля Мінска ў 1067 годзе.

II. У паўстанні 1863 года прымаў удзел Францішак Багушэвіч, на магіле якога напісана: «Мацею Бурачку ад мужыкоў-беларусаў. Змоўклі песні тыя, што іграў на дудцы».

III. У 1935 годзе за дасягненні ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці Беларуская ССР узнагароджана першым ордэнам Леніна.

IV. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 6 жніўня 1941 года Ц. П. Бумажкову і Ф. І. Паўлоўскаму першым сярод беларускіх партызан было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

V. У кастрычніку 1953 года Мінскі трактарны завод выпусціў першы трактар «Беларусь», 5 лістапада 1972 года — мільённы.

VI. На здымку — васьміразовая чэмпіёнка свету, удзельніца чатырох Алімпійскіх гульняў (1968 — Мехіка, 1972 — Мюнхен, 1976 — Манрэаль, 1980 — Масква) фехтавальшчыца Алена Бялова.

VII. У 1977 годзе ў Хельсінкі адбылася прэм'ера балета Я. Глебава «Тыль Уленшпігель», у 1982 годзе — балета «Маленькі прынц».

Па колькасці набраных балаў лідэрамі першага тура віктарыны сталі: **Віталь Свістуновіч** (Ляхавіцкі раён), **Ірына Пятроўская** (Мінск), **сям'я Сасноўскіх** (Магілёў), **Віктар Марыганаў** (Віцебск), **Уладзімір Барысюк** (Брэст), **В. і А. Кашэта** (Шчучынскі раён), **Валерый Прыз** (Брэст), **Леанід Семянько** (Лепельскі раён), **Ірына Галяк** (Іванаўскі раён), **Мікалай Хвясеня** (Слонімскі раён), **Тамара Самушчык** (Баранавічы), **В. Жабрун** (Бярозаўскі раён), **Валянціна Лаўрэнава** (Мінск), **Ганна Вашкевіч** (Светлагорск). Усе астатнія ўдзельнікі віктарыны набралі менш як шэсць балаў, але не страцілі шанц выйсці ў пераможцы.

# ТУТ БЫЛА ГІМНАЗІЯ

Сярэдняя школа № 1 горада Слуцка старэйшая ў рэспубліцы. Пра гэта ведаюць многія. Але не ўсе ведаюць, што раней у старым будынку гэтай школы знаходзілася Слуцкая кальвіністкая гімназія. Заснавана яна была ў 1624 годзе.

Бацька мой, Кахановіч Іларыён Васільевіч, сорак пяць гадоў працаваў тут вартаўніком (з 1872 года па 1917).

Сям'я ў нас была вялікая, дзевяць дзяцей. Праўда, у жывых засталіся толькі шасцёра. Жылі мы побач з гімназіяй у флігелі — аднапавярховым драўляным доме з двух пакояў. Раней у гэтым доме былі два падрыхтоўчыя класы, а потым дырэктар гімназіі распарадзіўся пасяліць нашу сям'ю. Прозвішча дырэктара гімназіі запомнілася добра — Сакалоў. Ён з вялікай павагай адносіўся да простых людзей і зрабіў добрую справу, пасяліўшы ў казённым доме мнагадзетную сям'ю вартаўніка. Застаўся ў памяці і такі выпадак. Аднойчы дырэктар гімназіі заўважыў, што наглядчык гімназіі Лясун, які вёў гаспадарку навучальнай установы, прымусіў майго бацьку чысціць яму чаравікі. Убачыўшы гэта, дырэктар абразіўся і прапанаваў наглядчыку папрасіць прабачэння ў майго бацькі. Пры гэтым ён растлумачыў, што абавязак Іларыёна Васільевіча (ён звяртаўся да ўсіх з павагай) ахоўваць маёмасць гімназіі, а не чысціць яе работнікам абутак.

З усёй нашай мнагадзетнай сям'і закончыў гімназію толькі старэйшы мой брат Іосіф, які выдатна вучыўся і ў той жа час зарабляў грошы тым, што падцягваў у вучобе памешчыцкіх сыноў, якія адставалі.

Наша сям'я жыла на заробак бацькі — 15 рублёў у месяц. На такія мізэрныя грошы жыць было цяжка. І дзеці павінны былі зарабляць на хлеб.

Калі ж мой брат вучыўся ў Маскве, дырэктар гімназіі Сакалоў арганізаваў экскурсію гімназістаў выпускных класаў для знаёмства з маскоўскімі навучальнымі ўстановамі. У якасці ўзнагароды за шматгадовую сумленную працу ў гімназіі дырэктар прапанаваў майму бацьку паехаць разам з экскурсіяй у Маскву, паглядзець, дзе вучыцца яго сын.

Як жа склаўся далей, пасля заканчэння універсітэта, лёс майго брата?

Ён пачаў працаваць дырэктарам Рузаеўскай школы ў Пензенскай вобласці. У 1941 годзе яму было 54 гады. Па стану здароўя і па гадах яго на фронт не ўзялі, а прызначылі ваенкомам Рузаеўскага ваенкамата.

У памяці застаўся расказ майго брата аб тайным сходзе гімназістаў выпускнога класа Слуцкай гімназіі ў 1905 годзе. Гімназісты сабраліся на тайную сходку на былых яўрэйскіх могілках. У іх быў намер падарваць Слуцкі сабор, які той парой быў на месцы Дома культуры на Бязбожнай горцы. Тады яна звалася Саборнай. Па жараб'ёўцы выпала гэта зрабіць Штрыкеру, які вучыўся ў адным класе з маім братам. Бацька Штрыкера быў спраўнікам. Гімназісту з такой сям'і не хапіла мужнасці выканаць гэта. І ў тую ж ноч, пасля сходкі, ён застрэліўся ў сваім садзе.

Не памятаю дакладна, у якім годзе замест дырэктара гімназіі Сакалова быў прызначаны нехта Якушэвіч. Ён быў поўнай супрацьлегласцю свайму папярэдніку. Якушэвіч паводзіў сабе ганарыста, пазіраў на ўсіх звысоку. Пачаў дрэнна адносіцца да майго бацькі за тое, што сын вучыўся ва універсітэце. Нам стала цяжка жыць пры новым дырэктары. Хутка ён выселіў нас з кватэры, заявіўшы, што гэты дом патрэбен яму для іншай мэты. Добра, што гэта здарылася летам. І наша сям'я на першым часе жыла ў хляве пажарнай, пакуль збудавалі дамок. У час вайны дамок спалілі фашысты.

У вайну я жыла ў Слуцку, у суседзяў, харошых людзей, дом якіх ацалеў. Была сувязною партызанскага атрада імя Будзённага. Муж загінуў на фронце пад Кёнігсбергам, брат Аляксандр загінуў, абараняючы Севастопаль.

У год 40-годдзя Вялікай Перамогі мне споўнілася 86 гадоў. Нядаўна мне ўручылі пасведчанні «Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны» і «Партызан Беларусі». Перажыта за гады вайны столькі, што балюча ўспамінаць. І ў мае гады ў мяне ёсць адно жаданне — пабываць у Хатыні, пакланіцца загінуўшым землякам. У мяне ж таксама ў невядомых магілах ляжаць муж, брат і мужаў брат.

І маё мацярынскае пажаданне ўсім добрым людзям Зямлі, хто змагаецца за мір ва ўсім свеце, каб ніколі не было вайны, каб заўсёды яснае сонца свяціла ў вокны мірных людзей.

**Ганна САЦУК.**



КАЛЯНДАР САДОЎНІКА

# ВЯСНА Ў СКРЫНЯХ

Не раз заўважаў, што пачынаючым садаводам-аматарам вельмі хочацца самім вырасціць дрэва, паназіраць за хвалюючымператварэннем пяшчотнага кволага парастка ў яблыню ці сліву... А для таго, каб з'явіўся парастак, трэба кінуць у глебу зярнятка. Усю зіму сабранае насенне яблынь, сліў, груш стараюцца трымаць у цёплым, сухім месцы, аберагаюць ад холаду і сырасці. І... робяць памылку. Пасеянае з надыходам цяпла насенне ўзыдзе толькі вясной наступнага года. Бо ў адрозненне ад іншых культур насенне пладовых раслін мае адметную асаблівасць: яно павінна прайсці ў глебе ва ўмовах нізкіх тэмператур восені і ранняй вясны неабходную для прарастання падрыхтоўку.

Насенне костачкавых парод (вішні, алычы, слівы і іншых) звычайна высяваюць адразу пасля паспявання пладоў. Адмытыя ад мякаці костачкі кідаюць у баразны глыбінёй 3—4 см, засыпаюць пяском, а зверху мульчыруюць слоем торфу таўшчынёй 3—4 см. Гэтак жа высяваюць і насенне семечкавых парод, але значна пазней — недзе ў кастрычніку. Неабходна сачыць, каб да насення не прабраліся мышы, аматары паласавацца ім у цяжкі зімовы час.

Больш высокі працэнт усходаў дае насенне, якое прайшло спецыяльную падрыхтоўку — стратыфікацыю. Намочанае на 4—6 гадзін насенне змешваюць з рачным пяском або вільготным пілавіннем у суадносінах 1 частка насення на 3 часткі пяску. Вільготнасць сумесі павінна быць такой, каб пры сцісканні ў руцэ выступалі крапелькі вады. Драўляныя скрыні з насеннем, шчыльна закрытыя накрыўкамі ад грызуноў, захоўваюць у падвальным памяшканні пры тэмпературы $+2$—$+6°$. Праз кожныя 10—15 дзён сумесь высыпаюць са скрынь і перамешваюць, пры неабходнасці дабаўляюць ваду.

Невялікія партыі насення насыпаюць у капронавыя мяшэчкі (часцей за ўсё з гэтай мэтай выкарыстоўваюць старыя панчохі) і перакладваюць пластамі вільготнага моху або пілавіння. У гэтым выпадку ў адной скрыні можна стратыфікаваць некалькі партый насення.

Ва ўмовах Беларусі стратыфікацыю насення пачынаюць у наступныя тэрміны: розных відаў вішань і чарэшань — 1—5 лістапада; слівы і алычы — 10—15 лістапада; дзікай яблыні, грушы і айвы — 10—15 студзеня; антонаўкі і іншых сартоў яблыні — 15—20 студзеня; яблыні-кітайкі — 1—10 лютага.

З пачатку сакавіка, перамешваючы сумесь, пільна прыглядайцеся, ці не з'явіліся «надзяўбаныя» зярняты. Заўважыўшы іх, накідайце ў скрыні снегу або лёду, каб не дапусціць дачаснага прарастання насення. А яшчэ лепш дадаткова накрыць скрыні мохам або пілавіннем, папярэджваючы хуткае раставанне снегу.

Высяваюць насенне ў красавіку, калі глеба адтане і сагрэецца пад цёплымі сонечнымі прамянямі.

**Навум МЕЛЬНІК,**
**кандыдат сельскагаспадарчых навук.**



Анатоль ГАНТВАРГ,
чэмпіён свету па шашках



# «МАЯ КНІГА— НЕ МЕМУАРЫ...»

Яшчэ гуляюць у чэмпіянатах краіны майстры, да якіх я, дэбютант, з павагай звяртаўся на вы (а былі яны маладзейшыя, чым я цяпер), але ўжо ўварваліся ва ўсесаюзныя турніры хлапчукі, што называлі мяне па імені па бацьку.

Імклівa праляцелі дваццаць пяць гадоў за дошкай. Чвэрць стагоддзя. Надта імклівa, а ў іх жа спрасаваны радасці і засмучэнні, перамогі і паражэнні, мінуты ўрачыстасці і бяссонныя ночы, і галоўнае — бясконцая праца.

І ўсё-такі яшчэ ранавата пісаць успаміны. Справа не толькі ва ўзросце. Яшчэ па-ранейшаму цікавей не ўспамінаць, а гуляць, змагацца.

Мая кніга — не мемуары. У ёй жаданне падзяліцца некаторымі думкамі з маладымі шашыстамі, расказаць пра выдатных майстроў, з якімі я сустракаўся, пазнаёміць са сваёй творчасцю.

Падбіраючы матэрыял для кнігі, я праглядваў згуляныя ў юнацтве партыі. Здавалася, я памятаў іх. Але, да свайго здзіўлення, быў уражаны той, ранейшай рызыкай, наіўным аптымізмам кожнага ходу. Нібыта гуляў не я, хтосьці іншы, і ўсё ж, упершыню сабраўшы разам столькі партый, стараўся выбраць тыя паядынкі, у якіх удалося паказаць сваю гульню, намаляваць «шашачны аўтапартрэт».

Я ніколі не прызнаваў у шашках догмаў, правіл на ўсе выпадкі жыцця. Мне даводзілася назіраць за ўзлётам таленавітых шашыстаў, гульню якіх спяшаліся аб'явіць эталонам. Але ўслед за сказаным імі «апошнім словам» шашачнай тэорыі адкрываліся ўсё новыя ідэі, што яшчэ і яшчэ раз пацвярджала, наколькі багатая і невычэрпная гэта гульня.

Не кожны становіцца чэмпіёнам. Але калі ўдаецца разыгрываць свае партыі не толькі па запазычаных узорах, ажыццяўляць у іх нехай сціплыя, але ўласныя задумы, то менавіта гэта прыносіць радасць і задавальненне.

## У СЦЕНАХ ПАЛАЦА ПІЯНЕРАЎ

Маё дзяцінства прайшло ў Мінску, у горадзе па сутнасці нанова пабудаваным пасля вайны. Вялікія дамы, прасторныя двары. Мае аднагодкі любілі пазмагацца ў шашкі. Не быў выключэннем і я. Гуляючы, заўсёды імкнуўся толькі да перамогі і перамагаў. Натуральна, я меў вельмі цьмянае ўяўленне аб тым, што недзе жывуць сапраўды моцныя ігракі.

Калі знаёмы юнак аднойчы прапанаваў разам з ім пайсці ў гурток Палаца піянераў, я з-за няўпэўненасці, а магчыма, проста з-за сарамлівасці ў пакой, дзе праходзілі заняткі, зайсці не рашыўся.

Заканчваўся 1959 год. У Мінску ў Палацы піянераў праходзіў чэмпіянат СССР па рускіх шашках. Незвычайная карціна шашачных баталій захапіла мяне.

За столікамі сядзелі паглыбленыя ў гульню людзі. Мяне ўразіла, як доўга думаюць яны над кожным ходам. Сілюся зразумець прычыны іх марудлівасці, узіраюся ў пазіцыі, якія здаюцца мне не вельмі складанымі, і нечакана лаўлю на сабе зацікаўлены позірк незнаёмца. У яго абліччы было нешта такое, што выклікала прыхільнасць да сябе.

— Цікава? — спытаў ён.

Я кіўнуў.

— Хочаш навучыцца гуляць як яны?

— Ага.

— Пайшлі...

І я апынуўся ў невялікім пакоі, дзе за дошкамі сядзелі хлопцы майго ўзросту. Кіраўнік гуртка І. С. Бельскі прапанаваў рашыць мне некалькі камбінацый. Я не адразу зразумеў сэнс задання, бо ведаў, што можна аддаць адну шашку і збіць... некалькі. Гэта я лічыў сваім адкрыццём і вельмі ім ганарыўся. Але тое, што можна некалькі ходаў запар аддаваць свае шашкі, а потым эфектна зняць яшчэ больш шашак праціўніка, мяне ўразіла.

Выбар быў зроблены.

Чэмпіянат СССР працягваўся, і я цэлымі днямі прападаў у Палацы піянераў. Нейк каля турнірнай табліцы з намі, гурткоўцамі, разгаварыўся Вячаслаў Шчогалеў. Гэты дзевятнаццацігадовы юнак быў у групе лідэраў, пра яго шмат гаварылі і пісалі. І вось такая знакамітасць без цырымоніі размаўляе з намі! Даведаўшыся, што мы займаемся шашкамі, Шчогалеў пажартаваў: «Гуляйце, гуляйце, можа і вы станеце чэмпіёнамі...»

Чэмпіёнам СССР я стаў праз дзесяць гадоў у Харкаве, апярэдзіўшы на паўачка... Шчогалева. Гэтае паўачка вырашыла лёс адзінай пуцёўкі на чэмпіянат свету.

З удзячнасцю ўспамінаю свайго першага настаўніка. І. С. Бельскі ўмеў стварыць на занятках творчую атмасферу і адначасна вясёлую. Мы трэніраваліся два разы на тыдзень, і гэтых дзён я чакаў як свята.

Сёння з дзецьмі займаюцца аўтарытэтныя трэнеры, у іх цікавая методыка.

Заняткі вельмі насычаныя. Канечне, цяпер іншыя патрабаванні, узрасла канкурэнцыя і поспехаў нават пры наяўнасці здольнасцей дабіцца нялёгка. І ўсё-такі мы займаліся лягчэй, весялей, без напружання.

Бельскі быў неблагім шашыстам. У тыя гады ў рускіх шашках пачынаўся тэарэтычны бум, праўда, мы апынуліся ўбаку ад яго. Наш трэнер, на шчасце, быў практыкам. Перш за ўсё ён імкнуўся навучыць асновам пазіцыйнай гульні. «Лепш слабы цэнтр, чым моцныя флангі»,— любіў паўтараць ён. Цяпер, прыгадваючы свае першыя крокі, я разумею, што, хаця Бельскі і не ставіў такой задачы, яго сістэма падрыхтоўкі, стыль гульні закладвалі падмурак і для пераходу на «вялікую дошку», дзе значэнне цэнтра рэзка ўзрастае.

У гуртку Бельскага займаліся М. Кац, А. Чахаўской, А. Соркіна, У. Беляеўскі, Б. Агашын, В. Беларыцкі. Няма неабходнасці пералічваць іх поспехі. Не менш важным дасягненнем Бельскага, чым спартыўныя поспехі яго вучняў, з'явілася тая трэнерская эстафета, якую ён перадаў А. Чахаўскому, М. Кацу.

Так, вельмі важна, якія людзі стаяць на пачатку твайго шляху. Гляджу сёння на маладых майстроў, часцяком не па ўзросту практычных і за дошкай і ў жыцці, і я, зусім не схільны да ідэалізацыі былога, заўсёды ўспамінаю бескарыслівыя, рыцарскія адносіны да шашак свайго першага трэнера. Як ён любіў шашкі, як радаваўся кожнаму нашаму поспеху, добра згулянай партыі! Бельскі быў вельмі прынцыповы, спорту без барацьбы не прызнаваў і гэтаму вучыў сваіх выхаванцаў. Наш настаўнік не атрымаў за

Урыўкі з кнігі, што рыхтуецца да друку ў выдавецтве «Полымя».

сваю трэнерскую работу ніякіх званняў, але ці ёсць большая ўзнагарода, чым любоў, адданасць, павага і ўдзячнасць вучняў.

Добрага слова заслугоўвае і А. В. Ракітніцкі. Шахматна-шашачны клуб, у якім праводзіліся ўсе спаборніцтвы, стаў для нас другім домам. Яго «гаспадар» сустракаў нас ветлівай, добразычлівай усмешкай, і мы, зялёныя, адчувалі сябе гэтак жа, як вядомыя майстры. Аркадзь Венядзіктавіч захапляўся кампазіцыяй, шмат сіл аддаваў яе папулярызацыі, аказваў падтрымку многім вядомым сёння складальнікам задач і эцюдаў.

Я лёгка выконваў разрад за разрадам. Не ведаю, як склаўся б мой спартыўны лёс, калі б на пачатку шляху сутыкнуўся з няўдачамі. У далейшым у мяне былі дастаткова працяглыя спады (аб гэтым размова наперадзе), але ў дзяцінстве я пакутліва перажываў нават рэдкія паражэнні. Быў «завадны», не заўсёды ўмеў справіцца з сабой. Неяк у першынстве горада сярод юнакоў, прайграўшы Мішу Кацу, быў блізкі да таго, каб кінуць шашкі. Але спорт — гэта пастаянная работа над сабой, гэта пераадоленне сябе. Гэта я зразумеў, як і тое, што без дапамогі ўсіх, хто акружае, станаўленне характару адбываецца цяжэй.

Даволі лёгка даваліся мне і перамогі ў юнацкіх спаборніцтвах: у 1962 годзе быў першым на першынстве Беларусі сярод юнакоў, праз год перамог на стоклетачнай дошцы ў камандным першынстве СССР сярод юнакоў. Гэты поспех упершыню прынёс сапраўднае задавальненне.

«Час паставіць перад сабой задачу выканаць нарматыў майстра»,— вырашыў я. Перш за ўсё трэба было зрабіць выбар паміж рускімі і стоклетачнымі шашкамі, бо я з аднолькавым захапленнем гуляў і ў тыя, і ў другія. Раней ды, бадай, і зараз рускія шашкі імпануюць мне сваёй завершанасцю. Разлік ігравых прадаўжэнняў — як доказ тэарэмы. На вялікай дошцы «чыстыя» выйгрышы рэдкія, многае тут залежыць ад памылак праціўніка. Любуючыся строгай прыгажосцю рускіх шашак, я добра ўяўляў аб'ём тэорыі ў гэтай гульні — што і дапамагло развітацца з ёю... Калісьці, напэўна, як і ўсім пачынаючым шашыстам, мне было цікава вышукваць новыя дэбютныя варыянты. Але з узростам «лавіць на варыянты» становіцца менш цікава. Помню, мы шмат гаварылі пра шашкі з Віктарам Літвіновічам. Аднагодкі, мы моцна сябравалі. Ён у 17 гадоў ужо быў чэмпіёнам СССР, буйнейшым тэарэтыкам, салідным аўтарытэтам для любога шашыста. Але тым не менш прызнаюся мне ў сваіх сумненнях: магчыма, яшчэ не позна перайсці на «вялікую дошку».

Памятаю кур'ёзны дэбют. У 1961 годзе юнацкая каманда Мінска адпраўлялася ў Вільнюс на сяброўскі матч. Я гуляў на першай дошцы з Якавам Шаусам, цяпер вядомым трэнерам. У сярэдзіне партыі ён прапануе «размен»: аддаў адну шашку, зняў дзве, пасля чаго і я пабіў адну. На дзіва мне, праціўнік уключыў мой гадзіннік і сказаў: «Біць большасць». Высветлілася, што я павінен біць у іншым напрамку дзве шашкі — праціўнік правёў папулярны удар «бомба».

Поруч з шашкамі я ўсур'ёз займаўся футболам. Вучыўся добра, але два віды спорту трымалі мяне ў пастаянным цэйтноце і не заўсёды ўжываліся адзін з адным. І вось — чэмпіянат Беларусі ў 1963 годзе, мне заставалася набраць паўтара ачка ў дзвюх апошніх партыях — і я станавіўся майстрам спорту. Але ў гэты ж час праходзіў юнацкі чэмпіянат горада па футболу. Мела адбыцца важная гульня перад перадапошнім турам чэмпіяната рэспублікі. Я прыкінуў: паспею. Але... спазніўся суддзя. Трэнер паставіў мяне на другі тайм. Пасля гульні я стрымгалоў памчаўся ў шахматна-шашачны клуб і не паспеў: мне была зафіксавана няяўка. Гуляць трэба было з Бельскім! Ён, як звычайна, быў прынцыповы і непахісны, на блытаныя тлумачэнні (я ўтаіў, што гуляў у футбол) патрабаваў дакументальнага пацвярджэння. Гуляць, урэшце, мне дазволілі, але я стаміўся, перахваляваўся, правёў партыю вельмі ж нервова, азартна і прайграў.

Выступаў я і за юнацкую каманду «Спартак», якая ў 1964 годзе выйграла Кубак Беларусі па футболу. Але стаўшы майстрам спорту па шашках, падвёў рысу пад футбольнай кар'ерай.

У тым жа годзе трапіў у паўфінал чэмпіяната СССР. Перад апошнім турам у Днепрапятроўску мне неабходна было вырашыць, якую тактыку выбраць: нічыя давала магчымасць стаць майстрам спорту, перамога забяспечвала пуцёўку ў фінал. Да першай мэты я ўжо даўно імкнуўся, пра другую — і не задумваўся, мяркуючы, што не гатовы да паядынкаў са слыннымі шашыстамі. І вось стаў майстрам спорту. Паўстала пытанне: «Што далей?»

У 1965 годзе я наблізіўся да выхаду ў фінал чэмпіяната краіны. І ўсё ж не замаркоціўся з-за няўдачы, што можа паказацца ненатуральным, асабліва пры маім характары. Але я заканчваў школу і настолькі сур'ёзна адносіўся да вучобы, што нават адчуў пэўную палёгку, калі адпала неабходнасць рыхтавацца да вельмі цяжкага турніра. Наперадзе былі выпускныя экзамены, паступленне ў ВНУ. Толькі пасля гэтага я пачаў па-сапраўднаму вольна і з «апетытам» гуляць у шашкі.

## ВА УНІВЕРСІТЭЦЕ

Пасля заканчэння школы перада мною не стаяла пытанне, куды паступаць. Канечне ж, ва універсітэт, на «матэматыку»: там вучыліся амаль усе шашысты. Хваліў мой выбар і бацька, які выкладаў матэматыку ў школе. Вышэйшую адукацыю я адначасова атрымліваў і за шашачнай дошкай: на трэцім курсе стаў гросмайстрам. Акурат ва універсітэце склалася моцная шашачная арганізацыя. Вялікую цікавасць выклікала каманднае першынство ВНУ, выпускалася насценгазета, якая прыносіла такое ж задавальненне, як і спецыяльная літаратура. Прадстаўнічай была масавасць: дастаткова ўспомніць матчы на пяцідзесяці дошках паміж універсітэтам і Палацам піянераў. Вядучыя савецкія гросмайстры, што наведвалі Мінск, абавязкова наведвалі універсітэт, выступалі перад студэнтамі з лекцыямі і сустракаліся з імі ў сеансах адначасовай гульні.

Менавіта ў такіх умовах да шашак і хінуліся студэнты, якія дагэтуль ніколі не мераліся сіламі за дошкай. Гэта шматразовы чэмпіён рэспублікі Г. Хацкевіч, чэмпіён СССР па перапісцы Г. Пятровіч, А. Хапалюк, якая паспяхова выступала ў чэмпіянатах СССР сярод жанчын, шматразовая чэмпіёнка рэспублікі Л. Лесіна.

Пастаяннымі аматарамі універсітэцкага шашачнага клуба былі студэнты і педагогі, майстры і пачаткоўцы. Многія выкладчыкі таксама захапляліся шашкамі, і атмасфера ў нашым клубе была дэмакратычнай, тым не менш на экзаменах паслабленняў не рабілі. Веды нашы правяралі прыдзірліва і прынцыпова, а ў выпадку няўдачы на экзамене можна было дабіцца «сатысфакцыі» за дошкай. Але больш разумна было «налегчы на падручнікі».

Ва універсітэце я знайшоў сапраўдных сяброў, з якімі мяне звязвалі агульныя інтарэсы, любоў да шашак, погляды на жыццё. Мы шчыра радаваліся поспехам адзін аднаго. Памятаю агульны трыумф пасля перамогі нашай каманды ў першынстве краіны сярод ВНУ ў 1966 годзе.

У 1967 годзе ў Мінску праходзіў чэмпіянат СССР, адзін тур якога адбыўся ва універсітэце. Бадай, адзіны раз у жыцці я ўсвядоміў сэнс прымаўкі аб тым, што дома і сцены дапамагаюць: я адчуваў за сабой сцяну людзей, якія заўзята «хварэлі» за мяне. А на чэмпіянаце краіны ў Кіеве, гадам пазней, мне ўвесь час званілі з Мінска, пыталіся пра вынік, падбадзёрвалі. І хоць іншы раз на сур'ёзных спаборніцтвах гэта адцягвае ўвагу, падтрымка сяброў надае сілы, стварае баявы настрой, гатоўнасць да барацьбы.

Душой шашыстаў універсітэта быў выкладчык Генадзь Антонавіч Драбушэвіч. Чалавек невычэрпнай энергіі, выдатны арганізатар, ён, акрамя асноўнай работы, узначальваў шашачную федэрацыю Беларусі, трэніраваў маладых. Пад яго ўплывам фарміраваліся такія шашысты, як Л. Сахненка, А. Хапалюк, Г. Хацкевіч, Я. Кухарчук, Ю. Струк, Б. Бліндэр і іншыя майстры.

Мне не заўсёды шэнціла за дошкай, але шанцавала на добрых людзей. Для мяне і іншых маладых шашыстаў было шчасцем трапіць ад цудоўнага педагога Бельскага да такога трэнера, як Драбушэвіч. Чалавек рэдкай дабраты, чуласці, ён заўсёды камусьці дапамагаў, пра некага турбаваўся. Пастаянная ўвага і клопат разумнага, тактоўнага чалавека, які разбіраўся ў жыцці і людзях, мелі велізарнае значэнне для майго спартыўнага і духоўнага станаўлення.

Па тых часах у нас у рэспубліцы налічвалася нямала моцных шашыстаў, і канкурэнцыя стымулявала работу над сабой. Мы настолькі прызвычаіліся да барацьбы ў «дамашніх» турнірах, што і ва ўсесаюзных спаборніцтвах працягвалі «міжусобную барацьбу» з яшчэ большым азартам. Самымі цяжкімі заўсёды былі партыі з землякамі. Так выпрацоўваліся прынцыповасць, бескампраміснасць. Сёння ў спаборніцтвах рознага рангу можна назіраць хуткаплынныя нічые «па дружбе». Мы такога сабе не дазвалялі.

Як я ўжо гаварыў, у партыях вядучых майстроў мне не ўсё было зразумела. Я лічыў: прычына — прабелы ў падрыхтоўцы. Але, калі пачаў гуляць ва ўсесаюзных спаборніцтвах з тымі, пра каго раней толькі чытаў у газетах і часопісах, то паступова выявіў, што і ім за дошкай не ўсё ясна. Такой была гульня ў тыя гады. Агульныя заканамернасці яшчэ не былі сфармуляваны, нават у творчасці карыфеяў перамяжоўваліся веды і інтуіцыя.

**Пераклад А. БЯРЖЫНСКАГА.**

**(Заканчэнне ў наступным нумары.)**

# ГУМАР




**Шашачны аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР Аркадзь РАКІТНІЦКІ.**

# ЯКІМ ЁН БЫЎ—МІНУЛЫ ГОД?

Канечне, мы маем на ўвазе найбольш важкія дасягненні беларускіх шашыстаў не толькі на ўсесаюзнай, але і на вышэйшай прыступцы — міжнароднай арэне.

Пачнём з самых высокіх прыступак. Іх, як вядома, чатыры. І на першай з іх можа знаходзіцца толькі адзін — лепшы з лепшых.

Маю на ўвазе чэмпіёнаў свету сярод мужчын, жанчын, юнакоў, а таксама пераможцаў каманднага чэмпіяната свету, якія летась адбыўся ўпершыню.

І вось тры з чатырох магчымых, як прынята гаварыць у спорце, за беларускімі шашыстамі. Залатыя кароны ўжо многа гадоў належаць Анатолю Гантваргу і Алене Альтшуль. А вось пад карону каманднага чэмпіяната свету, разам з галоўным «віноўнікам» гэтага ўрачыстага дасягнення Гантваргам, сталі міжнародныя гросмайстры М. Каранеўскі (Ленінград) і харкаўчанін В. Вірны.

Вялікая радасць быць уладальнікам вышэйшага тытула. Але і вялікі цяжар — тытул трэба адстойваць штогод у жорсткай, надзвычай цяжкай барацьбе. Бо такі ўжо статус Міжнароднай шашачнай федэрацыі.

Мы назвалі галоўным «віноўнікам» Анатоля Гантварга. І, сапраўды, калі наша каманда «вісела на валаску», усё вырашыў паядынак нашага земляка з чэмпіёнам Галандыі Робам Клеркам. І толькі перамога мінчаніна дазволіла абысці лідэра спаборніцтваў — нідэрландскую каманду і вывела зборную СССР на першае месца.

Пазнаёмімся з адным прыкладам з творчай лабараторыі А. Гантварга. У становішчы, дзе белымі гуляў Х. Янсен, Гантварг ажыццявіў «узрыўную», далёка разлічаную камбінацыю. Белыя: 24, 29, 31, 35, 36, 37, 38, 39, 42, 44, 48, 50 (12). Чорныя: 2, 3, 8, 11, 15, 17, 18, 20, 22, 26, 27, 28 (12). На, здавалася б, натуральны ход белых 1. 35-30? чорныя адказалі: 1... 28-32! 2. 37:28 26:37 3. 42:31 22:42 4. 31:13 8:19 5. 48:37 20-25 6. 24:13 25:43, і Гантварг атрымаў перамогу.

Парадаваў нас і на рускай дошцы мінскі гросмайстар Аркадзь Плакхін, які ўжо чвэрць стагоддзя з'яўляецца адным з мацнейшых у краіне. У першынстве спартыўных таварыстваў прафсаюзаў СССР, якое праходзіла ў Пінску, А. Плакхін заваяваў залаты медаль чэмпіёна.

Падаём фрагмент з ягонай партыі.



**Выйгрыш.**

Да перамогі яшчэ далёка. Ажно 15 хадоў! Затое якіх хадоў! Набярыцеся цярпення і «прайдзіце» гэты шлях. 1. f2-e3! e5:g3 2. h2:f4 e7-f6 3. e3-d4! d6-c5 4. f4-e5! c5:e3 5. e5:g7 f8:h6 6. e1-f2 h6-g5 7. f2:d4 h4-g3 8. c1-b2 g3-h2 9. b2-a3 g5-f4 10. a3-b4! f4-g3 11. b4-c5 g3-f2 12. c5:a7 c7-d6 13. g1:e3 h2-g1 14. e3-f4! g1:c5 15. a5-b6, і ў чорных няма паратунку.

Ацэнкай «выдатна» і «добра» можна адзначыць «паводзіны» ў Юрмале на чэмпіянаце СССР па міжнародных шашках сярод жанчын 18-гадовых мінскіх майстроў спорту сясцёр Зоі і Олі Садоўскіх. Першая не прайграла ніводнай партыі і ўсяго на паловy ачка адстала ад пераможцы чэмпіяната, а Оля, якая ўпершыню дэбютавала ў такім прадстаўнічым форуме, падзяліла 11-12 месца.

Важкі ўклад унёс у шашачныя дасягненні мінулага года і мінчанін Пётр Шулеў. Ён не толькі выканаў норму майстра па шашачнай кампазіцыі, але і заваяваў залаты медаль па раздзелу задач (рускія шашкі) на чэмпіянаце СССР.

Вось адна з задач Пятра Шулева.



**Заперці дзве простыя.**

Паспрабуйце самі знайсці рашэнне.

За вялікія спартыўныя дасягненні Міжнародная шашачная федэрацыя прысвоіла званні міжнародных гросмайстраў мінчанкам Алене Альтшуль, Людміле Сахненка, Ірыне Пашкевіч, а міжнароднага майстра — Зоі Садоўскай.

Камітэт па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў СССР прысвоіў званні «Заслужаны майстар спорту» Анатолю Гантваргу і Алене Альтшуль, а Аляксандру Чахаўскому — «Заслужаны трэнер СССР».

Што «год грядущий нам готовит»? Будзем спадзявацца — новыя паядынкі, хваляванні, надзеі і... дасягненні.

## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ АДКАЗЫ

**(Гл. «Беларусь» № 5 за 1985 г.)**

1. f2-g3 c5-b4 2. c1-b2! c3:a1 3. a5:c3 a1:d4 4. h4-g5 і выйграюць.

Аляксандра ЕЛІСЕЕНКА

## Ліса-самагоншчыца

(БАЙКА)

Неяк ранняю вясною
Пад такі-сякі шумок
У цёмным лесе пад сасною
Слаўся нізенька дымок.
І панесла самагонам,
Ды такі пайшоў смурод —
Галкі крыкнулі варонам:
Што за серавадарод?!
Захацелася лісіцы
Футру з норкі ці куніцы —
Самагон на продаж гоніць
І звяр'ё лясное поіць.
На двары раздаўся грук —
Прыляцеў сам цецярук,
Прывяло на той дымок,
Да кумы прыйшоў кумок.
Знаеш, кумка дарагая,
Мо хвароба ўжо якая:
Нешта мне дыханне спёрла —
Прамачыць дай крыху горла...
Прыхапіўшы хлеб і шмалец
Прыскакаў туды і заяц,
А за ім прыйшоў янот,
Услед цягнуўся п'яны крот...
І пайшло там піраванне
Аж да самага змяркання,
А пасля яны ад п'янства
Перайшлі да хуліганства.
Дома — слёзы, дома — гора —
Па калена п'яным мора:
Не кранаюць сэрца слёзы,
Бо згубілі ў п'янстве розум.

Хопіць дзейнічаць пасіўна!
Трэба нам усім актыўна
Барацьбу павесці з п'янствам
І звярыным хуліганствам!

ВОСТРЫ АЛОВАК



**Без слоў.**
**Малюнак Алега ПАПОВА.**

# КРАСВОРД



**Склаў Васіль КАСЕНКА.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Хімічнае рэчыва. 6. Невялікі грызун. 9. Атрымальнік пісьма. 10. Матэматычны знак. 11. Крываносны сасуд. 13. Цыноўка. 14. Сорт яблыні. 16. Марская рыба. 19. Паэма А. Куляшова. 23. Нябеснае цела. 25. Беларускі пісьменнік. 26. Малая планета. 27. Рака на паўвостраве Камчатка. 28. Лясная птушка. 29. Тканы выраб. 30. Горная раўніна. 32. Мыс у Балгарыі. 33. Сукупнасць пісьмовых знакаў. 34. Апытальны ліст. 36. Паўвостраў у Цэнтральнай Амерыцы. 41. Савецкі шахматыст. 42. Вялікі рускі вучоны. 45. Пушны звярок. 48. Дзяржаўны дзеяч Францыі. 49. Вокісел на паверхні распаленага металу. 50. Грашовая ўзнагарода. 51. Марская жывёліна. 52. Захапленне.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Вадзяны звярок. 2. Возера ў Егіпце. 3. Ягада. 4. Шарсцяная тканіна ўзорнага пляцення. 5. Шматгадовая травяністая расліна з вузкім жорсткім лісцем. 6. Месцазнаходжанне штаба. 7. Вайсковае падраздзяленне. 8. Мора Паўночнага Ледавітага акіяна. 10. Прыборы для асвятлення сцэны. 12. Прыток Дуная. 15. Каштоўны зямны скарб. 17. Рэшткі выкапнёвых жывёл. 18. Савецкі лётчык-касманаўт. 20. Найвышэйшы пункт у Альпах. 21. Від геральдычнай графікі. 22. Вядомы рускі электратэхнік. 24. Лёгкая павозка. 31. Кіраўнік антыфеадальнай сялянскай вайны ў Расіі. 34. Апавяданне М. Лынькова. 35. Венгерскі кампазітар. 37. Ваеннаслужачы. 38. Горад у Чэхаславакіі. 39. Абласны цэнтр у РСФСР. 40. Сімфанічная паэма М. Балакірава. 43. Поле дзейнасці. 44. Сцэнічны твор. 46. Востраў у Міжземным моры. 47. Разнавіднасць вадкасці.

**АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 12**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Кос. 5. Алагоас. 8. Канфеці. 9. Накцюрн. 10. Фразеалогія. 14. Дзед. 16. Цень. 17. Ага. 18. Азімка. 22. Ёлка. 23. Абай. 24. Янка. 25. Іканы. 28. Кап. 30. Індыга. 31. Салоха. 32. Памфлет. 34. Кінафестываль. 35. Маргарыта.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Стог. 2. Кальє. 3. Сокал. 4. Дарызо. 5. «Аіда». 6. «Снягурачка». 7. Кросны. 11. Рубанення. 12. Загадка. 13. Алні. 15. Драфа. 16. Цацка. 19. Маніпулятар. 20. Плеўна. 21. Макуха. 26. «Нос». 27. Бычок. 28. Кімберг. 29. Алень. 32. Прага. 33. Тавот.

Актрыса Стафанія Станюта
(з серыі «Людзі мастацтва»).





Мастак Міхаіл Савіцкі
(з серыі «Людзі мастацтва»).






За аколіцай.

**Віктара САСНОЎСКАГА** я магу назваць фатографам-«энцыклапедыстам». І не толькі таму, што ён некалькі гадоў, перш чым перайсці ў часопіс «Мастацтва Беларусі», працаваў у рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, дзе, натуральна, яму даводзілася рабіць самыя розныя справы: здымаць і рэпрадуктаваць, працаваць у чорна-белай тэхніцы і ў колеры...

Здымае ён усё — вядомых у рэспубліцы людзей, архітэктуру, скульптуру, жывапіс, старыя дакументы... І ўсё ж, заняты рэдакцыйнымі справамі, Віктар Сасноўскі заўсёды імкнецца здымаць і «для душы». А тут ужо тэматыку падказваюць асабістыя схільнасці і інтарэсы, у першую чаргу — спорт. Менавіта заняткі спортам (Сасноўскі — майстар спорту па барацьбе) абумовілі і з'яўленне цэлай серыі «Футбольныя страсці», якая, па сутнасці, мае рэпартажны характар, але тым не менш прэтэндуе на мастакоўскія абагульненні. Тое ж можна сказаць і пра серыю «Бокс — занятак мужчынскі».

Зусім іншая справа — партрэты. В. Сасноўскі іншы раз падоўгу назірае за «аб'ектам», ствараючы партрэт чалавека найперш ва ўяўленні, прыкмячаючы яго характэрныя рысы, як патрабуе таго яго мастакоўскае бачанне. Пры гэтым ягоныя партрэты — не пастановачныя. Вось Міхаіл Савіцкі або Стафанія Станюта — жывыя, непасрэдныя людзі... Такі ж і дзед Янка. Зноў-такі прадбачу галасы: такіх дзядоў і падобных здымкаў было шмат. Згодны. Але здымкі В. Сасноўскага вылучаюцца сярод многіх іншых: адразу відаць, што аўтар укладвае ў спыненае імгненне часцінку сваёй душы...

Разам з тым хочацца сказаць, што «энцыклапедычнасць» В. Сасноўскага часам усё ж адбіваецца на яго работах не лепшым чынам. І часцей — у дэталях, у выбары ракурсу, у тым, што нельга выказаць словамі, але што робіць з простага фотаздымка твор мастацтва.

Відаць, і сам аўтар змешчаных тут здымкаў гэта адчувае. Бо летась Віктар Сасноўскі вырашыў вучыцца журналістыцы і стаў студэнтам БДУ імя У. І. Леніна. Дакладней будзе пра Віктара Сасноўскага сказаць так: вучыцца малады майстар...

Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.



А можа ён
Васілій Цёркін?..



Каваль. Дзед Янка.



Гол
(з серыі «Футбольныя страсці»).



Наташка.





Цана 35 кап. «БЕЛАРУСЬ», 1986, № 1, 1—36. ISSN 0320-7544 Індэкс 74820

# ТВОРЫ ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОГА МАСТАЦТВА



Раіса БРЫСЮК. Палешукі.



Калектыўная праца мастакоў эксперыментальнай майстэрні Міністэрства мясцовай прамысловасці, зробленая па матывах неглюбскага ткацтва.



Алесь ЗІМЕНКА.
Маці-заступніца (кераміка).